НОВЫ ФАРМАТ — 24 СТАРОНКІ

№2 (965) 1 лютага 2017 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# АЙЧЫНА НАШЫХ МАРАЎ

Што хаваецца ў дэталях? Старонка 20.

## Navi: Упершыню песня па-беларуску прагучыць на «Еўрабачанні»

Старонка 3.

## Беларускамоўны кіроўца аўтобуса, бацька пяцярых дзяцей: «А ў людзей аж твары святлеюць»

Старонка 5.

## Разгадка смерці Янкі Купалы?



Старонка 18.

## Нетыповы пенсіянер: спадар Анатоль у 60 гадоў пачаў працаваць у буціку

Старонка 12.

### Ад рэдактара

Палітыка «мяккай беларусізацыі» пачынае даваць свае вынікі. Яе праявы назіраюцца на розных узроўнях і ў розных формах. У Гомелі — другі такі выпадак — былога міліцыянта асудзілі за абразлівыя выказванні на адрас беларускай мовы ў інтэрнэце **(старонка 5)**. Добра — будзе навука.

А з якімі цікавымі людзьмі нашы рэпарцёры сутыкаюцца выпадкова: вось у Мінску кантралёрка метро, хоць сама нарадзіўшыся не ў Беларусі, а ва Узбекістане, прынцыпова перайшла на беларускую мову **(старонка 4)**. А вось кіроўца (і ўласнік) аўтобуса — таксама вырашыў гаварыць так, як ягоныя дзяды **(старонка 5)**. А вось чалавек на пенсіі пайшоў працаваць прадаўцом у модны буцік **(старонка 12)**.

Знакавым стаў выбар *Navi* на «Еўрабачанне» ад Беларусі **(старонка 3)**. Дарэчы, ёсць магія, энергія ў іх песні. Калі не дадуць пеўня на сцэне — і перамагчы могуць.

Кепскім застаецца стан сярэдняй школы, дзе працягваюць панаваць адсталыя, казарменныя педагагічныя прыёмы (дзікі выпадак — **старонка 7**), якія без патрэбы ў сучасную эпоху, толькі нявечаць характары.

Нізкія заробкі ў ВНУ таксама вядуць да дэградацыі ўзроўню выкладання. Але ж інтэлектуальнае жыццё не замірае. Вельмі парадаваў водгук Алеся Белага на кнігу Арлова і Татарнікава «Айчына: ад Рагнеды да Касцюшкі» **(старонка 20)**. Кніга выдатная, нездарма наклад літаральна разлятаецца. А Белы прапануе ісці далей. Мала проста ганарыцца вялікімі князямі, замкамі і бітвамі. Давайце пераадкрываем побыт нашых продкаў, іх традыцыі працы, іх стаўленне да тэхналогій, іх ежу і адпачынак. Бо ў гэтым — культуры работы, культуры побыту — не толькі галоўная адрозніасць беларусаў, але і галоўная сіла.



# Мураўёў сеў, Кныровіч — наступны?

Канец студзеня адзначыўся адразу дзвюма гучнымі пасадкамі бізнэсоўцаў. У справе Аляксандра Мураўёва кропку паставіў суд, следства па справе Аляксандра Кныровіча толькі пачынаецца.

### 11 гадоў узмоцненага рэжыму

У справе былога ўласніка «Мотавела» Аляксандра Мураўёва 30 студзеня быў агучаны вырак: вінаваты!

Мураўёва асудзілі на 11 гадоў з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму, з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пасады.

Мураўёва абвінавачвалі ў махлярстве, здзейсненым арганізаванай групай альбо ў асабліва буйным памеры, крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі арганізаванай групай альбо ў асабліва буйным памеры, ухіленні ад выплаты падаткаў са шкодай у асабліва буйным памеры. Акрамя таго, Мураўёў праходзіў па артыкуле за саўдзел як памагаты і арганізатар.

А пачалося ўсё яшчэ ў 2007 годзе. Менавіта тады Аляксандр Мураўёў, стваральнік і кіраўнік беларуска-аўстрыйскай кампаніі *ATEC Holding Gmbh*, якая займалася ў асноўным шклом, набыў «Мотавела» ў дзяржавы за 7 мільёнаў даляраў. Ён павінен быў «падняць» прадпрыемства, зрабіўшы яго адным з лідараў у галіне. Але ж праз 7 гадоў праверкі паказалі, што «Мотавела» не развіваецца, а гіне далей.

Увогуле, у 2014 годзе праблемы ў Мураўёва пачаліся па ўсіх франтах. Збанкрутавала некалькі прадпрыемстваў яго шкляного холдынгу. А праверка КДК паказала, што на «Мотавела» справы ідуць зусім не так, як планавалася: колькасць работнікаў скарачаецца, агучаных інвестыцый ад Мураўёва завод не атрымаў, наадварот, частку абсталявання бізнэсовец прадаў, пэўную колькасць памяшканняў заклаў іншым кампаніям. Да таго ж, па версіі КДК, сродкі «Мотавела» выкарыстоўваліся іншымі прадпрыемствамі Мураўёва.

Аляксандр Мураўёў быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ у пачатку чэрвеня 2015 года. Ён спрабаваў вылецець з мінскага аэрапорта ў сталіцу Аўстрыі, дзе знаходзіцца офіс яго інвестыцыйнай кампаніі ATEC.

Свой юбілей бізнэсовец сустрэў за кратамі — 11 верасня 2016 года Аляксандру Мураўёву споўнілася 50 гадоў.

А «Мотавела» сёння кіруе Мікалай Ладуцька, былы мэр Мінска.

### Яскравы чалавек Кныровіч

26 студзеня быў затрыманы бізнэсовец Аляксандр Кныровіч. Яго выклікалі на допыт у КДБ як сведку — і затрымалі.

Разам з Кныровічам затрымалі некалькіх ягоных калег.

Аляксандр Кныровіч быў заснавальнікам групы кампаній «Сармат-СТІ», але ў апошнія гады быў больш вядомы як «бізнэс-анёл» — ментар, які апекаваўся стартапамі. Таксама ён быў уладальнікам мінскага бара *Bristle*.

Акрамя таго, Кныровіч актыўна займаўся публіцыстыкай: выступаў на «БелБізнэсЧэнэл» і пісаў для *Kyky.org*. Адзін з яго артыкулаў, з крытыкай афіцыёзнай трактоўкі гісторыі Другой сусветнай вайны, выклікаў часовае блакаванне рэсурса Міністэрствам інфармацыі.

Але ж арышт Кныровіча быў звязаны не з медыйнай дзейнасцю, а з бізнэсам.

Кампанія Кныровіча выпускала будматэрыялы: сухія сумесі, тэрмашубы...

**Працяг на старонцы 9.**

## Сілавікі знялі прэтэнзіі да Чыжа і яго сям'і

Як стала вядома «Нашай Ніве», Камітэт дзяржаўнай бяспекі зняў прэтэнзіі да кампаніі «Трайпл», яе кіраўніка Юрыя Чыжа, а таксама сям'і бізнэсоўца.

Напрыклад, «Трайпл» атрымаў магчымасць распрадаваць свабодныя кватэры ў так званым «доме Чыжа» на вуліцы Старажоўскай, 6 у Мінску. Таксама зняты арышт з усёй нерухомасці Чыжа, у тым ліку з дома ў Драздах, а таксама рэзідэнцыі ў катэджным пасёлку Лагожск пад Лагойскам.

Нагадаем, Юрый Чыж быў затрыманы сілавікамі 11 сакавіка 2016 года. Праз некалькі дзён КДБ вынес пастанову аб накладанні арышту на маёмасць, якая належала яму і яго сям'і.

Пасля былі арыштаваныя дзясяткі кватэр у «доме Чыжа», у тым ліку жыллё трэнера фрыстайлістаў Мікалая Казекі.

Па словах старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка, сума стратаў у адносінах да бізнэсмена складала 240 мільярдаў недэнамінаваных грошай (каля $12 мільёнаў у эквіваленце).

Летам 2016 года гіпермаркеты «Прастор», якімі валодаў Чыж, адышлі пад заклад банкам.

**Ягор Марціновіч**

### Фотафакт




2000 даляраў — столькі грошай перадаў невядомы Змітру Дашкевічу, каб той мог выплаціць штрафы і зняць арышт са сваёй машыны. Без машыны Змітру няма як: у іх з жонкай двое немаўлят, працуе, адпаведна, толькі адзін Зміцер. Зарабляе ён вырабам мэблі, а матэрыял жа не прывязеш без машыны. Штрафаў яму налічылі за выхад на арганізацыю мітынгаў і пікетаў пратэсту. Дашкевіч лічыць, што толькі так можна здабыць нашаму народу грамадзянскія правы.

### Дзякуем чытачам-фундатарам НН

Дзякуем Андрэю Вашкевічу, Вячаславу Кіпрыяновічу, А.В. Бука, З.С.Ізвалавай, Андрэю Кіму, Сяргею Бычкову, Вову Няхаю, Ананіму, Анатолю Жуку, «Усё добра», Яўгену Чыгіру, спадарам Ушацкаму, Максімовічу, Сцяпура, Мікіту Б., DK, Raby А., Я.Каўцэвічу, Aliakseju, Сяргею Ш., Віталю К., Ю.Ю., Алесю з Горадні, А.А. Басаку, Валянціне Трыгубовіч, «калгасу Жалезняковіча», Але Орса-Рамана, Алесі Кіпель, Алесі Сёмуха, Вользе Рошчанка, Івеце Чарапанскай, Валеру і Марыне Кавалеўскім, Аляксандру Т., Кузьмянковай Марыне, П.Н., якія даслалі ахвяраванні на выпуск НН за студзень 2016 года.

### Сцісла

**3000 чалавек прызавуць «у партызаны»**

Для праверкі ўзроўню баявой гатоўнасці з запасу прызавуць 3 тысячы чалавек.

З 30 студзеня ва Узброеных сілах праводзіцца комплексная праверка ўзроўню баявой гатоўнасці. Ацэньваць будуць элементы баявой і забеспячальнай сістэм Узброеных сіл.

Усяго плануецца праверыць прыблізна 30 воінскіх часцей і падраздзяленняў. У тым ліку з запасу прызываюць прыкладна 3000 вайскоўаабавязаных.

**У Гомелі мужчына падавіўся мясам**

Труп знайшлі 30 студзеня каля дома №31 на праспекце Леніна. Судовыя эксперты па адбітках пальцаў вызначылі асобу чалавека. Анатаміраванне паказала, што 53-гадовы мужчына падавіўся кавалкам мяса — проста на вуліцы.

**СГ; БелТА; БелаПАН**

### Апытанне на nn.by

**Вы верыце ў Бога?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 888 | 62% |
| Не | 386 | 27% |
| Не вызначыўся | 147 | 10% |

Усяго прагаласавалў 1421 чалавек.

### Самае чытанае на nn.by за студзень 2016

1 «Размаўляла па-беларуску»: «расіянін» напісаў скаргу на супрацоўніцу мінскага метро

2 У хлопца адмовіліся прыняць на пашпарт фота з вышыванкай. А пасля…

3 Мінскі фатограф зрабіў гарачыя фоты дзяўчыны з кнігай Караткевіча 18+

4 Упершыню на «Еўрабачанне» паедзе беларускамоўная песня — Navi

5 Памёр народны артыст Беларусі Аляксандр Ціхановіч

6 Сем рэчаў, якія робяць Беларусь камфортнай для жыцця краінай — абмяркоўвайце!

7 Разгадка смерці Янкі Купалы?

8 Мінчукі пабіліся з-за паркоўкі. У выніку аднаму ампутавалі мужчынскі орган

9 Затрыманы бізнэсовец Аляксандр Кныровіч, ён у СІЗА КДБ

10 Вядомы беларускі пекар пераехаў працаваць у Вільню: «У Беларусі цябе заганяюць у кут»

# Пяць фактаў пра гурт Navi, які паедзе на «Еўрабачанне»

20 студзеня стала вядома, што нашу краіну на чарговым конкурсе «Еўрабачанне» ў маі будзе прэзентаваць малады гурт *Navi* з песняй «Гісторыя майго жыцця». «НН» сабрала цікавыя факты пра калектыў.



### Ён з Глыбокага, яна — з Мінска

Гурт *Navi* — гэта Арцём Лук'яненка і Ксенія Жук. Яму 24 гады, ёй 25. «Яна — куля, ён — спакойны, разважлівы», — так расказвае мама Ксеніі Наталля Жук.

Арцём нарадзіўся ў горадзе Глыбокае, скончыў беларускамоўную гімназію №3, там яго мама выкладала біялогію. Потым Арцём вучыўся ў БДУ на журналістыцы, працаваў на радыё «Сталіца».

Ксенія нарадзілася ў Мінску, яе бацькі вучыліся ў Педагагічным універсітэце, удзельнічалі ў тэатральнай трупе. Ксенія выкладае вакал для дзяцей у школе.

І Ксенію, і Арцёма аддавалі ў школе ў клас фартэпіяна, толькі Арцём псіханўў і сышоў. Новае захапленне музыкай пачалося ўжо ў 12 гадоў, са спробаў навучыцца граць на гітары. А вось Ксенія гітару не асвоіла, хоць і прасіць Арцёма навучыць яе.

### Знаёмства на Дзень святога Валянціна

Пазнаёміліся Арцём і Ксенія выпадкова, гэта адбылося 14 лютага 2013 года. Ксенія прыехала на рэпетыцыйны пункт, дзе акурат іграў Арцём. Хлопец кажа, што яму адразу прыйшлася даспадобы Ксеніна непасрэднасць, яна папрасіла памацаць кудзеркі Арцёма, пераканацца, што яны сапраўдныя. «Я сказаў: «Вітаю, можа, праспяваем разам», — дзеліцца Арцём.

На той час і ў Арцёма, і ў Ксеніі былі іншыя праекты. Аднак Ксенія кажа, што ў гурце *Sonika* не адчувала сябе сабой, выконвала тое, што яе прасілі. Праз нейкі час Лук'яненка напісаў тэкст «Абдымі мяне» і прапанаваў Ксеніі праспяваць яго разам. Гэта быў першы хіт новага гурту. Цікава, што ў Расіі назву песні перакладалі прыкладна як «Абкуры мяне».

Дарэчы, назва *Navi* нічога не значыць. Можна сказаць, што гэткі набор літар. Хаця па-англійску сугучнае *navy* азначае «флот». А пазней Арцём з Ксеніяй даведаліся, што па-грузінску *navi* азначае «човен», дый па-італьянску *nave* — човен, карабель.

### Аб'ездзілі ўсю краіну з «Мовай нанова»

Арцём і Ксенія не проста спяваюць па-беларуску, але яшчэ і актыўна прапагандуюць беларускую мову. Гурт падтрымлівае праект «Мова нанова». Прычым не толькі ў Мінску, але і ў меншых гарадах, такіх, як Маладзечна, Бабруйск, Гродна. «Мова становіцца трэндам, і гэта радуе», — дзеліцца Ксенія Жук.

«Мы ездзілі на канцэрт у Маскву і там палову песняў спявалі па-беларуску. Масквічы ўспрынялі нас абсалютна адэкватна. Не перадаць тыя пачуцці, калі яны нам пісалі: «Вы нас сагрэлі». А выступы акурат праходзілі ў лютыя маразы».

Тым не менш гурт часта падкрэслівае, што ён па-за палітыкай. «Мы можам выступіць на «Славянскім базары», а пасля паехаць на «Басовішча», — расказваў Арцём.

### Не першая спроба адбору

У 2016 годзе *Navi* ўжо спрабавалі патрапіць у фінал «Еўрабачання» з песняй «Гэта зямля». Але перавага была аддадзеная пратэжэ Дробыша Ivan-у. Праўда, у Швецыі Іван не змог нават выйсці ў фінал. «Тут, відаць, нават не творчасць, а грошы, рэпутацыя і так далей, але падтрымка была неймаверная», — на эмоцыях казаў Арцём Лук'яненка.

Navi ў той год сапраўды падтрымлівалі многія, нават рэдактар «Советской Белоруссіі» Павел Якубовіч. «Вынікам адбору я не задаволены, бо асабіста я перажываў, заўзеў за Navi. Мне здаецца, што гэта вельмі мілая група. Я адправіў дзве эсэмэскі — ад сябе і жонкі», — казаў ён.

### Сумесныя праекты з Грышкаўцом, перапіска з Джыліян Андэрсан

Хай *Navi* і спяваюць па-беларуску, але ў Расіі іх таксама няблага ведаюць. Напрыклад, *Navi* выступалі на юбілейным вечары Дзіяны Арбенінай (таксама родам з Беларусі) у Маскве. Выступалі разам у Магілёве. Выступалі на разагрэве ў Сяргея Бабкіна.

У Гомелі ў адным невялікім бары іх выступ выпадкова пабачыў вядомы расійскі драматург Яўген Грышкавец. «Яны спявалі па-беларуску і па-руску. Гэта было настолькі неймаверна, што я забыўся, што знаходжуся ў пабе, было ўражанне вялікага канцэрта». Пасля гэтага гурт разам з Грышкаўцом запісаў песню «Калыханка». У планах ёсць запісаць сумесны трэк і на беларускай мове.

У 14 гадоў Ксенія Жук пазнаёмілася са славутай амерыканскай актрысай Джыліян Андэрсан (агент Скалі з «Сакрэтных матэрыялаў»). Адбылося гэта на фестывалі *Giffoni Film* у Італіі. Ксенія расказала, што спявае. Праз два месяцы з ёй звязаліся агенты Андэрсан з просьбай пераслаць матэрыял. Дзяўчына пасля гэтага яшчэ перапісвалася з Андэрсан, размаўляла па тэлефоне.

Ксенія Жук кажа, што матэрыял быў яшчэ сыры, таму нічога не выйшла. Цяпер яна і Арцём Лук'яненка больш упэўненыя ў сабе і сваёй творчасці.

**Зміцер Панкавец**

# Спявак Lermont, які трапіў у скандал: Я люблю беларускую мову, спяваю на ёй дачцэ калыханкі

З Рэдакцыяй «Нашай Нівы» звязаўся спявак Васіль Селішчаў (Lermont), які нядаўна прыцягнуў да сябе ўвагу выказваннямі на адрас беларускай мовы.

У інтэрв'ю «Спутніку» музыка заявіў, што «спяваць па-беларуску — не выйсце. На жаль, гэта ўжо амаль мёртвая мова, хоць яе і падтрымліваюць штучна». Гэта выклікала буру пратэсту ў інтэрнэце. У выніку спявак не атрымаў ні аднаго бала ў тэлеадборы.

Пасля конкурсу ён сам скантактаваўся з «Нашай Нівай», каб патлумачыцца.

«Гэта інтэрв'ю я даю па-беларуску, размаўляю на мове пасля вельмі-вельмі доўгага перапынку. Я не кажу, што ідэальна ёй валодаю, але здольны выказвацца.

Мы казалі пра тое, што, толькі спяваючы па-беларуску, не зменіць сітуацыю на беларускім музычным рынку. Пытанне было менавіта пра гэта: «Калі спяваць па-беларуску, ці зменіць гэта сітуацыю?» Не, не зменіць, толькі гэта не зменіць, адказалі мы. Людзі найперш слухаюць не мову, а музыку, патрэбен якасны музычны прадукт.




МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

Мы не давалі парадаў, на якой мове павінен спяваць наш прадстаўнік на «Еўрабачанні». Журналіст жа вырваў з кантэксту фразу пра спевы па-беларуску і склеіў са сваім дадаткам пра «Еўрабачанне» і выйсце. Вось з гэтага і атрымаўся загаловак: «Спяваць па-беларуску на «Еўрабачанні» — не выхад». Мы так не казалі.

Кожны сам робіць выбар, на якой мове спяваць. У мяне таксама ёсць песні па-беларуску. Прычым не адна. Была песня «Пачакай», з якой у 2010 мы спрабавалі трапіць на «Еўрабачанне». Я памятаю, як прыходзіў з гэтай песняй на FM-станцыі, і мне там казалі: «Песня добрая, але мы не ставім у ратацыі песні па-беларуску».

Яшчэ ў 1990-я мы чыталі з дзедам «Свабоду» і «Народную волю», я хадзіў на ўсе Дні Волі, раздаваў улёткі з «Пагоняй». Я хадзіў на ўсе канцэрты N.R.M., спяваў так гучна «Паветраны шар», каб чуў увесь двор.

Я размаўляў па-беларуску ўвесь першы курс універсітэта. Мая жонка вучылася ў Гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа, у якога потым адабралі будынак.

Пра «памерлую мову» я сапраўды сказаў, але меў на ўвазе не тое, што мовы не існуе. Я меў на ўвазе, што, на жаль, беларуская мова вельмі-вельмі мала выкарыстоўваецца беларусамі. І такі стан рэчаў сапраўды існуе.

Калі змяняць сітуацыю, то трэба пачаць з таго, каб беларуская мова не вывучалася ў школах як замежная. На мове не размаўляюць з дзеткамі ў садках. У маёй дачкі ў садку толькі адна гадзіна на тыдзень беларускай мовы. З гэтага трэба пачынаць.

Мне вельмі шкада, што я так неабачліва выказаўся. Я вельмі люблю беларускую мову. Я спяваю сваёй дачцэ перад сном «Доўгі дзень», як спявала мне маці.

Я спяваю ў асноўным па-руску, бо недастаткова добра, на жаль, ведаю мову.

Магчыма, тое інтэрв'ю неяк адбілася на выніках адбору, хоць і не ведаю дакладна. Калі гэта так, то тым больш шкада.

У *Navi* вельмі добрая песня. І кожны раз, калі нас пыталіся, што падабаецца, то адказваў: *Navi*, *Nuteki* і Мікіта Ходас. *Navi* — класныя музыкі для «Еўрабачання».

Я хацеў даць інтэрв'ю «Спутніку» і растлумачыць у ім тое, што меў на ўвазе, калі казаў пра беларускую мову і пра наш музычны рынак.

Але іх рэдактар пад маркай таго, што яна вельмі занятая і яе няма на месцы, не хоча са мной нават размаўляць».

**Запісаў ЗП**

# Даклад Сівіцкага і Царыка: Сёлета Расія паспрабуе забяспечыць поўны кантроль над Беларуссю і змяніць Лукашэнку

Цэнтр палітычных і замежнапалітычных даследаванняў у пачатку гэтага года апублікаваў новы даклад аб беларуска-расійскіх адносінах. Ён мае назву «Аднабаковыя дзеянні Расійскай Федэрацыі ў адносінах Рэспублікі Беларусь у 2017 годзе».



Аўтарамі выступілі кіраўнікі цэнтра Арсень Сівіцкі і Юрый Царык. Папярэдні іх даклад «Беларусь у кантэксце супрацьстаяння Расія—НАТА» нарабіў шмат шуму ў расійскай медыяпрасторы, а аўтараў сталі абвінавачваць у русафобіі і паграджаць турмой.

Новы даклад не менш рэзкі ў сваіх ацэнках. У самым пачатку эксперты ставяць пытанне, што цягам першых дзесяці месяцаў 2017 года Расія паспрабуе забяспечыць поўны вайскова-палітычны кантроль над Беларуссю.

«У цяперашні час беларуска-расейскія адносіны характарызуюцца поўнамаштабным комплексным крызісам, які ўключае як рознагалоссі па канкрэтных пытаннях эканамічнага зместу, так і супярэчнасці па фундаментальных пытаннях стратэгічнага і вайскова-палітычнага характару», — лічаць Сівіцкі і Царык.

Сярод найвастрэйшых пытанняў беларуска-расійскіх адносін аўтары называюць: 1) ціск на Беларусь з мэтай размяшчэння на тэрыторыі краіны расійскіх войскаў на пастаяннай аснове;

2) няўзгодненыя з беларускім бокам план па адпраўцы ў Беларусь 4162 вагонаў з вайсковымі грузамі;

3) нязгода беларускага боку на аплату расійскага газу па кантрактнай цане ў сувязі з рэзкім зніжэннем цэнаў на сусветныя энерганосьбіты ў параўнанні з узроўнем, зафіксаваным у кантракце, а таксама шэраг іншых пунктаў.

«Ва ўмовах комплекснага крызісу беларуска-расійскіх адносін, а таксама ўлічваючы ход развіцця міжнароднай сітуацыі і расійскай унутранай палітыкі, расійскі бок атрымлівае ўсё больш стымулаў для вырашэння сітуацыі, якая складваецца, у аднабаковым парадку.

Такое рашэнне сітуацыі заключаецца ў забеспячэнні поўнага вайскова-палітычнага кантролю расійскага боку над Рэспублікай Беларусь у аднабаковым парадку, ці то ў выніку змены рэжыму або прымянення крайніх формаў ціску на цяпер дзейнае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь», — мяркуюць аналітыкі.

Фактычна падымаецца пытанне, што сёлета Расія можа паспрабаваць скінуць Аляксандра Лукашэнку і на яго месца прывесці больш лаяльнага для сябе кіраўніка.

«З боку расійскай грамадскай думкі легітымнасць можа быць забяспечана ў рамках двух тыпаў наратываў. Наратыў першага тыпу можа быць у тым, што дзейнае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь нібыта стала ахвярай выступленняў «празаходняй нацыяналістычнай апазіцыі», а Расійская Федэрацыя, умешваючыся ў сітуацыю, «садзейнічае аднаўленню законнай улады і канстытуцыйнага парадку».

Наратыў другога тыпу можа быць у тым, што дзейнае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь само адвярнулася ад Расіі і стала саюзнікам Захаду супраць Масквы. У такім выпадку Расійская Федэрацыя будзе проста абараняць свае нацыянальныя інтарэсы», — мяркуюць эксперты.

«Расійскі бок рэзка актывізаваў працу з ультраправымі элементамі ў Беларусі. Гэтаму спрыяе ў тым ліку супярэчлівая палітыка беларускіх сілавых ведамстваў у дачыненні да фанацкіх груповак», — пішуць Сівіцкі і Царык пра інструментарый расійскага боку ў выкананні свайго плана.

Яшчэ адной з пераваг расійскага боку называецца праца са спецслужбамі. «Дадзеная перавага заключаецца як у больш высокім узроўні рэсурснай забяспечанасці, кадравым патэнцыяле адпаведных расійскіх ведамстваў (да іх з нядаўніх часоў дадалася таксама Расгвардыя, у структуры якой створана ўласная разведка), так і ў іх здольнасці ўплываць на працу беларускіх контрагентаў па афіцыйных каналах і неафіцыйна».

«Здольнасць карэктна супрацьстаяць ціску Масквы, адстойваючы ўласныя пазіцыі, але не пераходзячы да канфрантацыі з Расіяй, уяўляе сабой галоўную задачу, якая стаіць на дадзеным этапе перад Рэспублікай Беларусь. У выпадку, калі Беларусі ўдасца вырашыць дадзеную задачу і прадухіліць пераход апісанай пагрозы з боку Расійскай Федэрацыі ў рэальны ўнутраны канфлікт, з чацвёртага квартала 2017 года міжнародная абстаноўка можа змяніцца да лепшага і адкрыць магчымасць для новага прынцыповага і адкрытага абмеркавання беларуска-расійскіх адносін», — робіць выснову аналітыкі.

**Зміцер Панкавец**

# Алег Гайдукевіч пра ўдзел у перадачы на ТВЦ: Самая антыбеларуская пазіцыя ў выхадцаў з Беларусі

Намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Алег Гайдукевіч узяў удзел у перадачы расійскага тэлеканала ТВЦ «Права голасу», прысвечанай адносінам Расіі з Беларуссю і Малдовай. Ён быў адзіным удзельнікам з Беларусі. «НН» пацікавілася ўражаннямі спадара Гайдукевіча ад эфіру.

«Я перакананы, што незалежна ад нашых перакананняў унутры краіны — у мяне адны, у вас іншыя, — выязджаючы за межы краіны, мы ўсе ў першую чаргу павінны адстойваць сваю краіну. Не ўдавацца ў гэтыя палітычныя рознагалоссі. Расійскаму гледачу абыякавыя нашы палітычныя погляды. А я стараўся выступаць менавіта для расійскага гледача, каб ён зразумеў, што Беларусь — гэта суверэнная, незалежная дзяржава, а таксама надзейны саюзнік.

Што тычыцца экспертаў, то чым вышэй ідзеш па палітыках, тым болей разумення Беларусі. У мяне былі сустрэчы ў Дзяржаўнай Думе, у іх няма такога стаўлення, як у экспертаў. А больш за ўсё здзіўляе, што самая антыбеларуская пазіцыя ў выхадцаў з Беларусі. Гэта мяне больш за ўсё абурае. Многія каментары экспертаў паказваюць, што яны Беларусь не ведаюць увогуле, яны тут не былі ніколі.

Не ўсё ж паказалі ў перадачы, хоць асноўныя моманты былі. Гаварыць мне заміналі, я быў адзін. На крык пераходзіў толькі таму, што па-іншаму пазіцыю не данесці. Альбо маўчаць, альбо жорстка адстойваць нашу краіну. Я іх усіх запрасіў у Беларусь: прыязджайце, пагледзіце нашу краіну, мы ў школу вас завядзем, у інстытут.

Наконт беларускай мовы, то я ўвогуле не разумею гэтага трызнення. Як можна крытыкаваць нас, што мы не забываем сваю мову? Ды пры СССР колькі рабілі для развіцця мовы! Мы што, павінны пляваць на сваю мову? Трызненне.




У такіх перадачах удзельнічаць трэба, я буду прыязджаць і, калі трэба, яшчэ больш жорстка адстойваць нашу краіну. Калі мы не будзем туды ездзіць, то яны не будуць чуць альтэрнатыўную пазіцыю. Я магу адзін супраць дзесяці выступаць. Мяне ў другой частцы праграмы вядучы прасіў даць выказацца іншым. А наступны раз не дам кепскае казаць пра нашу краіну.

З боку беларусаў магло ўзнікнуць пытанне, чаму Гайдукевіч больш падрабязна не тлумачыў тую ці іншую праблему. Тлумачу: для расейцаў трэба гаварыць прасцей, максімальна даступна.

Яны ж нават не ў курсе, што адбываецца ў Беларусі, суцэльнае невуцтва. Напрыклад, цэнтр міграцыі, якая тут праблема? Адмянілі візы замежнікам на пяць дзён — і што тут кепскага? Усё трэба тлумачыць.

Гаварыў адзін лысенькі [Юрый Баранчык — «НН»], што мы не павінны шанаваць Радзівілаў. Гэта самая адыёзная пазіцыя, якая шкодзіць беларуска-расійскім адносінам болей, чым хто яшчэ. Я яшчэ сказаў яму, што як будзеце такое казаць, то ў вас хутка саюзнікаў не будзе зусім.

Радзівілаў мы павінны не памятаць? Гэта наша гісторыя, як я магу на яе плюнуць і забыцца. А адносіны ва ўсіх могуць быць розныя. Нехта любіць Каліноўскага, нехта — не. Гэта нармальна, але гэта наша гісторыя. Паважаць павінны? Павінны. У людзей рознае стаўленне да вайны 1812. Ну і што?

Я прыхільнік не абвастраць адносіны, перакананы, што адносіны паміж нашымі краінамі будуць нармальнымі. І ў нас у краіне, і ў іх шкодзяць радыкалы. Дзесьці ў Расіі з'явілася група радыкалаў, іх няшмат, але яны актывізаваліся. Адпаведна, яны ўздымаюць такія тэмы, якія нармальныя палітыкі не ўздымаюць. У той жа Думе ніхто такога не гаворыць».

**Зміцер Панкавец**

# «Размаўляла па-беларуску»: «расіянін» напісаў скаргу на супрацоўніцу мінскага метро

На адну з беларускамоўных супрацоўніц мінскага метрапалітэна нядаўна напісалі скаргу. Жанчыну — Людмілу Майстрэнка — вінавацяць у тым, што яна «размаўляла па-беларуску падчас нагляду рэчаў».

Скаргу напісаў нехта Савіцкі Антон Генадзевіч.

У якасці кантактнага нумара гэты «Антон» пакінуў расійскі нумар іншага чалавека, які ніякіх Антонаў не ведае.

«Свае патрабаванні падчас нагляду асабістых рэчаў Людміла Майстрэнка выказвала выключна па-беларуску, — піша ў скарзе гэты «Антон Савіцкі». — Я папрасіў гаварыць са мной па-руску, але яна адказала, што ў Беларусі я мушу выказвацца па-беларуску. Лічу гэта навязваннем».

Як патлумачыла «Нашай Ніве» сама Людміла, яна лічыць такую скаргу проста трызненнем і прыкметай нізкага выхавання, бо нельга ўявіць, што ў Германіі на супрацоўніка берлінскага метрапалітэна склалі б скаргу на падставе «навязвання» нямецкай мовы.

«Сёння беларусам мову будуць забараняць, а заўтра што?» — эмацыйна сказала нам жанчына.

Цікавы факт, што сама жанчына нарадзілася ва Узбекістане, але беларускую мову вывучыла, калі пераехала ў Беларусь.

«Я не ведала мову, але, калі пачала працаваць у метро, склалася адваротная скарзе сітуацыя — пасажыры наракалі, што ў метро абвесткі па-беларуску, а супрацоўнікі не гавораць. Не раз і не два чула такую прэтэнзію. І ад старых, і ад маладых. Таму вырашыла вывучыць мову, каб хапала для працы», — сказала нам жанчына.

**Арцём Гарбацэвіч**

# «Той каментар быў глупствам» — у Гомелі эксміліцыянта асудзілі за абразу беларускай мовы

У судзе Навабеліцкага раёна Гомеля прайшоў працэс па адміністратыўнай справе: былы міліцыянт напісаў «Укантакце» абразлівы каментар пра беларускую мову. А мясцовы актывіст напісаў на таго заяву.

У суполцы «Укантакце» папулярнага гомельскага сайта «Моцныя навіны» была змешчаная апытанка: «Якая галоўная мова гамельчукоў?». У варыянтах прапаноўвалася: беларуская, руская і трасянка.

Васіль Варушчанка пакінуў пад допісам наступны каментар: «Беларуская мова — гэта труп, які гніе, яго пара ўжо закапаць як мага глыбей. Так лічу».

Карыстальнікі зацікавіліся каментатарам — і асабліва ягонымі неардынарнымі фотаздымкамі. Высветлілася, што мужчына да 2013 года працаваў у мясцовым дэпартаменце аховы МУС.

А Ігар Случак, гомельскі актывіст, накіраваў заяву ў Гомельскі гарвыканкам з просьбай прыцягнуць да адказнасці грамадзяніна, які абразіў беларускую мову. Актывіст палічыў, што гэтым выказваннем аўтар парушыў заканадаўства аб мовах (артыкул 9.22 КоАП).

Намеснік кіраўніка адміністрацыі Навабеліцкага раёна Васіль Зубец паведаміў, што каментарый грамадзяніна пра беларускую мову як «гнілы труп» быў накіраваны на экспертызу з пытаннем, ці можна лічыць такое выказванне абразлівым для беларускай мовы. Эксперты пацвердзілі: выказванне абразлівае.

І вось у выніку Варушчанка ў судзе. Яму пагражае штраф ад 4 да 10 базавых велічынь.

Перад пасяджэннем хлопец прызнаўся, што перагледзеў сваю пазіцыю.



«Перагнуў я палку сваім выказваннем, так. Той каментар быў глупствам. Пакрыўдзіць я нікога не хацеў. Мова не мёртвая, усё ж людзі ёй карыстаюцца, — сказаў Васіль. — Але крыўды на актывістаў, што зачапіліся за гэту гісторыю, не маю — гэта іх уласная сэксуальная драма. Праца ў іх такая, яны грошы за гэта атрымліваюць, мяркую».

«Ці лічу, што вінаваты я? Ну, калі закон парушыў, то вінаваты», — пацiснуў плячыма Варушчанка.

Разглядае справу суддзя Дзмітры Казлоў.

24-гадовы Варушчанка прыйшоў у суд адзін — без сяброў ці праваабаронцаў.

«Мэты кагосьці крыўдзіць я не меў, — паўтарыў Васіль і перад суддзёй. — Віну сваю я прызнаю і раскайваюся. Калі мае словы прызналі абразай, то так і ёсць. Я цалкам згодзен з экспертамі, яны людзі кампетэнтныя — калі вырашылі так, значыць, так. Няведанне закона не вызваляе ад адказнасці — і я панясу пакаранне».

Суддзя Казлоў прызнаў Варушчанку вінаватым і даў яму максімальнае пакаранне — 10 базавых (230 рублёў).

«Недапушчальна так паводзіць сябе грамадзяніну Рэспублікі Беларусь», — сказаў суддзя.

Увесь працэс заняў 17 хвілін.

«Ці справядліва пакаралі мяне? Так, цалкам. Ці буду яшчэ пісаць такія каментары? Паглядзім», — сказаў журналістам Варушчанка.

Абскарджваць прысуд Варушчанка не будзе — нават штраф ён пайшоў плаціць адразу пасля абвяшчэння прысуду.

«Да беларускай мовы ставіцца інакш я не стаў. Мне як было фіялетава, так і засталося. Мне мова не замінае», — сказаў на развітанне Варушчанка.

**Улад Швядовіч, Гомель—Мінск**






# Беларускамоўны кіроўца аўтобуса, бацька пяцярых дзяцей: «Кажу, што з Беларусі, а ў людзей аж твары святлеюць»

Віктар Бразоўскі, 57-гадовы беларускамоўны кіроўца аўтобуса, на якога прарасійскі актывіст напісаў скаргу за бел-чырвона-белую стужку, распавёў «Нашай Ніве» пра свой бізнэс, стаўленне да мовы і жыцця.

### І пайшлі яны абдымаць мяне!

Я сам родам з Валожынскага раёна, з вёскі Вішнева.

Бацька мой паляк, у дзяцінстве ў сям'і гаварылі на польска-беларускай трасянцы. Пасля я быў вайскоўцам, гаварыў па-руску... І гадоў 10—15 таму, ужо сталым чалавекам, паступова прыйшоў да беларушчыны. Прыйшоў, можа, час задумацца, хто я, што я, для чаго я тут... Сам я сёння лічу сябе беларусам.

Беларускасць мая не тое каб дапамагае ці перашкаджае бізнэсу. Ёсць пэўнае кола сталых кліентаў з беларускамоўнага асяроддзя, але я не адмаўляюся і ад іншых. Ніколі ніхто яшчэ не адмаўляўся ад маіх паслуг таму, што я размаўляю пабеларуску.

Але ж былі цікавыя выпадкі, асабліва ва Украіне. Аднойчы прыехалі ў Пачаеў, да аўтобуса падышоў ахоўнік, пакруціўся і пытаецца: «А вы адкуль? Напісана ў вас не па-ўкраінску, але літары да нашых падобныя...» Я адказваю, што з Беларусі. Падышла яшчэ пара чалавек — і пайшлі яны абдымаць мяне! Кажуць, маўляў, у вас такая прыгожая мова!





І ў Кіеве падыходзілі, цікавіліся. І калі даведваюцца, што я з Беларусі, то ў людзей аж твары святлеюць.

### Праца для падтрымкі штаноў

Я і дырэктар, і ўладальнік, і кіроўца, і прыбіральшчык у сваёй транспартнай фірме. Аўтобус узяў у крэдыт, паціху разлічваюся. Але ж я сваю дзейнасць бізнэсам бы не назваў — так, праца для падтрымкі штаноў *(смяецца)*.

Аўтобус афармлены пабеларуску, бо мне падабаецца наша мова. Мне падабаецца маё асяроддзе — усе беларускамоўныя вакол, добрыя і цікавыя людзі.

Што тычыцца чырвонай паласы на борце аўтобуса...

Нядаўна мяне запрашалі ў Валожынскую ДАІ: нейкі Агафонаў напісаў на мяне скаргу. Ну і інспектар зацікавіўся той паласой таксама. Але ж усё скончылася нармальна.

А сам скажу так: мне гэты колер падабаецца. Гэта наш колер, і ён больш даспадобы, чым нейкі... зялёна-іншы *(смяецца)*.

А яшчэ Віктар Бразоўскі — шматдзетны бацька. Мае пяцёра дзетак і двух унукаў...

**УШ**

# Пасол Вялікабрытаніі: На дзяржаўных прадпрыемствах могуць спазніцца або ўвогуле не прыйсці на сустрэчу!

27 студзеня 1992 года Беларусь і Вялікабрытанія ўсталявалі дыпламатычныя адносіны. З гэтай нагоды «НН» пагутарыла з паслом Яе Вялікасці Фіёнай Гіб.

**«Наша Ніва»: 25 гадоў таму былі ўсталяваныя дыпламатычныя адносіны паміж Беларуссю і Вялікабрытаніяй. Чаго ўдалося дасягнуць за гэты час?**

**Фіёна Гіб:** Дыпламатычныя адносіны паміж нашымі краінамі забяспечваюць неабходную аснову для міжнародных адносін. Калі ў краіне няма дыпламатычнай прысутнасці, гэта абцяжарвае дасягненні замежнай палітыкі, а таксама ўскладнае вырашэнне пытанняў у галіне нацыянальнай бяспекі. Калі казаць у двух словах, то мы пераходзім на іншы ўзровень разумення адзін аднаго.

**«НН»: А якія канкрэтныя станоўчыя прыклады вы маглі б адзначыць?**

**ФГ:** Гэта наша дапамога Беларусі пасля Чарнобыльскай катастрофы. Вялікабрытанія працягвае яе аказваць да гэтага часу. Некалькі брытанскіх дабрачынных фондаў працягваюць працаваць з пацярпелымі раёнамі. І кожнае лета брытанскія сем'і прымаюць у сябе беларускіх дзяцей. Гэта вялікі поспех у галіне гуманітарных адносін.

**«НН»: Літаральна пару тыдняў таму беларускі ўрад адмяніў на пяць дзён візы для грамадзян ЕС, ЗША і іншых краін. Ці варта чакаць крокаў у адказ ад Вялікабрытаніі, чаму ўвогуле вашую візу так складана атрымаць?**

**ФГ:** Мы вітаем рашэнне ўрада Беларусі аб увядзенні новай візавай сістэмы. Гэта вельмі добрае рашэнне, але тэрмін — занадта маленькі. Мне здаецца, што тэрмін павінен быць дзесяць дзён ці нават больш, каб па-сапраўднаму пазнаёміцца з гэтай цудоўнай краінай, а таксама ацаніць усе магчымасці, якія краіна адкрывае ў пытаннях турызму і бізнэсу. Здаецца, урад быў занадта асцярожны, і спадзяюся, што найбліжэйшым часам гэты тэрмін будзе працягнуты.

Я думаю, што ёсць планы паслаблення ў будучыні адносна паездак беларусаў у Шэнгенскую зону, але не ведаю дэталяў.

Вялікабрытанія не плануе аслабляць візавы рэжым.

Вялікая колькасць людзей хоча прыехаць у Вялікабрытанію, і, значыць, наш урад павінен кантраляваць колькасць людзей, што прыязджаюць у краіну. Я не магу сказаць, ці складана атрымаць візу. Але калі ў вас ёсць добрая прычына прыехаць у Вялікабрытанію, то праблем быць не павінна.

**«НН»: У Беларусі недастаткова добра прадстаўлены брытанскі бізнэс. З чым гэта звязана? І ці ёсць станоўчыя прыклады?**

**ФГ:** Я б хацела, каб брытанскіх фірм у Беларусі было болей. Канечне, ёсць станоўчыя прыклады, як *Mothercare* ці *Next*. Я ведаю, што адзін са стваральнікаў брэнда адзення *Marks & Spencer* Майкл Марк быў родам з Беларусі.

Бар'ерам для прыходу брытанскага ці іншага бізнэсу ў Беларусь можна назваць адсутнасць канкурэнтаздольнасці ў дзяржаўным сектары. Апроч таго, няма ўпэўненасці ў гарантаванні інвестыцый.

Мне расказвалі пра некаторыя дзяржаўныя прадпрыемствы, якія вельмі непрафесійна будуюць адносіны з брытанскімі кампаніямі. Напрыклад, спазняюцца на сустрэчы ці не прыходзяць увогуле! Гэта ставрае не самыя прыемныя ўражанні. А вось прыватны сектар працуе добра. Не так даўно адна брытанская кампанія ўклала 20 мільёнаў фунтаў у будаўніцтва бізнэс-цэнтра ў Мінску [«Красавік» на скрыжаванні праспектаў Жукава і Дзяржынскага].

**«НН»: У Беларусі мала хто разумее, чаму ў Вялікабрытаніі адбыўся Брэкзіт. Растлумачце, што сталася прычынай такога рашэння грамадства.**

**ФГ:** Гэта быў шэраг прычын. Некаторыя лічаць, — я не кажу, ці маюць яны рацыю, — што з боку Брусэля быў занадта вялікі кантроль. І яны не хацелі гэтага. Вельмі вялікую занепакоенасць выклікаў узровень міграцыі ў Вялікабрытанію, гэта стварала дадатковае напружанне для школ і бальніц. Іншыя лічылі, што эканоміка Брытаніі будзе моцнай, калі яна выйдзе з ЕС.

Што цяпер важна для Вялікабрытаніі — засяродзіцца на будучыні і зрабіць Брэкзіт паспяховым у цесным супрацоўніцтве з нашымі партнёрамі і саюзнікамі з ЕС.

**«НН»: Для многіх у Заходняй Еўропе Беларусь працягвае заставацца белай плямай. Ці шмат вы ведалі пра нашу краіну да прыезду сюды?**

**ФГ:** Думаю, што ў мінулым людзі няшмат ведалі пра Беларусь, але сітуацыя змяняецца. Хаця да гэтай пары многім у Вялікабрытаніі незразумела, з якімі пяццю краінамі мяжуе Беларусь. Я кажу ім, што Беларусь знаходзіцца ў самым цэнтры Еўропы, і я стаяла на гэтым месцы ў Полацку! Для вашай краіны важна зацікавіць людзей прыехаць сюды. Адкрыццё краіны дапаможа эканоміцы Беларусі і дасць людзям новыя працоўныя месцы.

Калі я працавала ва Украіне 20 гадоў таму, то Беларусь была для мяне загадкавай краінай на поўначы, яна здавалася мне замкнёнай і няветлай. Канечне, мы ведалі, што Беларусь прыняла на сябе асноўны ўдар Чарнобыля.

**«НН»: Як зрабіць, каб пра Беларусь болей ведалі ў Вялікабрытаніі?**

**ФГ:** Урад можа запрашаць прадстаўнікоў турбізнэсу ці журналістаў і паказваць ім краіну. Мы запрашаем на лютаўскі кніжны кірмаш у Мінску аўтара адзінага англійскамоўнага гіда па Беларусі. Міністэрства спорту і турызму добра ведае гэтага аўтара і збіраецца абмяркоўваць гэтую тэму.

Сёлета мы галоўны госць на кніжным кірмашы, прыедзе шмат цікавых аўтараў, будзе конкурс для дзяцей, шмат розных падзей. Мы хочам прасоўваць англійскую мову, адукацыю. Хочам, каб развіваліся адносіны паміж беларускімі і брытанскімі кнігагандлярамі. Мы апублікуем на сваёй старонцы ў фэйсбуку афіцыйную праграму мерапрыемстваў.



Фіёна Гіб на службе ў МЗС Вялікабрытаніі ад 1990 года. Працавала з місіямі ў Германіі, Украіне, Самалі, Іраку, Емене. Паслом у Беларусі ад студзеня 2016 года.

**«НН»: Ці цяжка вам было пасля Брытаніі звыкнуцца з беларускай рэальнасцю?**

**ФГ:** Я жыла ва Украіне 20 гадоў таму. Мне здаецца, што я лёгка адаптуюся да новага месца, у тым ліку да Беларусі. Зімой тут не так кепска, як у Кіеве калісьці, хаця ўсё адно даволі шэра. Я шатландка, у нас незнаёмыя людзі ў магазінах завязваюць размовы, пакуль стаяць у чарзе, найчасцей пра надвор'е. Брытанцы размаўляюць з вамі, гатовыя ўсміхнуцца незнаёмаму чалавеку, калі ёсць нагода, яны адчыняюць перад вамі дзверы і кажуць «дзякуй». Тут людзі гасцінныя, але ў плане асабістых адносін не размаўляюць адзін з адным на вуліцах, прадавачкі ў магазінах могуць быць вельмі грубымі.

**«НН»: Чаго з брытанскіх тавараў вам бракуе ў Беларусі?**

**ФГ:** Я сумую па пэўным тыпе натуральнага ёгурту, які выраблены з казінага малака. Я вегетарыянка, таму сумую па вегетарыянскіх сасісках. Можа быць, іх можна купіць у крамках, але не ў супермаркетах. У Брытаніі адмова ад мяса вельмі папулярная, таму купіць такія прадукты не пытанне. Таксама мне не хапае сыру халумі.

**«НН»: Як праходзіць вашае жыццё ў Беларусі па-за працай, ці ёсць у вас хобі?**

**ФГ:** Ёсць. Амаль кожныя выхадныя я катаюся на конях у маленькай вёсцы за 33 кіламетры ад Мінска. Хацелася б практыкаваць хадзьбу на лыжах, але для гэтага неабходная кампанія. Я вучуся гуляць у тэніс, узяла каля васьмі ўрокаў. Цяпер атрымліваю задавальненне ад гульні. Магчыма, нават буду ўдзельнічаць у міждыпламатычным тэнісным турніры. Таксама я люблю мастацтва, хаджу на канцэрты, балет. У мяне ёсць кларнэт, але каб на ім пачаць іграць, трэба ўзнавіць заняткі, не хапае часу на ўсё, чым бы я хацела займацца.

**«НН»: Ці ведаеце вы нешта пабеларуску?**

**ФГ:** Некалі вучыла ўкраінскую мову, тады я была маладзейшая. Цяпер гэта нашмат цяжэй, няма часу. Я магу сказаць «дзякуй», «я ведаю трошкі беларускую мову», «я чакаю». Іншым разам я выкарыстоўваю словы. На мінулым тыдні я сказала: «Я чакаю яго», а не «жду».

**Гутарыў Зміцер Панкавец, фота Ірыны Арахоўскай**

**Каментар**

## Трамп разлічвае на распад ЕС. Што гэта значыць для Беларусі

Піша **Андрэй Дынько**.

У сваім першым інтэрв'ю еўрапейскім СМІ Трамп сказаў, што Еўрапейскі Саюз — гэта найперш «лакаматыў для Германіі». І недвухсэнсоўна дадаў: «Я лічу, што іншыя будуць сыходзіць», як гэта плануе зрабіць Вялікабрытанія. Да гэтых слоў дадалося абяцанне прыярытэтна заключыць дамову аб свабодным гандлі з Брытаніяй — сігнал іншым патэнцыйным кандыдатам на выхад.

70 гадоў ЗША бачылі ў Еўропе процівагу Савецкаму Саюзу і Расіі, важнага і надзейнага саюзніка.

Трамп жа бачыць у Еўрасаюзе эканамічнага, гандлёвага канкурэнта і таму мае намер аслабляць яго. ЕС экспартуе ў ЗША больш, чым імпартуе — значыць, ЕС праціўнік.

Такая логіка стала шокам для еўрапейскіх лідараў.

### План Трампа

70 гадоў ЗША спрыялі еўрапейскаму адзінству. Гэтая краіна рэалізавала план Маршала, падтрымлівала стварэнне адзінага еўрапейскага рынку і спрыяла пашырэнню Еўропы на Усход пасля падзення жалезнай заслоны. А цяпер у Белы дом прыйшоў чалавек, які разлічвае на распад ЕС.

Больш за тое, ягоныя жаданні супадаюць з мэтамі Пуціна. Расія актыўна працавала на развал Еўрасаюза ўсе апошнія гады.

Унутрыамерыканскія спрэчкі — кансерватыўны ці ліберальны падыход да абортаў, права на валоданне зброяй, прыём імігрантаў і тым больш *Obamacare* — маюць на Беларусь ускосны ўплыў. У нас свой лад, свае звычкі і традыцыі, яны ўстойлівыя, змяняюцца з часам, але не хутка, і амерыканскія ўзоры працуюць не ўсе і не заўжды.

Намер Трампа абмежаваць гандаль з Кітаем, Мексікай ці Нямеччынай будзе ўплываць на сусветную эканоміку ў цэлым і цэны на нафту ў прыватнасці, ад якіх залежыць расеізалежная беларуская гаспадарка. Баюся, вынікаў гандлёвай вайны ЗША з Кітаем не можа прадказаць ніхто ў свеце — нават кіраўніца Федэральнай рэзервнай сістэмы ЗША.

Цікава, што сусветныя рынкі амаль ніяк на гэтую пагрозу не рэагуюць. Магчыма, бізнэс не верыць, што гэтыя пагрозы будуць Трампам рэалізаваныя.

Магчыма, нічым не скончацца і пагрозы Трампа на адрас ЕС і НАТА. І гэта добра, бо распад Еўрасаюза і Паўночнаатлантычнага альянсу меў бы для Беларусі вызначаныя і ясна негатыўныя наступствы.

Для Беларусі Еўрасаюз пры ўсіх сваіх слабасцях і ўмоўнасцях быў полюсам — сімвалічным, але таксама і эканамічным і, патроху, таксама палітычным, які ўраўнаважваў полюс Расіі.

### Полюсы сілы вакол Беларусі

Мінск мог доўга і дробязна дражніць і крытыкаваць Еўрасаюз — за што атрымліваў грошы ад Расіі. Беларусь пры гэтым някепска адчувала сябе між двума полюсамі сілы — Расіі і Еўрасаюза. Перыяд пашырэння Еўрасаюза і росту яго эканомікі быў адначасова перыядам, калі Беларусь дасягнула раней нязнанага дабрабыту.

Самае страшнае для Беларусі і рэгіёна сталася б, калі б пачалі перакройваць межы. Страшнае — бо сама Беларусь мае найслабшае «нацыянальнае пачуццё» і пры гэтым наймацнейшую энергетычную залежнасць. Калі каго і захочуць «з'есці не падавіўшыся», то гэта яе.

Канечне, пасля 70 гадоў міру ў Еўропе цяжка паверыць, што выпадковая перамога папуліста на прэзідэнцкіх выбарах у ЗША здольная за некалькі гадоў перакуліць усю сістэму еўрапейскіх адносін.

У кожным разе Трамп разглядае міжнародныя адносіны як *zero sum game*, у адрозненне ад Абамы з яго асцярожным і часта нават нерашучым пошукам *win win*.

### Роля Нямеччыны і Польшчы і выбар Мінска

Цяпер усе погляды звернутыя на Германію. Усё ж Германія багацейшая за Расію і мае каласальны інтэлектуальны патэнцыял.

Германія, імаверна, можа разлічваць на поўную падтрымку краін Скандынавіі, Балтыі, Цэнтральнай Еўропы. Напэўна, і Францыя да Лё Пэн ніколі не апусціцца.

40-мільённая Польшча — таксама моцная эканоміка, што за апошнія дзесяцігоддзі назапасіла 100-мільярдныя золатавалютныя рэзервы.

Ці зможа Ангела Меркель захаваць адзінства Еўрасаюза? Калі ЕС ці прынамсі ягонае ядро выйдзе з гэтага выпрабавання цэлым, то ён выйдзе і мацнейшым. Пакінуты і адкінуты Амерыкай Еўрасаюз *volens nolens* будзе нарошчваць і свае абаронныя магчымасці.

Калі Расія не будзе замахвацца на межы і суверэнітэт, то Беларусь застанецца яе сатэлітам.

Калі ж Расія будзе замахвацца, то Беларусь у пошуках процівагі Расіі можа паспрабаваць зблізіцца з Польшчай, Нямеччынай і скандынаўскімі краінамі. Нават зменшаны ў памерах Еўрасаюз застанецца эканамічным гігантам і носьбітам вялікіх ідэй і каштоўнасцяў.

# Надзея Ермакова зноў спрабуе здаць у арэнду катэдж у Драздах — за $4500 на месяц

Экс-кіраўніца Нацбанка Надзея Ермакова зноў спрабуе здаць у арэнду катэдж на Смарагдавым завулку ў Драздах. Праўда, праз крызіс яе апетыты паменшалі.








Паўтара года таму Ермакова скінула цану з $7500 да $6000. Цяпер жа гатовая здаць элітную нерухомасць за $4500.

Нагадаем, гэты ўчастак памерам 15 сотак быў выдзелены Надзеі Ермаковай яшчэ ў сярэдзіне 2000-х. Пазней гэты дом быў перапісаны на старэйшую дачку Наталлю Чэпікаву.

Сама Ермакова пасля атрымала яшчэ адзін участак, на першай берагавой лініі ў «Драздах-2».

А стары дом спрабуе здаць, пакуль што марна.

Што ўяўляе з сябе катэдж Ермаковай?

На 15 сотках у гаспадароў гэтага дома знаходзіцца невялікі ставок з брукаванай дарожкай вакол, зона для барбекю з печчу-камінам і ляжанкай.

Побач з зонай для адпачынку разбіты агарод. Тут жа пасаджаны малады фруктовы садок.

У аб'яве ўказана, што катэдж двухузроўневы, плошчай 336 квадратных метраў. Адзін з шасці пакояў адведзены пад гасцёўню з камінам і канапавай зонай.

На сцяне, там, дзе ў дзяржструктурах звычайна вешаюць іншы партрэт, тут, дома, — здымак Мэрылін Манро.

Мяркуючы па акне ў столі, спальня знаходзіцца на другім паверсе.

Як мяркуецца, на другім паверсе знаходзяцца і два дзіцячыя пакоі.

## Кіраўнік расійскага ПЭН-цэнтра выказаў жаданне «заехаць па фізіяноміі» Святлане Алексіевіч


Святлана Алексіевіч.
ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ


Яўген Папоў.

Усё яшчэ не сціхаюць жарсці вакол выхаду беларускай пісьменніцы, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святланы Алексіевіч з расійскага ПЭН-цэнтра. Гэта адбылося пасля таго, як з арганізацыі па палітычных прычынах быў выключаны журналіст Сяргей Пархоменка.

«Справа ў тым, што зневажаюць усе ідэалы заснавальнікаў ПЭНа. Канфлікт з Пархоменкам адбыўся праз тое, што не першы раз ужо рускі ПЭН адмаўляецца падпісваць лісты ў абарону людзей, якія пакутуюць ад пуцінскай улады. ПЭН дэкларавае, што гэта не справа пісьменнікаў — кагосьці абараняць, штосьці адстойваць, справа пісьменнікаў — сядзець ціхенька і пісаць, то бок, шчыра сказаўшы, аблізваць боты ўлады», — жорстка адрэагавала на гэта Святлана Алексіевіч, даючы каментар «НН».

Кіраўнік расійскага ПЭН-цэнтра Яўген Папоў, даючы прэс-канферэнцыю ў офісе дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва ТАСС, вырашыў яшчэ раз закрануць пытанне Алексіевіч.

«Яна дэманстратыўна выйшла з клуба і паведаміла напрыканцы, ляснуўшы дзвярамі, што гэты клуб ліжа боты ўладзе. Калі б мне гэта сказаў мужчына, то я б яму з'ездзіў па фізіяноміі. Але дама ёсць дама», — цытуюць словы Папова расійскія выданні.

Таксама Папоў працягваў, што ніякіх слядоў знаходжання Алексіевіч у расійскім ПЭН-цэнтры няма. А як жа членскі білет, які прадэманстравала сама пісьменніца? Папоў перакананы, што яго маглі выдаць па знаёмстве, каб Алексіевіч атрымала візы. «Гэты білет не доказ», — сказаў пісьменнік.

Яўгену Папову 71 год, ён узначаліў расійскі ПЭН-цэнтр у снежні 2016 года, адразу пасля гэтага ў арганізацыі пачаліся чысткі. У знак пратэсту ПЭН пакінула не толькі Алексіевіч, але і іншыя вядомыя аўтары: Барыс Акунін, Уладзімір Сарокін, Уладзімір Вайновіч.

**Зміцер Панкавец**

## Пасажырка папрасілася ў прыбіральню — і пазбегла аварыі, у якой загінулі тры чалавекі

Тры чалавекі загінулі ў аўтамабільнай аварыі, якая здарылася прыблізна а шостай раніцы 27 студзеня ў Рэчыцкім раёне Гомельскай вобласці.

Кіроўца аўтамабіля «Мазда-626» ехаў па дарозе з боку Светлагорска. Ён спыніўся ля абочыны, высадзіўшы пасажырку, якой спатрэбілася ў прыбіральню. Жанчына адышла, а кіроўца па незразумелай прычыне стаў разварочвацца, і ў гэты момант здарылася сутыкненне «Мазды» з аўтамабілем «Фіят-Брава», які рухаўся ў сустрэчным кірунку.

Як паведамілі ва УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама, у аварыі загінулі кіроўца і пасажыр «Мазды» — мужчыны 1989 і 1983 гадоў нараджэння, а таксама кіроўца «Фіята» 1946 года нараджэння.

**Алена Германовіч, БелаПАН**

## Злачыннасць: Заходняя Беларусь бяспечнейшая за Усходнюю




Розніца між Заходняй і Усходняй Беларуссю ва ўзроўні злачыннасці захоўваецца, хоць яна і нязначная.

Пра гэта сведчыць статыстыка за 2016 год, якую апублікавала Міністэрства ўнутраных спраў.

Варта адзначыць, што калі ў 2015 годзе лічба злачынстваў у краіне расла, то ў 2016-м пайшло даволі істотнае зніжэнне. Агулам злачынстваў учынена на 4,2% менш, чым у 2015-м.

Па асабліва цяжкіх злачынствах зніжэнне яшчэ больш — аж на 15,4%. Праўда, на 3,3% вырасла колькасць забойстваў і замахаў на забойствы.

Найбольш, аж на 10%, колькасць злачынстваў знізілася на Берасцейшчыне. Самая ж напружаная крымінальная сітуацыя захоўваецца ў прысталічных раёнах. Мусіць, ад таго, што ў гэтыя раёны ў сілу фінансавых абставін выштурхоўваюцца асацыяльныя элементы з Мінска.

**СГ; МН**

# Журналісты «НН» пабывалі ў таямнічай рэзідэнцыі пад Радашковічамі



**Са старонак беларускіх СМІ не сыходзіць тэма таямнічай сядзібы, якую журналісты знайшлі ў лесе пад Радашковічамі. Тэлеканал «Белсат» палічыў яе рэзідэнцыяй Лукашэнкі, партал Tut.by назваў вотчынай расійскага алігарха Міхаіла Гуцэрыева.**

Каб разабрацца ў сітуацыі, карэспандэнты «НН» з'ездзілі ў радашковіцкі лес і пастараліся знайсці адказы на некалькі галоўных пытанняў.

## 1. Што ўяўляе з сябе рэзідэнцыя?

Сядзібу «Краснасельскае», што месціцца за 40 кіламетраў ад Мінска на беразе ракі Удра, хавае ад вачэй балоцісты лес. Ля павароту на «Краснасельскае» стаіць знак «Уезд забаронены». Адсюль да плота, што агароджвае тэрыторыю 11 гектараў, яшчэ з кіламетр.

Ля самых варот стаіць ахова з сабакам, уздоўж агароджы — камеры відэаназірання. Ніякага будаўнічага пашпарта аб'екта тут, вядома, няма.

Карэспандэнты «НН» зайшлі за плот, але далей іх не пусцілі: маўляў, «прыватная тэрыторыя».

Дырэктар сядзібы Андрэй Анатольевіч, як да яго звярнуўся калега, сказаў «НН», што будаўнічыя работы працягваюцца. Паводле яго слоў, у рэпартажы «Белсата» праўды — 10%. Маўляў, ніякага Беразоўскага тут ніколі не было.

Па інфармацыі Tut.by, на беразе возера пабудаваныя трохпавярховы гатэль і тры жылыя дамы. «Там ёсць басейн, лазні, тэнісныя корты, корпус для прыслугі, верталётная пляцоўка», — удакладняе «Белсат».

## 2. Каму належыць сядзіба?

Замежнікі не могуць валодаць зямлёй, таму яе бяруць у арэнду. Дамова паміж Рэспублікай Беларусь і замежным будаўнічым унітарным прадпрыемствам «СертусАвія» была заключаная ў чэрвені 2012 года тэрмінам на 100 гадоў.

Што такое «СертусАвія»? Актыўнасць гэтай кампаніі ў Беларусі была звязаная з будаўніцтвам ангара ў аэрапорце Мінск-2. Крыніцы Tut.by паведамляюць, што яна звязаная з асобай расійскага алігарха Міхаіла Гуцэрыева.

Гэта мільярдэр, які сябруе з Аляксандрам Лукашэнкам. Яму належаць мінскі гатэль «Рэнесанс», кампаніі «Слаўкалій» і «Слаўнафта».

Мясцовыя чыноўнікі ў якасці кантактнай асобы «СертусАвія» называюць Сяргея Фёдаравіча Лапцёнка, поўнага цёзку топ-менеджара «Слаўнафтахіма».

А вось будынкі на тэрыторыі рэзідэнцыі належаць кіпрскай афшорнай кампаніі. «Блатберг Холдынгс Лімітэд» з Нікасіі выкупіла яе ў 2012 годзе. Прычым прадаўцамі былі разам «СертусАвія» і «Дыпсервіс».

«Дыпсервіс» — арганізацыя, у абавязкі якой уваходзіць забеспячэнне дзейнасці найвышэйшых службовых асобаў, у тым ліку прэзідэнта. Большасць рэзідэнцый Аляксандра Лукашэнкі належыць менавіта «Дыпсервісу». Кампанія ўгоду не каментуе.

## 3. Пры чым тут Лукашэнка?

Мясцовыя жыхары расказваюць, што ў сядзібу часцяком наведваюцца расіяне, а часам адпачывае і Аляксандр Лукашэнка. Напрыклад, прыязджаў 14 студзеня. У той жа дзень, кажуць, паехаў назад. Усё сыходзіцца: у нядзелю, 15 студзеня, Лукашэнка паляцеў у Егіпет.

«У гэтую суботу прыязджаў. Усё ачапілі, на дарогу не выйсці, толькі ў двор, — кажа вясковец у суседнім Даўбораве. — Бывае тут перыядычна, прыязджае раз на месяц».

Нібыта Лукашэнка сустракаў тут Новы год — мясцовыя запомнілі шыкоўны феерверк.

Мясцовыя сядзібай цікавяцца, часам выпраўляюцца на шпацыр паглядзець, што там адбываецца.

Жыхароў у наваколлі мала, пераважна адны дачнікі, якія зімой тут не бываюць. Найбліжэйшае больш-менш ажыўленае мястэчка — Шаршуны, што за сем кіламетраў ад «Краснасельскага». Шаршуноўцы таксама не раз бачылі картэж кіраўніка краіны, які накіроўваўся ў бок «Краснасельскага».

«Вельмі няправільна, што адгарадзілі ўсіх людзей і не далі магчымасці пайсці пакупацца і адпачыць, чыста па-чалавечы», — сказаў адзін з жыхароў мястэчка «Белсату».

## 4. Што ад гэтага мае Беларусь?

Агульная сума, за якую кіпрыёты і расейцы набылі сядзібу, невядомая. Але адна толькі драўляная лазня плошчай менш за 50 м² каштавала $1,04 мільёна.

Што да арэнды зямлі, то бюджэт атрымлівае сімвалічную плату. Штомесяц «СертусАвія» плаціць за арандаваныя гектары... 131,6 рубля, гэта каля $67,5 у эквіваленце.

Варта згадаць яшчэ некалькі працоўных месцаў (у сядзібе пераважна працуюць мясцовыя жыхары).

## 5. І пры чым тут Беразоўскі?

Мясцовыя жыхары расказваюць, што раней на месцы сядзібы «Краснасельскае» быў санаторый, які належаў таварыству паляўнічых. Тады ж і стварылі вадасховішча, якое дазваляла наведваць мясцовым жыхарам. Напрыканцы 90-х санаторый збанкрутаваў, і тэрыторыя адышла ва ўласнасць дзяржавы.

Пасля нібыта з'явіўся інвестар — Барыс Беразоўскі. Жыхары найбліжэйшых вёсак упэўненыя, што раней расійскі бізнэсмен хаваўся ў сядзібе.

У 2013 годзе часопіс *Forbes* пісаў, што ў Беларусі Барыса Беразоўскага з самалёта «сустракала машына з «мігцелкай», і ў суправаджэнні аховы ён ехаў у рэзідэнцыю ў Радашковічах пад Мінскам». «Ён там пабудаваў сабе вёску і кайфаваў. Бярозы, руская жанчыны, свежае марозіва па 20 капеек, чорны хлеб. Ён адчуваў сябе на радзіме», — распавядаў часопісу сябар Беразоўскага.

**Настасся Роўда, Ягор Марціновіч, фоты: Сяргей Гудзілін**

# У «дэкрэце аб дармаедах» змяніліся акцэнты — плаціць будуць толькі нябедныя

**Незалежныя прафсаюзы, апазіцыйныя партыі, дэпутат Ганна Канапацкая заклікалі адмяніць дэкрэт №3, а кіраўнік дзяржавы яго ўсяго толькі ўдакладніў.**

Дэкрэтам №1 ўведзена норма: «Мясцовыя Саветы дэпутатаў або па іх даручэнні мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы маюць права вызваляць ад выплаты збору грамадзян у сувязі са знаходжаннем у цяжкай жыццёвай сітуацыі».

У нарматыўным акце ўдакладняецца, што ў гэтым сэнсе «пад складанай жыццёвай сітуацыяй разумеюцца аб'ектыўныя абставіны (сукупнасць абставін), што не залежаць ад грамадзяніна, якія ён не можа пераадолець за кошт наяўных магчымасцяў».

Такім чынам, згодна з дэкрэтам №1 у Беларусі будзе адразу некалькі катэгорый сацыяльных утрыманцаў:

- тыя, хто афіцыйна не працуе, не мае асабістых афіцыйных даходаў і плаціць прадугледжаны дэкрэтам № 3 збор;
- тыя, хто быццам бы павінен плаціць збор, калі не плаціў падаткі, але вызвалены ад выплаты, паколькі знаходзіцца ў творчым саюзе, знаходзіцца ў спісачным складзе нацыянальнай або зборнай каманды Беларусі, з'яўляецца ваеннаслужачым і г.д.;
- тыя, хто вызвалены ад выплаты збору па беднасці.

Лукашэнка неаднаразова казаў, што дэкрэт №3 нескіраваны супраць хатніх гаспадынь, якія выхоўваюць дзяцей і таму не працуюць. Аднак дэкрэтам №1 з 2017 года ўводзіцца норма, што асоба, якая выхоўвае дзіця, вызваляецца ад збору толькі «пры ўмове, што дзіця ва ўзросце ад 3 да 7 гадоў не атрымлівае дашкольную адукацыю».

### Фокус на заможных

Калі прааналізаваць дэкрэт №3 з папраўкамі, унесенымі дэкрэтам №1, то атрымліваецца, што асноўны сэнс нарматыўнага акта - узяць грошы ў забяспечаных сем'яў, дзе, напрыклад, жонка не працуе, а таксама ў тых, каму працей заплаціць збор (цяпер 20 базавых велічынь складаюць 460 рублёў, або 221 еўра), чым тлумачыць, за кошт чаго ён жыве.

Можна меркаваць, што ўжо шматлікія «дармаеды» знайшлі выкрут, які дазваляе законна не плаціць збор (трапілі ў цяжкія жыццёвыя абставіны, перасяліліся ў вёску, сталі рамеснікамі, уступілі ў творчыя саюзы і г.д.), і колькасць плацельшчыкаў у наступным значна паменшае.

**Павел Быкоўскі, Naviny.by**

**З дармаедаў сабралі ў шэсць разоў менш, чым планавалі**

На сёння, паводле звестак падаткавікоў, аплацілі «збор» толькі кожны сёмы з тых, каму быў выстаўлены рахунак. Сабрана адна шостая тых сродкаў, якія адпачатку разлічвалі сабраць.

Зрэшты, падпісаны 12 студзеня дэкрэт №1 перанёс канчатковы тэрмін выплаты збору на 20 лютага.

**Колькі часу чыноўнікі затрацілі на пошук сацыяльных утрыманцаў?** На перапіску з 400 тысячамі «дармаедаў». Адных пісем адправілі мінімум на 144 тысячы рублёў! Дык ці вартая аўчынка вычынкі?


Аляксандр Мураўёў у судзе кінуў пальчатку сістэме.



Пра бізнэс Аляксандра Кныровіча кажуць: «У гэтай сферы па-іншаму немагчыма».

# Мураўёў сеў, Кныровіч —наступны?

Працяг са старонкі 2.

Ужо праз дзень, 27 студзеня, пра затрыманне Аляксандр Кныровіча выказаўся нават сам Лукашэнка.

«Гэтае пытанне было на кантролі, і я даручыў без усялякіх адтэрміновак і боязі раскруціць яго. Як акуналіся — там сотні тысяч даляраў круцяцца. Выявілі ўсю цёмную бухгалтэрыю. Самае галоўнае, ён жа цяпер плачацца аб памілаванні, гатовы кампенсаваць шкоду, прызнаўшы сваю віну. Спагады да жулікаў ніякай не будзе. Злодзей павінен сядзець у турме — вось такую рэзалюцыю я наклаў на даклад старшыні Камітэта дзяржбяспекі. Усе, хто да гэтага датычны, будуць сядзець», — падкрэсліў Лукашэнка.

Кіраўнік дзяржавы дадаў, што таксама неабходна вывучыць працу кіраўнікоў раёнаў, дзе здзяйсняюцца такія злачынствы. «Чаму яны дапусцілі? Чаму яны закуплялі прадукцыю па завышаных цэнах? — задаў пытанне ён. — Сутнасць гэтага злачынства: куплялі для ЖКГ прадукцыю па завышаных цэнах, гэтую завышаную цану дзялілі паміж тымі, хто купляў, хто быў пасярэднікам. Павязалі дзясяткі людзей хабарамі. Адкрывалі рахункі ў Расіі, Літве, Латвіі. Туды гналі грошы, адтуль чамаданамі вывозілі або на картцы і дзялілі тут. Цэлая злачынная схема. Якая тут можа быць ласка да гэтых людзей, якое памілаванне?»

Па версіі КДБ, з 2014 года прадстаўнікі кампаніі Кныровіча «СарматТэрмаІнжынірынг» забяспечвалі праведзенне заказных біржавых таргоў для рэалізацыі дарагой прадукцыі. Шляхам змовы і подкупу кіраўнікоў і службовых асоб прадпрыемстваў ЖКГ і арганізацый энергетыкі зламыснікі арганізоўвалі ценявыя тэндары. Пры гэтым сумы «адкатаў» закладваліся фірмай у сабекошт прадукцыі, завышаная цана якой улічвалася пры фармаванні камунальных тарыфаў. Гэта значыць, фактычна прыбытак камерсантаў і хабары службовых асоб аплачваліся за кошт насельніцтва. За два апошнія гады фірма «СарматТэрмаІнжынірынг» такім крымінальным шляхам паставіла дзяржструктурам труб на 90 млн рублёў, падазрае следства.

**Улад Швядовіч**

# «Паважаны чалавек, умее знайсці падыход да дзяцей». 61-гадовага фізрука падазраюць у сувязі з 14-гадовай школьніцай

Гісторыя адбылася ў адным з аграгарадкоў у Віцебскім раёне. Яе героі — 61-гадовы настаўнік фізкультуры і яго выхаванка — 14-гадовая школьніца. Паміж імі, па словах маці дзяўчынкі, узніклі пачуцці, якія прывялі да інтымных стасункаў. Мужчына арыштаваны, а васьмікласніца пераходзіць у іншую школу: на старым месцы яе зацкавалі дзеці. Маці жыве на таблетках: органы апекі кажуць ёй, што могуць забраць дачку з сям'і.

— У дачыненні да 61-гадовага жыхара Віцебскага раёна распачата крымінальная справа паводле часткі 1 артыкула 168 Крымінальнага кодэкса (Палавыя стасункі і іншыя дзеянні сэксуальнага характару з асобай, якая не дасягнула 16-гадовага ўзросту). Мужчына знаходзіцца пад вартай, ідзе расследаванне, — пракаментавала афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па вобласці Святлана Сахарава.

Калі віна мужчыны будзе даказаная, то ён атрымае абмежаванне волі на тэрмін да 4 гадоў або пазбаўленне волі на той жа тэрмін са штрафам.

Дырэктар школы сказала, што не будзе каментаваць гэтую сітуацыю прэсе, растлумачыўшы: «Ідзе следства, я дала падпіску пра неразгалошванне звестак».

TUT.BY сустрэўся з Вольгай — мамай 14-гадовай Насці, закаханай у свайго настаўніка фізкультуры Сяргея Сяргеевіча (усе імёны ў гэтай гісторыі зменены).

### «Інтым у іх быў тры разы, у педагога дома»

Насця гадуецца ў няпоўнай сям'і. Яе тата, па словах Вольгі, кантактуе з дачкой рэдка — у яго новая сям'я. Другі раз выйшла замуж і Вольга. Але з айчымам у дзяўчынкі адносіны не склаліся, таму ён жыве асобна ад жонкі і падчаркі. У Насці ёсць старэйшы брат — дарослы хлопец, у якога ўжо свая сям'я.

— Я працую кухарам у кафэ, праца забірае шмат часу. Каб дачка не была сама па сабе, не звязалася з дрэннай кампаніяй, я запісала яе ў школьную секцыю па валейболе і баскетболе. І яна закахалася ў настаўніка фізкультуры. Свае пачуцці ад мяне хавала. Як ужо потым я даведалася, адносіны паміж імі ўзніклі яшчэ мінулым летам — у ліпені. А ў верасні настаўнік уступіў з дачкой у сэксуальную сувязь. Інтым у іх быў тры разы. Гэта адбывалася ў яго дома, — Вольга стараецца трымацца спакойна, не выдаваць сваіх эмоцый.

— Няўжо вы ні пра што не здагадваліся?

— Я лічыла, што мы з Насцяй сяброўкі. Да гэтай гісторыі яна заўсёды са мной усім дзялілася. І пра гэтага настаўніка таксама распавядала, але ў адмысловым святле. Напрыклад, казала, што нібыта яны паехалі з сяброўкай у горад, а там выпадкова сустрэлася з фізруком, і ён павёў іх у кафэ. Насамрэч, ніякай сяброўкі побач не было, і сустрэча з настаўнікам была не выпадковай. Высветлілася, што пра свае пачуцці да настаўніка пісала. Не, не вяла асобны дзённік, пісала ў звычайных школьных сшытках, на адвароце. Пра гэта я даведалася, калі ў нашым доме быў ператрус.

Вольга ўспамінае, што ў самым пачатку года ў Насці з'явіліся двойкі. Маму выклікала да сябе дырэктарка школы. Пасля гэтага жанчына забараніла дачцэ хадзіць на трэніроўкі, раз яна не паспявае з вучобай. Дзяўчынка спалохалася, паабяцала маці падцягнуцца. І сапраўды — хутка выправіла двойкі.

— Гэта потым ужо я зразумела: яна баялася, што не зможа бачыць свайго настаўніка, — кажа Вольга.

Жанчына часта кантактавала з педагогам:

— Мы з ім увесь час стэлефаноўваліся. Я прасіла настаўніка: «Калі трэніроўка затрымліваецца — вы, калі ласка, правядзіце Насцю». Дачка ездзіла на ўрокі на прыгарадным аўтобусе: мы жывем за 4 км ад школы, там праходзіць траса, на ёй заўсёды інтэнсіўны рух. Ён казаў: «Не хвалюйцеся, усё зраблю». Трымаў мяне ў курсе, чым ён займаецца з дзецьмі. Маўляў, сёння яны пойдуць туды і туды. Пазней высветлілася, што яны былі там не з групай школьнікаў, а ўдваіх з маёй дачкой.

Аб сувязі паміж дачкой і настаўнікам Вольга даведалася ад супрацоўнікаў праваахоўных органаў (як менавіта пра сувязь даведаліся самі супрацоўнікі, жанчына не ведае).

— Я была на працы. Тэлефануюць мне і кажуць: «Вязём вашу дачку ў аддзел міліцыі». Класная кіраўніка ў той дзень не было, і я тэлефаную настаўніку фізкультуры: «Што адбылося?». Ён адказвае: «Насцю забралі з-за блізкіх адносін са мной». Я аж аслупянела: «У вас былі настолькі блізкія адносіны?» Ён маўчыць. Кажу: «Вы мяне не чуеце?» Тады ён адказаў: «Не». Я прыехала ў міліцыю і кажу дачцэ: «Скажы мне ўсю праўду. У цябе сапраўды былі адносіны з фізруком?» Яна апусціла галаву і сказала: «Так». Я была ў шоку!

### «Настаўнік жанаты і ходзіць у царкву»

Вольга шкадуе дачку, імкнецца яе зразумець, бо першае каханне — вельмі крохкае пачуццё:

— Разумееце, яна стварыла сабе ідэал. Прызналася яму ў каханні. Яму трэба было хутчэй бегчы да мяне, распавесці пра гэта, і разам мы б прыдумалі, як вырашыць гэтую сітуацыю. А ён ... Я лічу, што ён яе прыручыў. Яны ездзілі ў Віцебск, гулялі па горадзе, хадзілі ў кафэ, ён купляў ёй шакаладкі, марозіва. Летам ездзілі на роварах на возера. Абяцаў Насці, што, калі яна закончыць 9 класаў, адправіць яе ў Маскву вучыцца. Высветлілася, што ён прыходзіў да нас у госці. Я на працу — а ён да нас. Нeяк дачка захварэла, ён прынёс ёй мёд.

У настаўніка ёсць жонка, двое дзяцей, унукі. Яго сям'я жыве ў іншым населеным пункце, кіламетраў за 35. Кватэру ў аграгарадку пад Віцебскам, дзе педагог працаваў, ён здымаў.

Вольга расказвае, што фізрук молада выглядае:

— Максімум, што я б дала яму на выгляд, — гадоў 50. А ён, аказваецца, ужо пенсіянер!

Па словах жанчыны, настаўнік — глыбока веруючы чалавек. Кожныя выходныя ён ездзіў у праваслаўны храм.

— Увогуле, у нашым аграгарадку гэты педагог — паважаны чалавек. Ён каля 10 гадоў прапрацаваў у мясцовай школе. Дзеці яго вельмі любяць, ён умее знайсці да іх падыход. Ніхто, ды і я сама, ніколі не мог бы падумаць, што ён на такое здольны! Таму цяпер у вёсцы шмат хто вінаваціць нас, а не яго. Кажуць, што Насця ўсё прыдумала і помсціць яму. Што яна была з кімсьці іншым, а на Сяргея Сяргеевіча хоча ўсё «павесіць». Але ён спачатку прызнаўся міліцыі, што ў яго была сувязь з Насцяй. А зараз, пасля сустрэчы са сваім адвакатам, «ідзе ў адмову». Паміж дачкой і настаўнікам правялі вочную стаўку. І Насці пасля гэтага стала дрэнна, выклікалі хуткую: педагог сказаў, што ніякага сэксу паміж імі не было, што іх ніколі нішто не звязвала, што яна ўсё прыдумляе.

### «Дачка просіць, каб настаўніка выпусцілі»

Насця бароніць настаўніка.

— Яна закахалася ў яго. Просіць, каб яго адпусцілі. Абяцае, што не будзе з ім сустракацца, абы яго толькі выпусцілі на свабоду, — кажа маці.

Пасля таго, як настаўніка арыштавалі, дзяўчынка хадзіла ў школу толькі адзін дзень. Па словах Вольгі, дзеці не давалі Насці праходу — здзекаваліся. З дзяўчынкай працаваў псіхолаг. Зараз маці пераводзіць дачку ў іншую школу — у іншым населеным пункце.

Вольга прызналася, што з лета мінулага года іх сям'я знаходзіцца на ўліку як у сацыяльна-небяспечным становішчы. Жанчына патлумачыла гэта тым, што доўгі час не магла афіцыйна працаўладкавацца, у яе былі розныя падпрацоўкі: «Пакуль знайшла пастаянную працу, паставілі ў катэгорыю — сацыяльна-небяспечнае становішча. Праца ўжо ёсць, але з уліку пакуль не знялі».

Пасля інцыдэнту са школьным настаўнікам у сям'і можа з'явіцца новая праблема:

— Работнікі апекі і аддзела адукацыі кажуць, што ва ўсім вінаватая я. Што дачка была без нагляду, што я дрэнная маці — не магу забяспечыць належны догляд дзіцяці і яго выхаванне. І зараз ІСН і аддзел апекі разглядаюць варыянт адабрання дачкі з сям'і. Але я хачу, каб у сітуацыі разабраліся аб'ектыўна. І звярнулі ўвагу на настаўніка. Бо ад педагогаў мы, бацькі, чакаем дапамогі ў выхаванні дзяцей. А тут... Называецца, адправіла мама дачку спортам займацца...

**Таццяна Мацвеева, Tut.by**

# Уніформа: у кожнай нацыі свая

Палявая форма дапамагае чалавеку схаваць сябе. Парадная мае дэманстраваць адзінства з нацыяй. Піша **Аляксандр Гелагаеў**.

«Мне ў гэтым? Уаднабортным? Хібавы не ведаеце, што ў аднабортным цяпер ужо ніхто не вае?» — гэтыя словы героя Леаніда Бранявога з фільма «Той самы Мюнхгаўзен» адлюстроўваюць іронію, з якой познесавецкая творчая інтэлігенцыя ставілася да пытанняў вайсковай формы.

Аднак ужо праз дзесяцігоддзе на месцы СССР з'явіліся 15 новых дзяржаў са сваімі ўзброенымі фарміраваннямі, якім спатрэбілася ўласная форма і знакі адрознення. Амаль ва ўсіх гэтых краінах форму на працягу наступных 25 год перапрацоўвалі і мянялі яшчэ не адзін раз.

Здавалася б, цяпер усе ваююць у камуфляжы, імкнуцца зліцца з наваколлем, каб не стаць цэллю для ворага. Навошта ж дагэтуль усе, і перш за ўсё найбольш магутныя арміі свету, імкнуцца захаваць унікальны стыльараднай і службовай формы?

Навошта лішнія выдаткі ўрадам, якія ўмеюць добра лічыць бюджэтныя грошы, і народам, з якіх гэтыя грошы збіраюць? Навошта плаціць за часам вельмі архаічныя і нават смешныя мундзіры?

Паспрабуем знайсці адказы на гэтыя пытанні.



Афіцэры КМП ЗША мамелюкскімі шаблямі вітаюць саслужбоўца і ягоную нявесту.

### «Дачка» новага тыпу дзяржаўнасці

Хоць у старажытнасці ў некаторых нееўрапейскіх дзяржавах Сярэднявечча існавалі вайсковыя фарміраванні з пэўнай ступенню стандартызацыі даспехаў і вопраткі, але рэальным часам нараджэння ўніформы лічыцца XVII ст.

У гэты час еўрапейскія арміі ўжо ў значнай ступені пазбавіліся даспехаў, а дзяржавы, якія паступоваператвараліся з феадальных у цэнтралізаваныя пад кіраваннем адзінай бюракратычнай сістэмы, ужо мелі магчымасць утрымліваць вялікія пастаянныя ўзброеныя кантынгенты.

Колькасны склад армій павялічыўся ў некалькі разоў у параўнанні з феадальнымі часамі. Адпаведна, военачальнікам стала складаней кіраваць на полі бою.

Калі раней князь ці кароль мог агледзець усю сваю армію з аднаго месца і зразумець, што адбываецца, арыентуючыся толькі па сцягах і гербах сваіх васалаў, то цяпер гэта было немагчыма.

Менавіта тады ў шведскай, англійскай і французскай арміях з'явіліся палкі, апранутыя ў адзін колер. Мундзіры тады нічым не розніліся ад цывільнага касцюма, і яшчэ доўга вайсковая мода будзе змяняцца разам з цывільнай. Брытанцы ўпершыню апрануліся ў чырвонае, шведы — у блакітнае і жоўтае, французы — у светлашэрую і белую вопратку, якая нагадвала пра колер каралеўскага штандара.

Акрамя таго, з'явіліся адрозненні паміж мундзірамі палкоў у адной арміі — у асноўным яны розніліся колерамі адваротаў рукавоў і штрыфеляў, колерам каўнярoў.

Такім чынам, мундзір стаў сімвалам новай нацыянальнай дзяржаўнасці, сімвалам, немагчымым у феадальнай арміі, дзе кожны васал караля прыходзіў на службу пад сваім уласным сцягам і гербам.

Канечне, афіцэры-шляхцічы канца XVII—XVIII ст. часта не насілі формы, каб не змешвацца з шарагоўцамі, працягвалі апранацца індывідуальна і багата, а часам давалі волю фантазіі, апранаючы падначаленыя палкі згодна з уласнымі густамі. Аднак галоўнае было зроблена — уніформа (ад лацінскага «адналіты, аднастайны») стала нормай і паказчыкам прагрэсу дзяржавы ў вайсковай сферы.

### Эпоха мундзіра

Канчаткова адасобіўся вайсковы мундзір ад цывільнай вопраткі ў XVIII — пачатку XIX ст. Не толькі колер, але і крой, і асобныя элементы сталі больш прыдатнымі для вайскоўцаў. З'яўляюцца шынялі, эпалеты і пагоны, знакі адрознення.

Акрамя таго, форма нясе функцыю запалохвання праціўніка. Напрыклад, высокія капелюшы элітнай пяхоты — грэнадзёраў — павінны былі дадаткова павялічваць рост і так немаленькіх жаўнераў, якіх набіралі ў гэтыя ўдарныя падраздзяленні. Да таго ж адсутнасць палёў у круглых галаўных уборах дазваляла свабодна кідаць гранаты («грэнады»).

У гэты час уніформа набывае максімальна яркі і пазнавальны выгляд — і дзіва што менавіта ў гэты час адбываецца нечуваная раней па маштабе і эмацыйным накале эпапея Французскай рэвалюцыі і напалеонаўскіх войнаў, якія дагэтуль прыцягваюць увагу гісторыкаў і рамантыкаў.

Прыкладна з гэтага часу вайскоўцы пачынаюць захоўваць традыцыі ўніформы, надаваць ім асаблівы сэнс і перадаваць іх праз пакаленні.

У XVIII ст. заваявалі славу вугорскія гусары, пасля чаго па ўсім свеце з'явіліся палкі лёгкай кавалерыі з расшытымі шнурамі гусарскімі мундзірамі вугорскага тыпу.

Дагэтуль у складзе амерыканскай Нацыянальнай гвардыі існуе эскадрон «Гусараў Джорджыі», якія носяць на святы капелюшы ў стылі кавалерыі XIX стагоддзя і чапляюць залатыя шпоры тым саслужбоўцам, якія бралі ўдзел у баявых дзеяннях. Іх папярэднікі пад тым жа назовам з'явіліся яшчэ ў XVIII ст., ваявалі ў грамадзянскай вайне, Першай і Другой сусветнай, а апошнія страты «гусары», якія дагэтуль займаюцца разведкай, панеслі ў 2009 годзе падчас баёў у Афганістане.

Гусары дагэтуль ёсць і ў складзе брытанскай, дацкай, французскай, шведскай, іспанскай армій.

У XVIII ст. у якасці каскі для рэгулярнай кавалерыі з'яўляецца і канфедэратка. Праз удзельнікаў антырасійскіх паўстанняў, польскіх і нашых палкоў у складзе армій Банапарта, польскіх узброеных фарміраванняў Першай і Другой сусветных войнаў чатырохвугольная канфедэраткарагатыўка застаецца сімвалам польскага войска.

Часам некаторыя гістарычна важныя элементы ўніформы незаўважныя непадрыхтаваному воку. Гэтак, пунсовы лампас на штанах параднай формы амерыканскіх марскіх пехацінцаў называецца «крывавая стужка». Яна з'явілася пасля Амерыкана-мексіканскай вайны 1847 года, калі ў баі пад Чапультэпекам Корпус марской пяхоты вызначыўся мужнасцю і панёс значныя страты.

Яшчэ адным такім элементам з'яўляецца парадная халодная зброя афіцэраў марской пяхоты. Лічыцца, што мамелюкскую шаблю падараваў амерыканскаму афіцэру турэцкі намеснік у 1805 годзе, калі флот і марская пяхота ЗША ваявалі з піратамі ля ўзбярэжжа Паўночнай Афрыкі. Шаблі такога тыпу з'яўляюцца часткай спадчыны КМП ЗША ўжо каля 200 гадоў.

### Камуфляж і традыцыя

«Старая армейская прымаўка «Хіба нехта калі-небудзь бачыў замурзанага салдата з медалём?» у цэлым праўдзівая», — казаў амерыканскі генерал Джордж Патан, адзначаючы сувязь паміж баявой эфектыўнасцю і выглядам жаўнера.

Ужо ў канцы XIX ст. уніформа пайшла адразу ў двух кірунках. Яна мае адначасова дэманстраваць нацыянальную прыналежнасць жаўнера, падтрымліваючы ягоны баявы дух і веру грамадства ў свайго абаронцу, і пры гэтым хаваць жаўнера ад ворага.

Уніформа рэзка падзялілася на яркую парадную, функцыянальную штодзённую і баявую — зялёную, колеру хакі ці камуфляжную. І калі дзве апошнія распрацоўваюць спецыялісты пасля вывучэння баявога досведу, то першая амаль застывае ў часе.

Палявая форма дапамагае чалавеку схаваць сябе, выжыць і знішчыць праціўніка. Штодзённая дапамагае эфектыўна выконваць небаявыя абавязкі. Парадная мае за галоўную мэту прадэманстраваць адзінства з усёй нацыяй і ў той жа час індывідуальнасць свайго падраздзялення.

У Крыме ў 2014 годзе аказалася, што многія ўкраінскія жаўнеры не адчуваюць сваёй сувязі з украінскай дзяржаўнасцю, так і жывуць ментальна паміж Украінай і Расіяй. Гэта прывяло да масавага дэзерцірства і здрадніцтва.

Таму зусім не дзіўным быў крок украінскага кіраўніцтва ў 2014 годзе, калі яно вырашыла пераапрануць армію ў самыя гарачыя часы вайны на Данбасе. Армія і нацыя патрабавалі адлюстравання сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці ў новай уніформе.

Беларуская армія апошні год вучылася змагацца з «гібрыднай» пагрозай. На вучэннях «знішчаліся» атрады баевікоў, якія хацелі перакanaць мясцовае насельніцтва далучыцца да іх.

Аднак сама беларуская армія амаль не адрозніваецца ад савецкай нават фурнітурай — знакамі адрознення, гузікамі, кукардамі. Беларускамоўны шчыток «БЕЛАРУСЬ УЗБРОЕНЫЯ СІЛЫ» — хіба адзінае, што паказвае нацыянальную адметнасць байца. Ці выклікае такая форма гонар сярод тых, хто носіць яе? Вялікае пытанне.

Варта і беларусам, згодна з еўрапейскімі традыцыямі, адлюстраваць у форме багатую вайсковую традыцыю нашай зямлі — ад рыцараў Вялікага Княства Літоўскага да сучасных паўстанцаў і сучаснасці.



Украінскія вайскоўцы ў новай форме на парадзе ў 2016 годзе.

## Як я здаваў макулатуру, або Адпрацоўка на біржы працы

Такім чынам, мне загадана сабраць 5 кг паперы або 20 кг металу, можна рыззё і бітае шкло. Такія ўмовы знаходжання на біржы працы. Выдадзены бланк, на працягу двух дзён я павінен прыйсці ў арганізацыю і збіраць усё гэта.

Я, як законапаслухмяны грамадзянін, прыйшоў ва ўказанае месца і знайшоў аднаго з наменсікаў арганізацыі. Перад працай я папрасіў выклікаць санстанцыю для дазволу мне лазіць па памыйніцах, а таксама міліцыю для дазволу красці металалом. Падпісаць са мной дамову, прайсці медкамісію, прайсці інструктаж па тэхніцы бяспекі, выдаць спяцоўкі…

Чыноўнік паглядзеў на мяне і спытаў: «Вы хочаце, каб я запісаў вам здачу сыравіны?» Я адказаў, што лічу ўсе адпрацоўкі няправільнымі і таму такія мае дзеянні. Чыноўнік намаляваў мне 18 кг замест 5, паставіў пячатку. Я аднёс даведку ў райвыканкам і таксама выказаў сваё меркаванне таварышам, якія курыруюць службу занятасці. У адказ мне абяцалі адправіць кідаць гной на ферме.

Ну што ж, метад абароны выпрабаваны, юрыст сказаў мне, што я маю рацыю. Патрабуйце ўсюды выканання законаў, гэтага баяцца чыноўнікі больш за ўсё. Хопіць трываць самадурства ўказаў.

**Чытач з Быхава**

## Вось гэта размах…

Летась у Гродне, на скрыжаванні вуліц Дубко і Дзяржынскага, у новы будынак пераехала абласная інспекцыя па падатках і зборах. Домікам яго не назавеш — гэта велічны гмах на 4 паверхі і немалы ў даўжыню. Не кожнае міністэрства ў сталіцы мае такі палац з пазалочанай шыльдай на ўваходзе. Адных вокнаў можна налічыць больш за сотню, а фае ўражвае прасторам і царскай прыгажосцю. Ну еўрапейскі шык! На ўтрыманне такога гмаху спатрэбяцца велізарныя грошы. Гродзенскія падаткаплацельшчыкі павінны будуць напружыцца…

**Аляксей Буцько, Гродна**

### Прыватныя абвесткі

**Спачуванні Іллі Арыставу**
Выказваем спачуванні Іллі Арыставу з прычыны смерці маці Ірыны Герасімаўны. Талакоўцы

**Віншуем Барыса і Надзею Гарэцкіх**
Віншуем Барыса і Надзею Гарэцкіх з нараджэннем трэцяга дзіцяці — дачушкі. Хай расце здаровай і на радасць бацькам!

**Віншуем Яўгена Васьковіча і Александрыну Глаголеву**
з нараджэннем дачкі. Віншуем шчаслівых бацькоў і зычым дзяўчынцы моцнага здароўя і шчаслівага жыцця!

**Шчыра спачуваем Вользе Раковіч**
Шчыра спачуваем Вользе Раковіч з прычыны смерці маці. Трымайцеся.

## На злобу дня

Не паспеў правадыр агучыць геніяльную ідэю, як хор падпявал завёў: «Своечасова! Геніяльна! Эпахальна!»

Перанясём заняткі на 9.00! А другая змена? Закончыць заняткі а 21-й? Ці пра другую змену ўладары дум і целаў нашых забылі? Як каралева, якой міністры паведамілі, што ў народу няма хлеба:

— Хай ядуць піроажнае! — ускрыкнула Яе Вялікасць.

А трэніроўкі — у колькі? А казу падаіць? А карове вымя падмыць?

**Тацццяна Карэліна, Мінск**

# Нейтральнасць Беларусі як аснова для нацыянальнай бяспекі

Зберажэнне незалежнасці малых краін нярэдка ў гісторыі было праблемай, вырашэнне якой залежала ад пазіцыі вялікіх дзяржаў. Спробы ўрэгуляваць мірнае суіснаванне дзяржаў і народаў, уключна з абмеркаваннем пытанняў нейтральнасці, заўжды рабілася пасля зацяжных ваенных канфліктаў (Вестфалія, 1648; Вена, 1815; Версаль, 1919—1920; ААН, 1945; АБСЕ, 1995), аднак гэта не спыняла ўзнікненне новых ваенных канфліктаў.

Халодная вайна, якая, як лічылі, скончылася з развалам Берлінскай сцяны, зноў падзяляе свет на часткі. Свет ізноў дзеліць насуперак існуючаму міжнароднаму праву: узгадаем грамадзянскую вайну ў Югаславіі, захоп Расіяй тэрыторый Грузіі (Асецыя, Абхазія) і Украіны (Крым, Данбас). Дзе апынецца краіна Беларусь і як утрымаць яе суверэнітэт? Варыянтаў для Беларусі не так і многа:

— заставацца пад абаронай Расіі,

— рэалізаваць лозунг «Беларусь — у Еўропу»,

— спрабаваць праводзіць палітыку сапраўднага нейтралітэту[1].

### Расійскі патранаж

Расія сёння забяспечвае ядзерны парасон для Беларусі, але даверу да Расіі як гаранту незалежнасці абсалютна няма. Яскравы прыклад таму — Украіна.

На жаль, мы жывём не на востраве, маем з Расіяй працяглыя межы (1200 км) і значныя эканамічныя адносіны (доля Расіі ў замежнагандлёвым абароце складае пад 50%). З гэтым можна жыць. Што нельга трываць, дык гэта знаходзіцца ў ваенным блоку з патэнцыйным агрэсарам (удзел у Арганізацыі дамовы аб калектыўнай бяспецы (АДКБ), супольная з Расіяй супрацьпаветраная абарона, вайсковыя базы на тэрыторыі краіны і сумесныя вучэнні).

Расія ніколі не лічылася з лёсам малых народаў, а расійская каланіяльная палітыка захопу новых тэрыторый услаўлялася паэтамі і пісьменнікамі на працягу стагоддзяў. Усё гэта вылілася ў стварэнне вялікадзяржаўнага мыслення. Прымаецца як дадзенае, што Расія мае асаблівыя правы распараджацца лёсам сваіх суседзяў.

Значная частка сучаснай расійскай эліты не прызнае права беларусаў і ўкраінцаў на стварэнне сваіх нацыянальных дзяржаў.

Далейшае захаванне існуючых каланіяльных узаемаадносін Беларусь-Расія непазбежна прывядзе да паглынання беларускай краіны «русскім міром».

### «Беларусь — у Еўропу»

Выбар шляху для Беларусі ў Еўропу выглядае вельмі натуральным, калі прыгадаць гістарычную прыналежнасць беларускай нацыі і сённяшнюю тэндэнцыю развіцця краіны ў еўрапейскім стылі. У той жа час існуе шэраг абмежаванняў, якія не дазваляюць сёння цвердзіць, што канчатковае станаўленне беларускай нацыі і шлях у Еўропу будзе лёгкім і хуткім. Адзначым толькі, што некаторыя еўрапейскія краіны, якія доўгі час праводзілі палітыку нейтральнасці — Аўстрыя, Ірландыя, Швецыя, — уступілі ў Еўрасаюз (ЕС) адносна нядаўна. На думку Цімаці Снайдэра (2003), для рэалізацыі такой мэты для Беларусі можа спатрэбіцца некалькі дзясяткаў гадоў.

### Нейтральнасць Беларусі

Калі разглядаць стаўленне беларусаў да свету, то каля трацiны людзей выказваецца за нейтральны, самастойны шлях развіцця, каб не туліцца ні на Захад, ні на Усход. Фармальна імкненне да нейтралітэту замацавана і ў Канстытуцыі Беларусі: «Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай» (арт.18).

Аднак паміж «ставіць за мэту быць нейтральнай» і быць нейтральнай ёсць вялікая розніца. Не можа быць нейтральнай дзяржава-ўдзельніца Арганізацыі дамовы аб калектыўнай бяспецы (з 1992) і Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва (з 2015). Знаходжанне ў арганізацыях, створаных азіяцкімі і еўраазіяцкімі краінамі, дыктуецца правядзеннем сумеснай замежнай палітыкі з Расіяй і абумоўлена эканамічнай залежнасцю беларускай краіны.

З другога боку, нас сёння ніхто не чакае ні ў ЕС, ні ў НАТА. І справа не толькі ў тым, якую пазіцыю займаюць гэтыя структуры, а і ў тым, як да такой трансфармацыі будзе ставіцца Расія. Гэта рэальнасць, якая працуе ў сучасным свеце. Спроба Украіны атрымаць дарожную карту НАТА (Бухарэсцкі мемарандум, 2008) не мела поспеху.

З постсавецкіх краін заявы аб імкненні стаць нейтральнымі зрабілі Украіна (1990) і Беларусь (1994), а Малдова і Туркменістан (1995) абвясцілі сябе нейтральнымі краінамі для таго, каб хаця б фармальна гарантаваць сваю бяспеку. Туркменістан нават здолеў дамагчыся прызнання стану пастаяннай нейтральнасці ў ААН (1995). Аднабакова абвешчаная нейтральнасць Малдовы пакуль не прызнаная. Ці абараняе заяўленая нейтральнасць Малдову і Туркменістан ад магчымай агрэсіі? Вядома ж, не.

Украіна, як толькі паспрабавала зрабіць крок у бок Асацыяцыі з ЕС, атрымала пад палітычным і эканамічным ціскам Расіі чарговую Майдан-рэвалюцыю ў 2013 г., страціла Крым і частку Данбаса. Не абаранiў Украіну і Будапешцкі мемарандум, падпісаны Вялікабрытаніяй, ЗША і Расіяй яшчэ ў 1994 г. і які павінен быў гарантаваць бяспеку ўкраінскай дзяржаве ў абмен на вывад ядзернай зброі. У выніку Украіна прыпыніла сваё імкненне быць нейтральнай, заявіўшы 23 снежня 2014 г. аб сваім жаданні ўступіць у НАТА.

### Нейтральнасць нічога не гарантуе

Рэалізацыя палітыкі нейтральнасці заўжды выклікала і будзе выклікаць пытанні. Нават юрыдычнае афармленне стану нейтральнасці не гарантуе абарону ад краіны-агрэсара (Бельгія, 1914). Аднак нейтральнасць / узброеная нейтральнасць Беларусі ў далейшым можа адкрыць шлях да ўступлення ў сістэму калектыўнай бяспекі Еўропы, як цяпер гэта робіць Сербія, праводзячы палітыку ўзброенага нейтралітэту. А, да прыкладу, Швецыя мяняе палітыку нейтральнасці на палітыку няўдзелу ў вайсковых альянсах і праводзіць палітыку салідарнасці ў рамках ЕС.

### Рэферэндум?

Беларусі, каб вырвацца з каланіяльнай залежнасці ад Расіі, адным з выхадаў можа быць правядзенне рэферэндуму аб нейтральнасці. Падаецца, што калі б такое пытанне было пастаўлена на плебісцыт, то яно атрымала б значную падтрымку.

Ідэя нейтральнасці, якой бы яна ні выглядала ўтапічнай, зноў і зноў вяртаецца на сцэну, бо яе рэалізацыя была б выгадная беларусам.

**Пётра Мурзёнак, Таронта**

**З поўнай версіяй артыкула Пётры Мурзёнка можна азнаёміцца ў 16-м нумары часопіса «Культура, нацыя», што публікуюць беларусы Канады.**

[1] Гл. Таксама «З марай пра нейтралітэт», «НН» №25, 2016.

# Адказ Антону Лявіцкаму

**У №28 «НН» за 2016 год Віктар Шукеловіч высока ацэньвае ў сваёй рэцэнзіі раман Зянона Пазняка «Палын-палын». А вось другая рэцэнзія беларуса аспіранта з Нямеччына Антона Лявіцкага на гэты твор у №1 за 2017 год выклікае, мякка кажучы, супярэчлівыя пачуцці.**

Так, Джэймс Джойс — ірландскі пісьменнік. Магчыма, што лёсы яго і Пазняка ў нечым падобныя. Дзесьці на інтэрнэт-старонцы Пазняка я чытала яго артыкул аб падабенстве лёсаў беларускага і ірландскага народаў.

У рэцэнзіі Лявіцкага прысутнічае непаслядоўнасць у ацэнцы рамана Пазняка «Палын-палын».

Вось не зразумела, чаму «асаблівае непаразуменне выклікае сцэна ў цягніку Масква—Мінск». Байструк і начальнік Еська едзе дадому, з ім у вагоне — маскоўскі дацэнт, які «к бульбошам собрался», «уму-разуму научить придурков». У размове раптам высвятляецца, што нават ворагі беларушчыны верыць у тое, у што верыць Пазняк: у старабеларускую мову як адну з самых старажытных моў, на якой было створана права для ўсёй Еўропы».

Узнікае пытанне, чаму беларус Лявіцкі, даючы ў асноўным станоўчую ацэнку раману «Палын-палын», выказвае такую непавагу да аўтара гэтага твора і іншых беларускіх «нацыяналістаў»? Вось тут і выяўляецца ў Лявіцкага адсутнасць крытычнай дыстанцыі, няведанне гістарычнай праўды падзей 1994–1995 гадоў.

Пераканаўчыя адказы на гэтыя падзеі прыведзены ў кнізе Сяргея Навумчыка «Дзевяноста чацвёрты»: «У 1994 годзе ў Беларусі першы і адзіны раз адбылiся прэзідэнцкія выбары. Карнавал дэмакратыі, які перабтвараўся ў хаўтуры, — вачыма ўдзельніка». Вось вытрымкі з гэтага выдання. Як я зразумела з рэцэнзіі Лявіцкага, ён не сумняваецца ў праўдзівасці Быкава. «На першых прэзідэнцкіх выбарах Быкаў быў даверанай асобай Пазняка». На пытанне аўтара (Сяргея Навумчыка) «Якія якасці, на ваш погляд, найбольш неабходныя прэзідэнту — у нашай краіне і ў нашым грамадстве?» Быкаў адказаў: «Мабыць, шмат якія. Але найпершая і самая неабходная — цвёрдае перакананне ў прыярытэце нацыянальнай ідэі, гатоўнасць да ахвярнага служэння ёй…»

Праз нейкі час пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994-га года і парламенцкіх выбараў 1995-га года, сумешчаных з «рэферэндумам», Быкаў адказаў, чаму Беларускі народны фронт і яго лідар не перамаглі. Учытаемся ў словы Быкава: «Удачы не магло быць. Гэта толькі ў нашай «адраджэнскай» эйфарыі мы маглі дапусціць, што яшчэ трошкі, вось выбары, Пазняка выберуць прэзідэнтам… Не магло гэтага быць. Што гэта немажліва па ўсёй логіцы, што падзеі і стан грамадства не дадуць гэтага зрабіць. Яны яшчэ да гэтага не саспелі. Яшчэ трэба да гэтага дайсці».

Быкаў верыў, што дойдуць. Праўда, зрабіў удакладненне: «Калі працэс асіміляцыі не панішчыць беларусаў як нацыю за гэты час».

Сяргей Навумчык на гэта напісаў: «Быкаў дакладна вызначыў прычыну, якая не змагла прынесці поспех беларускай нацыянальнай дэмакратыі — няспеласць грамадства. За грамадства ў значнай ступені адказвае кіруючая эліта, а гэтая эліта (кіруючая) у пачатку 90-х складалася з камуністычнай наменклатуры, якая, акрамя ўсяго іншага, была цалкам пазбаўлена нацыянальнай свядомасці… Трагедыя нацыі ў тым, што кіруючая эліта не ўсвядоміла сябе элітай незалежнай дзяржавы і нічога не рабіла для росту нацыянальнай свядомасці грамадства і яго палітычнай спеласці».

**Ганна Ларыёнава, Бяроза**

# Нетыповы пенсіянер:
## спадар Анатоль у 60 гадоў пачаў працаваць у буціку і знайшоў сябе

Спадар Анатоль Гардзей — нетыповы ўзор беларускага пенсіянера. Напярэдадні 60-годдзя ён пачаў працаваць у краме моднага адзення ў «Маскоўска-Венскім». Ён дагэтуль дабіраецца да працы роварам, карыстаецца інстаграмам, набірае лайкі ў фэйсбуку, вандруе, калекцыянуе вінілы і дакладна ведае, чым «худзі» адрозніваецца ад «світшота» ці «зіпера», і параіць, куды насамрэч трэба чапляць «шабету».



Спадар Анатоль — быццам адказ на няпростае пытанне «ці ёсць у Беларусі жыццё пасля 55+?». Перадпенсійны ці пенсійны ўзрост здаецца многім пунктам незвароту. Застаюцца паркавы аркестр «для тых, каму за...» ды падпрацоўка вахцёрамі і прыбіральшчыцамі. Здаецца, жыццё «55+» складаецца з чэргаў у паліклініку ды электрычак на дачу. Сустрэча са спадаром Анатолем у адным з гандлёвых цэнтраў дапамагае разбурыць такі стэрэатып.

Нават узімку спадар Анатоль дабіраецца да працы на ровары.



Ровар аздоблены налепкай з «Пагоняй».

### Пачатак працы

**— Мы звыкліся бачыць у крамах моды высокіх дзяўчат ці растатуіраваных барадатых юнакоў. Ці не лічыце вы, што ваш вобраз прадаўца нетыповы і немаркетынгавы?**

— Я не адчуваю сябе чалавекам надта пажылым. Нават малодшы сын віншаваў мяне з апошнім юбілеем, адмінусаваўшы 10 гадоў. Да нядаўняга часу я быў як звычайны пенсіянер, які мае «велізарную» беларускую пенсію і якому ўсяго хапае *(смяецца)*. Але і вельмі хацелася ўвесь час быць у кантакце з людзьмі. Асабліва з маладымі людзьмі, бо гэта пакаленне маіх дзяцей. Таму і прыняў рашэнне зноў акунуцца ў свет моды. Мне падабаецца быць актыўным. Хай увесь час і не хапала грошай на Фіджы, але трошкі вандраваў, вёў актыўны лад жыцця. Ровар і лыжы пастаянна былі важным яго складнікам.

**— Ці памятаеце першы працоўны дзень?**

— Так. Гэта было знянацку. Якраз быў дзень перад Раством. 23 снежня. Не было каму працаваць, і цудам прапанавалі мне. Спыталіся, ці ёсць жаданне, а я згадзіўся і быў на сёмым небе ад шчасця. Трошкі хваляваўся, бо не меў досведу. Але супакоўся, бо меў 13-гадовы стаж эксперта ў Гандлёва-прамысловай палаце. Рызыкнуў. 23 снежня быў такі наплыў кліентаў, ажно галава кругам ішла, бо з кожным хацелася перакінуцца парай слоў. Быў вельмі напружаны дзень. У гэтай мітусні я зразмеў, што гэта — маё! З таго дня я ні разу не пашкадаваў аб сваім рашэнні.

**— І няўжо не перажылі ніякага негатыву за 2 гады?**

— Хіба толькі пару разоў прыходзілі «расейскія турысты» і пыталіся: што гэта вы тут на «вашам языке разговариваете»?! А так усё надзвычай пазітыўна.

**— А як наконт спецыяльнай лексікі? Вашы аднагодкі наўрад гэтак смела апранаюцца і мала хто з іх ведае назвы рэчаў, якія вы прадаяце?**

—Асартымент у краме спецыфічны. Прыходзіцца тлумачыць нават маладым людзям, што такое той «зіпер» ці «шабета». Гэта запазычаныя словы. Цішотка, напрыклад, гэта ж ужо наш наватвор, бо ў арыгінале гучыць «T-Shirt». З шабетай выходзяць часта цікавыя выпадкі. Людзі прыходзяць і пытаюцца, ці ёсць у нас барсеткі. А я адказваю, што барсетка — гэта торба для лахоў, такая невялічкая, як дамская торба, для дакументаў, грошай ці чаго там яшчэ. Перажытак бандыцкіх часоў. А шабета — зусім іншае. Сюды нават рафандылька можа ўлезці.

**—А што такое «рафандылька»?**

—Ну... Гэта такая бутэлечка невялікая.

### Актыўнасць

**— Кажуць, што кліенты прыходзяць да вас не толькі абнавіць гардэроб, але і проста пагутарыць.**

— Для гэтага давялося завесці акаўнты ў інстаграме і фэйсбуку. Адкрыў для сябе свет лайкаў і каментаў. Стаў сачыць, што там за здымкі змяшчаюць і як ацэнваюць маю сціплую працу *(усміхаецца)*. Стараюся, канечне, не бавіць у тых «інтарнэтах» зашмат часу, каб жыццё было актыўным. Стараюся мала есці, шмат рухацца, хадзіць болей і шмат усміхацца. Мая суседка з гэтай нагоды нават увесь час кажа, што я дзіўнаваты. Ну і, безумоўна, ровар.

**— Няўжо за сям'ёй і працай яшчэ на нешта хапае часу?**

— Доўгія гады я ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці і ў хоры пры Чырвоным касцёле. Спявалі там разам са Змітром Афанасенкам — ён, дарэчы, з гурту *Amaroka*. Ён пасля ўзяўся за рок, а я задумваюся часам, можа, і мне варта было паспытаць *(смяецца)*. Ровар заўсёды займаў асаблівае месца ў маім жыцці. Некалькі гадоў таму дзеці з Германіі прывезлі сапраўдны горны.

Апроч таго, страшэнна люблю чытаць і маю багатую калекцыю вінілаў і музычных запісаў на электронных носьбітах.

**— Бачу, вы яшчэ за савецкім часам пачалі калекцыю.**

—У камуністычныя часы было вельмі цяжка здабыць нешта вартае. Прыходзілася нават начыць пад крамамі, каб набыць плыту. Памятаю, што такім чынам здолеў набыць першы запіс *Beatles*, які быў выдадзены ў Рызе, а іншае стараўся здабыць з Польшчы, перкупіць у фарцоўшчыкаў, нешта сябры прывозілі з-за мяжы. Памятаю, што нават атрымалася ў той час здабыць арыгінальны *Bee-Gees*. Цяпер у маёй калекцыі ёсць запісы з Індыі, Амерыкі і нават

Аўстраліі.

**—А якая кружэлка самая памятная?**

— Яе падарыў сябра. Такую, як на дыскатэках выкарыстоўваюць, на 45 абаротаў — *KISS*. Усяго некалькі кампазіцый утрымлівала, гэта цяпер гэтыя запісы на радыё часта выкарыстоўваюць. За савецкім часам даводзілася недаядаць, каб сабраць патрэбную суму. Дыск каштаваў 100 рублёў! Заробак у некаторых ці паўзаробка.

### Густы

**— Якім тады выглядала жыццё з такімі растратамі і ашчаджэннямі?**

— Я стараўся хіпаваць па маладосці. Праўда, не надта тое выйшла. Я быў такім антуражным хіпі. Джынсы клёш, доўгія валасы, музыка. Але добрае выхаванне не дало стацца праўдзівым хіпі. Не пацягнула мяне да таго дрэннага, што ўласціва сапраўдным хіпі. Вольнае стаўленне да дзяўчат і наркотыкі адштурхнулі мяне ад гэтай культуры. Так, на той час ужо можна было і наркотыкі здабыць... У мяне былі сябры, якія навучаліся ў сацыялістычнай Польшчы, якія маглі здабыць усе, што заўгодна. А тут, наадварот, усё былі вычасаныя пад адзін грэбень.

**—А якая рэч у гардэробе была самая каштоўная?**

— Прыехалі да суседзяў нейк родныя з Аргенціны, уцекачы яшчэ ў даваенны час. Прывезлі джынсы, якія не падышлі дзецям. Дык мы купілі ў іх джынсы за смешныя грошы. Амаль за бясцэнак. Малады хлапец будзе рассякаць па Мінску ў новых «*Levi Strauss*»! Мне падавалася ў тыя дні, што ўсе дзяўчаты на вуліцы глядзяць толькі на мяне.

**— Ці даспадобы вам сучасная мода?**

— Мне падабаецца, што цяпер вопратка становіцца смелай і асабістай. Сусвет «зіпера» і «світшота» зусім не бянтэжыць, а наадварот. Моладзь цяпер разумее, што яны — асобы, і яны па-рознаму выяўляюць сваю ўнікальнасць. У нас ёсць, напрыклад, адзін пастаянны кліент з зялёнымі валасамі. Для мяне гэта цудоўна! Час маладосці хутка мінае, і, як не будзе зялёных валасоў, то мабыць і не будзе чаго ўзгадаць. У сучасным адзенні захапляе, што ўжо вонкавым выглядам маладыя нейк раскрываюць і дэманструюць сябе. У гэтай краме, напрыклад, вопратка дэманструе не толькі ўзрост ці густ, але і падкрэслівае беларускасць. Сёння, здаецца, гэта важна.

### Каб любіць Беларусь…

**— А чым для вас з'яўляецца беларускасць?**

—Я такі з маленства. Нарадзіўся ў Заходняй Беларусі. Пасля доўгі час пражыў за межамі Беларусі, і там, як бы дзіўна ні гучала, песня «Каб любіць Беларусь, нашу мілую маму, трэба ў розных краях пабываць» набыла новы сэнс... 10 гадоў у Сібіры, і пасля праца ў Заходняй Еўропе далі магчымасць наноў захапляцца ў наш край, яго культуру і кухню. Без кухні было надзвычай цяжка.

**— А што было самым жаданым?**

— Ды дранікі, бадай, бо ў Сібіры, за часам навігацыі, прыходзіла баржа з бульбай, якая згнівала за 2 месяцы, і так амаль да восені даводзілася жыць без аніводнай бульбіны ў хаце, а для беларуса — гэта смерці падобна.

**— А ў Еўропе таксама бульбы бракавала?**

— Амаль 5 гадоў давялося папрацаваць у структуры «Газпрама» ў Нямеччыне. У Сібіры быў Новы Урэнгой, газ, нафта. Адсюль і праца. Але перад тым было 20 гадоў у сістэме адукацыі. Перад вамі выдатнік сістэмы адукацыі! Калі я паступаў у вучэльню, ледзь не заваліў іспыт па матэматыцы з-за дрэннага валодання расейскай мовай. Ніяк не мог зразумець, як «доказать тождество». Экзаменатар падказаў, што гэта «тоеснасць даказаць». Пасля былі два гады ў войску...

У 91-м развалiўся Саюз, нарадзілася малодшая дачка, а ў 92-м я аказаўся ў фірме «Ямбург-Здабыча». Успаміны адтуль самыя цудоўныя. Шмат камандзіровак, сустрэч з цікавымі людзьмі, навучання, былі фантастычныя заробкі. Праўда, там і адчуў розніцу ў менталiтэце паміж немцамі і беларусамі. Беларус заўжды нейкі прыгнечаны. Немец на кожным кроку табе сыпле «гутэн таг», «аўф відэрзэйн», а ў нас і не вітаюцца, і не развітваюцца. Не разумеем, як гэта важна.

**—Нават калі гаварыць пра Заходнюю Беларусь, дзе вы нарадзіліся?**

— Ужо малое дзіця, якое выбягала на двор, бацькамі навучанае абавязкова ўклоніцца і вітацца з усімі. Я сам нарадзіўся ў вёсцы, дзе разам жылі палякі і беларусы. Як ведаеш, што ідзе паляк, кажаш: «Дзень добры», а калі беларус — «Добры дзень!»

**—А кім вы адчувалі сябе? Палякам ці беларусам?**

— Па маці — я паляк, па бацьку — беларус. I адчуваю сябе ў роўнай ступені і тым, і тым. Хаця не, схлусіў, усё-ткі я на 49% адчуваю сябе палякам, кантрольны пакет — у Беларусі. Гэта не патэтыка. Ты з гадамі ўсё больш разумееш, што ты не *homo soveticus*, але беларус. Хай мы пакуль што бедныя, нашы дзеці і ўнукі выкараскаюцца. Можна ўсё вытрымаць, калі ведаеш, што над намі ёсць Нехта.

**— Вы верыце ў Бога? Хіпарства, музыка і пры гэтым вера?**

— Так. У нашай мясцовасці быў зачынены касцёл. Спачатку яго перарабілі ў склад збожжа, а потым угнаенні мінеральныя захоўвалі. Мы з сябрамі некалькі разоў на год ездзілі ў Нясвіж, там дзейнічаў Фарны касцёл. Міліцыянты нас вылоўлівалі сакам і вывозілі глыбокай ноччу пад Сноў, выпраўлялі пехатою на Клеччыну. Бацькі вар'яцеюць, а мы напяхоту вяртаемся дадому. Можна ў такой сітуацыі было пагрукацца ў любую хату пад тым самым Сновам — сагрэцца і адпачыць. Але нам, маладым, было смешна ўсё тое, праблемы не было.

Я ніколі не адчуваў дысгармоніі нават у такіх абставінах. Наадварот, вучыўся быць удзячным нават за самую дробязь жыцця.

**— Менавіта гэта сталася вашым рэцэптам бадзёрасці?**

— Людзі розныя, у кожнага рэцэпт свой. Мой дзень пачынаецца з любімых песень. За мяжой, як жыў і працаваў, была асаблівая патрэба ў песнях. Часам калегі нават замаўлялі ў мяне, каб заспяваў, і ў Сібіры, і ў Германіі. Там толькі «Белавежскую пушчу» ведалі, а я ім і «Цячэ рэчанька», і «Як месяц узышоў» пяяў. Немцам таксама цікава было паслухаць, бо яны думалі, што ўсё, што на ўсход ад Буга, — усё «Русланд». Я ім і вершы цытаваў, і спяваў, і паказваў, што ёсць такая мова і народ. Жыццёвы досвед падказвае, што той, хто спявае, — дакладна не дрэнны чалавек. Ксёндз Завальнюк у Чырвоным касцёле кажа, што той, хто службу адспяваў, — двойчы памаліўся. Бо той, хто спявае, чымсьці дзеліцца. На рабоце, праўда, яшчэ спяваць не даводзілася *(смяецца)*.

Сустрэча са спадаром Анатолем нагадала, што ў жыцці ніколі не позна пачаць справу з нуля. Добры прыклад не толькі для 60-гадовых, але і для 30- ці 40-гадовых.

**Зміцер Хведарук, Ірына Арахоўская**



**Гаспадар прымае гасцей вельмі сардэчна. На стале самаробны макавец.**

**Дзе нас няма**

# Франак Вячорка: «У ЗША за паламаную нагу мне выставілі рахунак $104 тысячы»

Франак Вячорка расказаў, які рахунак атрымаў ад амерыканскай бальніцы за лячэнне пасля пералому нагі.

Нагадаем, ён атрымаў пашкоджанне падчас таварыскага футбольнага матча дыяспар Беларусі і Узбекістана. Гульня праходзіла ў Нью-Ёрку.

Летась Вячорка паступіў у амерыканскую ВНУ.



«За паламаную нагу ў Амэрыцы мне выставілі рахунак на 91850 даляраў і яшчэ 12 тысячаў за рэабілітацыю. Вядома, бальшыню з гэтай сумы заплаціла страхавая, але і мяне шпіталь зрабіў даўжніком, — піша Франак Вячорка ў фэйсбуку. — Адкуль бяруцца гэтыя заваблачныя рахункі — не разумею. Тры дні ў палаце — 13680$. То бок 4500 на дзень. Выклік хуткай дапамогі — 5000$. Арэнда апэрацыйнай і абсталяваньня — 32670$. Паслугі лекара — 8800$. Кожны рэнтген — 900$ (а іх было 5 штук).

Вы думаеце, гэта быў элітны шпіталь? Нічога падобнага. Самы просты (але і несавецкі) шпіталь на Брукліне. Нічым ня лепшы за беларускія шпіталі, прыкладна ўзроўню 432-га Вайсковага шпіталя ў Менску (на Машэрава).

Дык вось. Пасьля апэрацыі шпіталь і лекары выслалі асобныя рахункі за свае паслугі ў страхавую. Тая зь імі гандлявалася. З шпітальнага рахунку (82 тыс) спачатку скінулі 50% (маўляў, студэнт і ўсё такое). Страхавая заплаціла 35000$. Рэшта — 6700 засталася на мне. Зь іншага рахунку за паслугі лекара (9835$) страхавая нічога не заплаціла, а лекары, доўга не чакаючы, перадалі справу калектарам. Зрэшты, плаціць у мяне няма чым, і канфіскаваць у мяне няма чаго (мой інвалідны самакат — і той скралі). Зьбіраюся пачаць новы пэрыяд перамоваў са шпіталём і страхавой, каб прабачылі ці зьменшылі гэтую суму. Унівэрсытэт абяцае заступіцца таксама.

А ўявіце, калі б гэта сталася ў чалавека без страхоўкі? Банкруцтва ў імгненьне, страта жытла і маёмасьці. Таму амэрыканцы і пераважваюць гэтак моцна з-за так званага «Абамакэр» — страхоўкі для асабліва уразьлівых сацыяльных групаў.

Вось такі ён, адваротны бок амэрыканскага дабрабыту».

# З Аляксандрам Ціхановічам развіталіся пад «Малінаўку»

Труну выносілі з Філармоніі пад «Малінаўку». Не прыпомню іншага пахавання такога: бравурна граў аркестр вясёлую, мажорную мелодыю, а людзі заўзята пляскалі ў далоні. Так хавалі ветэрана беларускай эстрады.

Дачка Настасся ўся ў чорным, побач — Ядвіга Паплаўская. Жонку смерць мужа застала ў Ізраілі на гастролях. Сям'я да апошняга думала: і гэты раз выкараскаецца.

Ціхановіч сем гадоў мучыўся з рэдкай і цяжкай хваробай: ідыяпатычны фібразуючы альвеаліт. Гэтай зімы не перажыў. Яму было 64 гады.

Свой апошні канцэрт Аляксандр Ціхановіч адпрацаваў 13 студзеня на прэзідэнцкім балі — за дзень да шпіталізацыі.

Удзень 30 студзеня ля будынка мінскай Філармоніі было людна. А ўранку ў храме Аляксандра Неўскага на Вайсковых могілках прайшла памінальная літургія і адпяванне.

Як і многія беларускія сем'і, радзіна Ціхановічаў была змяшанай. Ядвіга Паплаўская — верная парафіянка аднаго з каталіцкіх касцёлаў, а Ціхановіч спяваў у хоры храма Аляксандра Неўскага.

Развітацца са спеваком у Філармонію прыйшлі знакамітасці: спявак Анатоль Ярмоленка, паэт і палітык Уладзімір Някляеў, тэлевізійныя зоркі Ягор Хрусталёў, Сяргей Кухто і Дзяніс Кур'ян, спявак Георгій Калдун, бізнэсмен Аляксандр Шакуцін, гендырэктар БАТЭ Анатоль Капскі.

Завіталі з вянкамі і дзейныя чыноўнікі: Наталля Качанава, кіраўніца Адміністрацыі прэзідэнта, міністр культуры Барыс Святлоў, віцэ-прэм'ер Васіль Жарко, старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч.

У нагах труны паставілі агромністы вянок з чырвоных і белых ружаў з шырокай стужкай колераў дзяржаўнага сцяга і надпісам: «Ад прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Аляксандра Ціхановіча пахавалі на Усходніх могілках — тамсама, дзе ляжаць Мулявін, Быкаў і Машэраў.

**Сяргей Гезгала**



**Ці можна было вылечыць Ціхановічаў альвеаліт?**

Аляксандра Ціхановіч хварэў на ідыяпатычны фібразуючы альвеаліт. Гэта даволі рэдкае захворванне, яно сустракаецца пасля 50 гадоў, у мужчын — часцей у жанчын.

Ад яго разбураюцца лёгкія. Першыя праявы яго — адышка, кашаль. Людзі звычайна не адразу на яго зважаюць, жывуць з гэтым месяцы, гады.

Калі пачаць лячыць гэты альвеаліт на ранніх стадыях, то яго вылечваюць. Калі на позніх, то чалавека ўжо не ўратаваць.

Антыбіётыкі тут не дапамагаюць. Выкарыстоўваюць глюкакартэкоіды (гарманальныя сродкі) і плазмаферэз (кроў забіраюць на ачыстку, а пасля ўліваюць назад).

Калі хваробу выяўляюць на позняй стадыі, то яе ўжо не спыніць, можна толькі замарудзіць развіццё.

Выяўляць такі альвеаліт на рэнтгене.




Ядвіга Паплаўская (справа) з дачкой Настассяй Ціхановіч.

**Вестка заспела Паплаўскую ў Ізраілі**

24 студзеня Ціхановіча паклалі ў рэанімацыю 10-й клінічнай бальніцы Мінска. Ён быў пад кіслароднай маскай амаль два тыдні, але ў тыя моманты, калі яе здымалі, стараўся ўсміхацца і спрабаваў падбадзёрыць родных.

А 6 раніцы 28 студзеня Аляксандр Ціхановіч памёр.

Ядвігу Паплаўскую гэтая навіна заспела ў Ізраілі — яна была там на гастролях. У гэты ж дзень яна прыляцела ў Мінск.

Сам Ціхановіч да апошняга спадзяваўся, што ўсё абыдзецца — ён сам настаяў, каб Ядвіга Паплаўская не адмяняла гастроляў.

## У мінскай школе дырэктарка не выпусціла другакласніка ў туалет — той абсікаўся. Дырэктарка: «Ніякіх праблем у нас няма»

Як стала вядома «Нашай Ніве», апошні вучэбны панядзелак студзеня ў мінскай школе №29 адзначыўся скандалам.

Дырэктарка школы Анжэла Наскова не выпусціла 8-гадовага хлопчыка ў туалет падчас урока. Той дацярпеў да перапынку, але дабегчы да туалета не паспеў і абсікаўся.

«Мне сын пазваніў са школы, — расказала маці хлопчыка Вольга. — Спытаў, што яму рабіць і як дасядзець да 18 гадзін. Ён на прадлёнцы — яму яшчэ на вуліцу трэба было ісці, а там -5 градусаў».

Па словах маці, яна адразу звязалася з класным кіраўніком, але тая параіла разбірацца ў сітуацыі самастойна: маўляў, сама яна сварыцца са сваім дырэктарам не збіраецца.

«Я сарвалася з працы, прыехала і жахнулася — штаны былі такія мокрыя, што з іх капала. Усё гэта бачылі аднакласнікі. Пайшлі мы да дырэктаркі, а яна мне заяўляе: у вас няма медыцынскіх паказанняў, каб вы хадзілі на ўроку ў туалет!» — сказала маці хлопчыка.

«Пачала задаваць мне пытанні: а чаму гэта ён з іншым хлопцам папрасіўся? Я адказваю: у вас у туалеце святла няма, дзеці малыя, адныя баяцца ісці. Няўжо вы, педагог, не разумееце? Яна зрабіла заўвагу, што святло ёсць. Ну дык там уключальнік на ўзроўні дарослага чалавека, як 8-гадоваму да яго дацягнуцца?»

Па словах Вольгі, дырэктарка выбачылася са словамі, што калі б яна ведала, што ў хлопчыка такая скандальная маці, то завяла б дзіцё сама.

«Але тут гаворка не пра майго сына канкрэтна. Гэта магло здарыцца з любым дзіцём. Не хацелася б, каб іншыя траплялі ў такую сітуацыю, каб з дзецьмі так абыходзіліся. Не думаю, што вінаватыя адчуваюць сябе вінаватымі», — рэзюмавала жанчына.

А што кажуць у школе?

«Усе канфліктныя пытанні ўжо вырашаныя, ніякіх праблем у нас няма. Ніякіх праблем», — адказала «Нашай Ніве» дырэктарка.

**АЯ**



**Фотафакт**

Жанчына ў Мінску залезла са сцягам на кран, патрабуючы справядлівай кампенсацыі за знос дома. Хата ў яе стаіць у прэстыжным раёне Ржавец. Калісь гэта была вёска на ўзгорку. Цяпер — мікрараён над вадасховішчам Дразды.

У доме на 116 квадратных метрах прапісаныя Галіна, два яе сыны з жонкамі і дзецьмі, былы муж з новай жонкай. Усяго прапісана 11 чалавек. Сям'я настойвае на кампенсацыі ў выглядзе дзвюх кватэр для сыноў і грашовай кампенсацыі для Галіны і яе былога мужа. Суд жа пастанавіў выдзеліць ім тры кватэры.

З крана жанчына спусцілася, толькі калі начальнік мінскай міліцыі асабіста паабяцаў ёй сустрэчу са старшынёй гарвыканкама.

**Ірына Арахоўская**

# Уладзімір Скрабатун: Ці ў Мёрах куры здохлі?

Мая дачка, якая перыядычна наведвае рынак у Мёрах, перманентна назірае адну і тую ж карціну. Вялікія чэргі па яйкі! І гэта не распродажы са зніжкамі напярэдадні Калядаў ці Нового года, так — кожны нядзельны рынкавы дзень. Стаяць да перамогі — пакуль яйкі не скончацца!

Людзі задоўга да прыезду бусіка з яйкамі займаюць чаргу — за 1—1,5 гадзіны. Стаяць не толькі пенсіянеры, але і маладзейшыя з дзецьмі. Не важна, якое надвор'е: ці зімовая сцюжа, ці ліпеньская спёка.

Прыязджае бусік з яйкамі — і пачынаецца гармідар: «Вас тут не стаяла!» Нарэшце, чарга супакоілася і ўсе высветлілі, хто і за кім займаў чаргу.

— А яйкі чые? — пытаю. — Глыбоцкія? То няхай стаяць!



— Не! Каб жа глыбоцкія, бацька! Полацкія! Табе, бацька, і не снілася — нават нашыя ўласныя куры такіх яек не нясуць! Там яйкі — дык яйкі! Не «галубіныя», як у нас! Нашыя два-тры такія трэба скласці!

— А што, у мёрскіх крамах яек няма?

— Ёсць, але «галубіныя» і 21 тысяча («старымі») за дзясятак! А тут — 18 тысяч і за «страусіныя». Меншыя, але ўсё ж большыя за «галубіныя», у іх — 14 тысяч за дзясятак.

— Рэальная эканомія — 30 капеек з дзясятка! Ладна, з пенсіянерамі ўсё зразумела! Яны прызвычаіліся эканоміць! Але ж там у чарзе і маладзейшыя! Ящчэ не вядома, ці ёсць у гэтым выгада, бо, калі адстаіш на марозе больш за дзве гадзіны, ці пакрые потым розніца ў коштах выдаткі на лекі? У людзей няма грошай!

— Цікава, хто «нясе» такія яйкі?

— Прыватнікі пад Полацкам трымаюць «курыную ферму».

Праўдападобна, паспяховая ферма, бо прыязджаюць на рынак не на ржавым жалеззі, як дзяржаўныя птушкафабрыкі з іх непамернымі даўгамі і затрымкамі заробкаў. У іх бусік — наўё. І мухі на ім не тапталіся!

Дарэчы, на рынках Беларусі яйкамі вольна можа гандляваць толькі сам іх вытворца. Таму і цэны ніжэйшыя, бо няма пасярэднікаў. Ну, і якая гаспадарка больш эфектыўная: прыватная ці дзяржаўная з яе датацыямі? Глыбоцкая птушкафабрыка, напрыклад.

Што Глыбокае, што Полацк — клімат аднолькавы, а яйкі розныя!

**Уладзімір Скрабатун**

# Прайдзіце тэст ад Беларускай інтэлектуальнай гульні

Тэст ад Беларускай інтэлектуальнай гульні.

Адкажыце на 15 пытанняў і праверце свае веды ў беларушчыне.

### 1. Што Максім Танк назваў вясёлай рэпетыцыяй пахавання?

- ○ Юбілей
- ○ Выпіска са шпіталя
- ○ Вяселле
- ○ Заручыны

### 2. Выберыце назву і аўтара.

Вядома, што Максім Багдановіч абагаўляў сваю маці (яна памерла, калі ён быў маленькім). У «Вянку» цыкл вершаў з культам жанчыны мае адмысловую назву. ГЭТА ўлюбёная карціна Максіма Багдановіча.

- ○ «Сіксцінская Мадонна» Рафаэля
- ○ «Вераніка і Максім» А. Марачкіна
- ○ «Палеская мадонна» Г. Вашчанкі
- ○ «Русалка» К. Васільева
- ○ «Мона Ліза» Леанарда да Вінчы

### 3. Пра што ідзе гаворка?

На гэтым месцы раней знаходзіўся «лес», у якім жылі разнастайныя жывёлы: вавёрка, заяц, воўк, рысь, лось, зубр. З адваротнага боку «лесу» стаяў на варце вершнік на белым кані. Аднойчы іншыя перадавыя людзі вырашылі пабудаваць на месцы «лесу» горад з будынкамі каля вакзала, плошчамі, акадэміямі, банкамі, тэатрамі, палацамі і іншымі каштоўнасцямі цывілізацыі, а вершніка выгналі.

- ○ Дом урада
- ○ Мапа
- ○ Грошы
- ○ Нясвіж

### 4. Назавіце кампанію.

З-за лагатыпа гэтай вядомай кампаніі Алесь Разанаў і Віктар Маркавец падавалі ў суд іск аб абароне аўтарскіх правоў (які, праўда, не быў задаволены). Справа ў тым, што лагатып кампаніі нагадвае мастацка-канцэптуальны праект Алеся Разанава і Віктара Маркаўца, які сумяшчае несумяшчальнае: абстрактную з'яву і прадукт жывой прыроды.

- ○ МТС
- ○ Apple
- ○ Санта Брэмар
- ○ Крышталь

### 5. Пра што ідзе гаворка?

- рымская багіня світанку;
- сталіцы паўднёвага і ўсходняга суседзяў;
- стан спакою і гармоніі, перыяд між войнамі;
- член палітычнай моладзевай арганізацыі ў СССР;
- старадаўняя назва абласнога цэнтра ў Беларусі;
- удзельнік дзіцячых камуністычных арганізацый у СССР...

- ○ Кінатэатры Мінска
- ○ Беларускія радыёстанцыі
- ○ Рэпертуары мінскіх тэатраў

### 6. Якая падзея давяла Г.Бонд да гендарных эксперыментаў, а А.Саладуху натхніла так, што ў яго з'явіліся крылы?

- ○ Выбары
- ○ Дэнамінацыя
- ○ Еўрабачанне
- ○ Чэмпіянат свету па хакеі
- ○ Дзень вышыванкі

### 7. Якая прамысловасць пазначана белымі кропкамі?




- ○ Вапная
- ○ Шкляная
- ○ Цагельная
- ○ Цэментная

### 8. Знакаміты горад Індыі, а ў беларускай мове — распаўсюджаная пачатковая частка складаных слоў, якая з грэчаскай перакладаецца як «поле».

- ○ Максі
- ○ Агра
- ○ Аэра
- ○ Дэлі

### 9. Другая назва гэтага фільма — «Забітая жыццём», назавіце першую.

- ○ Камсамолка
- ○ Лясная быль
- ○ Прастытутка
- ○ Купалінка

### 10. Назавіце прамысловую кампанію краіны.

Перад вамі герб горада Пружаны, які мае дачыненне да родавага герба Сфорцаў.

Назавіце прамысловую кампанію краіны, з якой паходзіць род Сфорцаў і на лагатыпе якой выкарыстоўваецца падобная выява.



- ○ Lavazza
- ○ Lamborghini
- ○ Fiat
- ○ Alfa Romeo
- ○ Ray-Ban

### 11. Чаму М. Карнавухава прызналі найлепшым іграком?

Восенню ў хакейнага мінскага «Дынама» была працяглая серыя паразаў. Падчас яе заўзятары «зуброў» тройчы запар прызнавалі найлепшым іграком матча брамніка Міхаіла Карнавухава. Чаму?

- ○ Не выходзіў на лёд
- ○ Забіў толькі некалькі шайбаў у сваю браму
- ○ Зрабіў выніковую перадачу

### 12. Назавіце імя і прозвішча паэта.

Пачынаецца Першая сусветная вайна. У канцы жніўня 1914 г., па сканчэнні курсаў сясцёр міласэрнасці, адпраўляецца ў раён ваенных дзеянняў жонка паэта. Неўзабаве за каханай адпраўляецца на фронт і ён сам. Амаль год працуе табельшчыкам у інжынерна-будаўнічай дружыне, якая займалася будаўніцтвам умацаванняў на Палессі. Пасля неабыякавы да містыкі паэт не пераставаў дзівіцца таму, што лёс закінуў яго ў беларускую вёску Колбы, дзе кожны другі жыхар насіў прозвішча Колб.

- ○ Максім Гарэцкі
- ○ Якуб Колас
- ○ Аляксандр Блок
- ○ Леў Гумілёў

### 13. Якія дакументы падрабляў Дунін-Марцінкевіч?

Дунін-Марцінкевіч меў каліграфічны почырк, а таксама ўмеў рабіць новую паперу падобнай да старой (з дапамогай тытуню і кавы). Трапіў у турму за падробку дакументаў яшчэ да справы, звязанай з паўстаннем. Попыт на яго злачыннае майстэрства ў той час быў абумоўлены пэўнымі абставінамі.

- ○ Медыцынскія даведкі
- ○ Дакументы аб шляхецкім паходжанні
- ○ Грошы
- ○ Распіскі аб атрыманні грашовых сродкаў

### 14. У народзе гэта прылада называецца «лянівая жонка». Якое яна мае прызначэнне?



- ○ Каб здымаць абутак
- ○ Для прання
- ○ Гільяціна
- ○ Для квашання капусты

**Адказы**

1. Юбілей
2. «Сіксцінская Мадонна» Рафаэля
3. Грошы
4. МТС
5. Кінатэатры Мінска
6. Еўрабачанне
7. Шкляная
8. Агра
9. Прастытутка
10. Alfa Romeo
11 Не выходзіў на лёд
12. Аляксандр Блок
13. Дакументы аб шляхецкім паходжанні
14. Каб здымаць абутак

## Усевалад Сцебурака



## Зімовы сон

*Верці*

Мне снілася, што ты сказала снег
ён так пайшоў,
што не падняць павекі
і зніклі ў ім дамы і чалавекі…
як хораша, што ты сказала снег.
Мне снілася, што ты сказала дзень
бясконцы дзень
без справаў і гадзінаў
у ім усё, што некалі пакінуў
на белы снег кідала белы цень.
Мне снілася, што ты сказала час
і той прыйшоў
я маю на увазе
што мы сустрэліся ў сваім
нягоршым часе
як ты да месца ўзгадала час
А потым ты сказала пачакай
і мы застылі
ў часе, дні і снезе
кузуркамі ў бурштынавым разрэзе
на неадольным шляху ў небакрай.

# Пазняк: «Не прыехаў на пахаванне маці, бо немагчыма было перайсці праз лінію фронту»

«Нам прыйшлося старанна «фільтраваць базар» — і свой, і спадара Зянона, — каб пасля выхаду інтэрв'ю можна было спаць спакойна», — піша часопіс «Большой».



**— Як вы сочыце за жыццём Беларусі?**

— Я вымушаны жыць у ЗША і ў Еўропе (Польшча). Інфармацыю пра Беларусь маю ад структураў палітычнай арганізацыі з усёй Беларусі; ад кантактаў з людзьмі з Беларусі; ад сваіх карэспандэнтаў; ад кантактаў з палітыкамі і рознымі асобамі; са сродкаў масавай інфармацыі.

**— Што, на ваш погляд, кардынальна змянілася ў краіне за гэтыя 20 гадоў? Чым Беларусь пачатку 90-х адрозніваецца ад Беларусі нашага часу?**

— Змянілася шмат што. Гэта змены ўпадку, апісаныя ўжо шырока. Калі «кардынальна», то зменіўся дух грамадства. Гэтае грамадства без крылаў.

**— Спадар Зянон, якой была б Беларусь, калі б у 1994 годзе прэзідэнтам сталі вы?**

— Людзі ўсюды ўсміхаліся б адзін да аднаго і радаваліся б прысутнасці.

**— Вас яшчэ памятаюць у Беларусі?**

— Мяне ведаюць не толькі ў Беларусі.

**— Павал Шарамет назваў вас «адваротным бокам Лукашэнкі». А што вы думаеце пра Паўла Шарамета?**

— Зямля яму пухам. Фармулёўка «адваротным бокам Лукашэнкі» — гэта прапагандысцкае клішэ, дзеля дэфармацыі вобразу, прыдуманае на Лубянцы, якое паўтараў не толькі адзін Шарамет. На жаль, ён позна пачаў разумець сутнасць рэчаў, за што тут жа і паплаціўся.

**— Як вы лічыце, просты чалавек як бачыць будучыню нашай краіны? Якой ён бачыць Беларусь?**

— Наш просты чалавек думае пра простыя рэчы і чакае, што яму нехта іх забяспечыць. Праўда такая, што сваёй будучыні звычайна не мае той, хто пра яе не думае. Але і думаць мала. Трэба стварыць. Запатрабаваныя стваральнікі. Калі яны будуць, тады зменяцца думкі «простага чалавека».

**— Чаму сярод беларусаў так мала змагароў? Чаму мы такая рахманая нацыя?**

— Беларусы — гістарычна змагарны народ. Тое, што цяпер «мала змагароў» (але яны ёсць), — гэта вынік перманентнага фізічнага вынішчэння актыўнай верхавіны нацыі акупацыйнымі і антынароднымі рэжымамі. Рэмісія і адраджэнне звязаныя з выспяваннем пакаленняў і з'яўляюцца важным, але адносным чыннікам. Негатыўны адборз'яўляецца абсалютным. У гэтым найбольшая небяспека антынародных акупацыйных рэжымаў дзеля будучыні людзей.

**— Як можна аб'яднаць беларусаў? Мы ўсё роўна падзелены на «ўсходнікаў» і «заходнікаў».**

— Рэальны падзел на «ўсходніх» і «заходніх» ёсць ва Украіне і абумоўлены гістарычна больш чым двухсотгадовым існаваннем заходніх украінцаў пад Габсбургамі і 18-гадовым — пад палякамі. У 1918—1919 гг. на гэтых землях была ўтворана і існавала незалежная Заходне-Украінская Народная Рэспубліка (якая да таго ж ваявала з Польшчай і Румыніяй).

У Беларусі такога рэзкага падзелу няма. Ён перабольшаны. 18 гадоў пад польскай акупацыяй, нягледзячы на палітыку паланізацыі, не мелі істотнага ўплыву на ментальнасць беларусаў. Не існуе «заходнебеларускай» ідэалогіі, свядамасці і салідарнасці. Няма антыпатыі паміж «заходнімі» і «ўсходнімі». Быў розны сацыяльны вопыт, бо беларусы заходніх вобласцяў валодалі прыватнай уласнасцю і часткова пазбегнулі бальшавіцка-маскоўскага галадамору, калектывізацыі 30-х гадоў і генацыду (масавых рэпрэсіяў і расстрэлаў).

Грамадства ёсць цяпер палітычна падзеленае. Але палітычны падзел грамадства выкліканы не фактам даўняй акупацыі ўсходняй і заходняй тэрыторыі Беларусі. Яго падзяліла расейскае тэлебачанне. Тут не настолькі светапогляды, колькі эмацыйна-ірацыянальны падзел (тым ён і шкодны, бо чалавек замбаваны, яго рэакцыя па-за межамі рацыя). Мяжа якраз пралягае тут. Таму першае, што абавязкова цяпер трэба зрабіць, думаючы пра аб'яднанне беларусаў, — гэта заткнуць пашчу, заблакаваць і ліквідаваць голас электроннага бандыта. Гэта пытанне надзвычайнай важнасці. Наступнае — нацыянальнае беларускае тэлевяшчанне (і ўсе праблемы, з гэтым звязаныя).

**— Чаму ўсходняя і заходняя цывілізацыі не ўжываюцца мірна, без вайны?**

— Цяпер пра цывілізацыйны канфлікт кажуць у сувязі з агрэсіяй ісламскіх радыкалаў супраць Заходняга свету. Прычына канфлікту ў дактрыне (і практыцы) глабалізацыі і ў сістэмным левалібералным крызісе заходняй дэмакратыі. Прытым правакацыйным чыннікам канфлікту выступае якраз левалібералы Захад праз навязванне Усходу сваіх антыкаштоўнасцяў, якіх Усход ніколі не прыме. Эканамічная аснова канфлікту цягнецца яшчэ з часоў каланіялізму.

Цяпер, спадзяюся, зразумела, «чаму яны не ўжываюцца мірна, без вайны». У аснове канфлікту не толькі эканамічныя і геапалітычныя інтарэсы, але таксама розныя ідэалогіі з праекцыяй на будучыню чалавецтва. Гэтая камбінацыя самая небяспечная, бо вядзе да глабальнай вайны, якая рэальна ўжо пачалася ў 2001 годзе і працягваецца ў тлеючай форме.

У так званай тлеючай «цывілізацыйнай вайне» Расея выступае на баку Усходу. Так склалася даўно, калі Масковія была часткай мангольскай імперыі, але гістарычна выжыла да сённяшняга дня. Ментальны чыннік уплывае на характар паводзінаў.

Новыя навуковыя дасягненні кружылі ў сферы навукі, практычна не трапляючы ў палітыку і ідэалогію. Але свет стаў метадычна даведвацца, хто ёсць хто. На сённяшні дзень міфалагічная легенда імперскай гісторыі пасыпалася і загадала доўга жыць. Дастаткова было аднаго, што расейцы (рускія) — гэта не ёсць славяне, і ўсе казкі пра «трыадзіны рускі славянскі народ», «старэйшага брата» (а ён увогуле не брат) ды «старажытнарускую дзяржаву» ператварыліся ў пусты міфалагічны хлам.

Лічу патрэбным заўважыць, што якраз цяпер Расея мэтанакіравана пачала падрыхтоўчую фазу гібрыднага захопу Беларусі ў прапагандзе і дэзынфармацыі. Спешна з'явілася нават «мастацкая літаратура» (Міхаіл Папоў), дзе беларусы груба паказаныя такімі недачалавекамі, прымітыўнымі і адсталымі, а беларуская дзяржава — непаразуменнем. Усё беларускае расейская прапаганда вульгарна, у хамскім стылі стала абзываць «нацыянал-фашызмам» (успомнім сентэнцыю Чэрчыля аб тым, як фашысты будуць называць антыфашыстаў «фашыстамі»). Цытата: «габрэйская журналістка і псеўдаліберальныя журналісты Беларусі няўстойлівай сэксуальнай арыентацыі (чытай — «піндосы») раскручваюць самыя нізкія формы нацыянал-фашызму» (журналіст У. Салаўёў).

Тым часам было абвешчана, што Мураўёў-Вешальнік Людаед — гэта «расейскі нацыянальны лідар», які, «расстраляўшы восем каталіцкіх ксяндзоў, здзейсніў асабісты духоўны подзвіг» і г. д.

Неўзабаве беларусы таксама пачуюць, што іх і іхнюю мову прыдумала Аўстра-Венгрыя, дзяржаву стварылі «жыдамасоны», а беларускай нацыі і беларускай мовы «ваабшчэ не сушчаствует». Прытым 96 адсоткаў тэлевізійных гледачоў будуць у гэта асцервянела верыць з пенай у роце. Таму я і кажу пра нацыянальнае беларускае тэлебачанне.

**— Якая галоўная пагроза сучаснага свету? Ісламізм? Геі? Трамп?**

— Імперыя. Імперыя з рэліктавай агрэсіўнай ментальнасцю і ядзерным арсеналам. Ды яшчэ і з агрэсіўнай ідэалогіяй.

**— Вы пражылі ў Амерыцы шмат часу. Чым гэтая краіна прынцыпова адрозніваецца ад Беларусі? Чаму беларусам можна павучыцца ў Амерыкі?**

— Амерыка — краіна эмігрантаў. Эмігранты ёсць асноўны найбольш танны і найбольш выдайны рэсурс і сродак вытворчасці, аснова багацця Амерыкі. Амерыканцы падпарадкоўваюцца законам, якія дзейнічаюць, дзякуючы збалансаванаму падзелу ўладаў.

Беларусь — унітарная монакультурная краіна. На сённяшні дзень параўнанне з Амерыкай не можа быць карэктным, таму што сапраўднае аблічча Беларусі схаванае.

У маральна-гуманітарным сэнсе, у чалавечым развіцці, кемлівасці і пазнанні беларусы вышэйшыя за амерыканцаў. Амерыканцам у гэтым сэнсе шмат чаму можна было б павучыцца ў беларусаў, калі б яны не былі так задаволеныя сабой.

Што датычыць беларусаў, то галоўнае, чаму добра, каб яны навучыліся ў амерыканцаў, — гэта цаніць свабоду і гонар краіны. Амерыканцы, дарэчы, вялікія патрыёты Амерыкі і зорна-паласатага сцяга. Добра было б таксама пераняць культуру грамадскага абыходжання амерыканцаў (адсутнасць грубасці і хамства).

**— За каго вы былі: за Хілары ці за Трампа?**

— За амерыканскі выбар.

**— Як абранне Трампа зменіць жыццё Беларусі?**

— Ніяк не зменіць. Можа толькі паспрыяць пераменам.

**— У чым галоўныя недахопы амерыканскага ладу жыцця?**

— У адсутнасці вольнага часу; у аднабаковым пазнанні і развіцці асобы; у абсурдным існаванні абсурдных законаў (якіх процьма); у манаполіі адвакатаў; у абсурднай паліткарэктнасці і падпарадкаванні грамадства маргінальным меншыням; у накіраванасці працы на эксплуатацыю мазгоў і рабочай сілы (акрамя дзяржаўных служачых, практычна ніхто не працуе менш за 12 гадзін ў дзень, а то і больш, і без выхадных); у масе сацыяльных паразітаў, якія жывуць за кошт бюджэту (па інфармацыі — 46 мільёнаў на «вэлфары», дзе шмат здаровых і маладых з асяроддзя тых жа меншынь).

Дадам, што ў амерыканскага ладу жыцця ёсць нашмат больш станоўчых якасцяў, якіх няма ў Еўропе. А што датычыць эканамічнай, фінансавай і гандлёвай сферы, то тут ўсё вышэйшае на цэлы парадак. З такімі краінамі, скажам, як Францыя, Польшча ці Чэхія, дык у гэтым сэнсе і параўноўваць не выпадае.

**— Якія галоўныя кнігі, на ваш погляд, павінен прачытаць кожны беларус?**

— Біблію і Евангелле Госпада нашага Ісуса Хрыста.

**— Наколькі цяжкім для вас было рашэнне не прыязджаць у Беларусь на пахаванне маці?**

— Вельмі цяжкім, бо немагчыма было перайсці праз лінію фронту.

**— Ці плануеце вы вярнуцца?**

— Вярнуся і ўсіх вас выратую — рыхтуйце гарэлку.

**Паводле: Сяргей Зубялінскі, bolshoi.by**

# «Увесь час у свядомасці жыла думка: як так, нічога не засталося па чалавеку»

У Мінску дзейнічае Школа пошуку інфармацыі пра рэпрэсаваных сваякоў.

Школа пачала працу ў верасні 2016. Арганізаваў яе гісторык і архівіст, былы палітвязень Зміцер Дрозд. Чарговая сустрэча адбылася на пачатку студзеня, прыйшло каля дзесяці чалавек, палова з іх — упершыню.

Селі ў кола, Зміцер прапанаваў кожнаму прадставіцца і падзяліцца праблемамі ў росшуках.

– А мне няма чым дзяліцца, я зайшоў у тупік, — скрушна кажа Яўген, адзін з удзельнікаў.

— Ну, тупік у гэтай справе звычайная з'ява, — супакойвае Дрозд.

Яўген расказвае, што хоча азнаёміцца са справай свайго расстралянага прадзеда, але не можа:

— Я дакладна ведаю, што матэрыялы ёсць, я сам бачыў іх у пачатку 90-х. А цяпер мне адмаўляюць, нібы справы такой няма...

Сярод прысутных і сталыя шукальнікі праўды, і пачаткоўцы. Таццяна ўжо дзесяць гадоў шукае звесткі пра дзеда, літаратара Сяргея Знаёмага, рэпрэсаванага разам з Валерыем Маракоўым, Сяргеем Грахоўскім і іншымі пісьменнікамі. Ён быў высланы ў Магадан, адсядзеў 8 гадоў і знік. Свайго дзеда шукае і Вольга: «Яго рэпрэсавалі ў 37-м за антыдзяржаўную дзейнасць. Хоць я не ўяўляю, якая гэта магла быць дзейнасць, ён быў непісьменны чалавек, працаваў вартаўніком».

Зміцер шукае сваіх прапрадзеда і стрыечных дзядоў з-пад Заслаўя, асуджаных за антысавецкую агітацыю: першы — на 10 гадоў лагера, а сыны яго, імаверна, на расстрэл. Праблема цяпер — знайсці дакументы пра сваяцтва з прадзедам: заслаўскія метрычныя кнігі згарэлі ў час вайны.

Людміла спецыяльна прыехала на сустрэчу са Стоўбцаў. Ёй таксама неабходна даказаць сваяцтва, каб пазнаёміцца са справай дзеда ў Гомельскім КДБ: «У сям'і пра гэта маўчалі. А ў мяне ўвесь час у свядомасці жыла думка: як так, нічога не засталося па чалавеку! Цяпер я выйшла на пенсію, з'явілася шмат вольнага часу і пачала гэтым займацца».

А Марыя расказвае, што ўсе дакументы ўжо падрыхтавала, але сутыкнулася з унутранай перашкодай: «Не магу наважыцца зайсці ў архіў КДБ. Я, унучка расстраляных, і заходжу ў гэту будыніну... Не, страху няма, ёсць агіда».



**Зміцер Дрозд**
гісторык-архівіст, аўтар кніг «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900», «Землеўласнікі Мінскай губерні 1900—1917». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.

Іван Клімук з Кобрына займаецца гісторыяй сям'і ўжо даўно і прыйшоў на сустрэчу як эксперт. «Насамрэч, менавіта прыватныя гісторыі складаюць гісторыю нашай краіны. Наша гісторыя — гэта і рэпрэсіі таксама». Прадзед Івана быў рэпрэсаваны ў 1946 годзе, у паваенную хвалю сталінскіх рэпрэсій як былы ваеннапалонны. «Я адпраўляў запыт у Цэнтральны ваенны архіў Варшавы, і прыйшло пацвярджэнне, даслалі нават полк і пералік людзей, з якімі ён служыў. Прадзеду далі 8 гадоў, ён адбыў шэсць — на будаўніцтве чыгункі на ўсходзе СССР. Я знайшоў гэтыя звесткі праз Інфармацыйна-аналітычны цэнтр МУС Хабараўскага края».

Іван таксама расказвае, як падаваў запыт аб рэабілітацыі. Аказваецца, каб атрымаць даведку аб рэабілітацыі чалавека, неабходна даказаць сваяцтва з ім. Але каб папрасіць рэабілітаваць — нічога не трэба: кожны грамадзянін можа папрасіць у пракуратуры рэабілітаваць любога незнаёмага чалавека. Зміцер Дрозд расказвае, што ўсіх, хто быў асуджаны «двойкамі», «тройкамі», то бок пазасудовымі органамі, цяпер рэабілітуюць аўтаматычна: гэтыя органы папросту не мелі паўнамоцтваў выносіць рашэнне аб пакаранні.

### Як рыхтуецца архіўная рэвалюцыя

Калі выказаліся ўсе, хто прыйшоў на сустрэчу, пра свае росшукі расказаў арганізатар сустрэчы Зміцер Дрозд:

– Стварэнне школы натхніла, і я стаў пісаць у КДБ, у пракуратуру — паўсюль. І стаў дасылаць вялікі спіс асобаў, пра якіх шукаю звесткі. Канечне, даведацца пра суседзяў, далёкіх сваякоў вельмі цяжка — бо амаль немагчыма дакументальна даказаць роднасць з імі. Цяжка атрымаць доступ і да справы на блізкіх сваякоў, у адказ часта прыходзіць адпіска: «Ознакомление не предусмотрено действующим законодательством».

Але я буду дамагацца, каб мне дазволілі знаёміцца са справамі, — кажа Зміцер. Бо па законе аб архіўнай дзейнасці, калі справе больш за 75 гадоў, яна павінна быць адкрыта для грамадскага азнаямлення. То бок усе дакументы, напісаныя да 1941-га года, ужо павінны былі аказацца ў агульнадаступных архівах.

– Мяне ў архіве КДБ цікавяць справы на маіх сваякоў яшчэ з 1920 года! Якая можа быць у іх сакрэтная інфармацыя?! Проста людзі не хочуць, каб мы гэтыя справы чыталі!.. Кожны пана ці позна пачынае біцца галавой аб гэту сцяну — таму трэба мяняць сістэму. Усе справы да 1941 года павінны быць перададзеныя ў агульнадаступныя архівы. Мы будзем дамагацца распрацоўкі новага закона аб архіўнай дзейнасці, — кажа Дрозд.

У прыклад Зміцер прыводзіць віленскі архіў КДБ — Асобы архіў Літвы. Ён знаходзіцца ў тым жа будынку, дзе і літоўскія спецслужбы.

### «Я даўно чакаю беларусаў»

– Ніхто не спытаў, куды я іду, ніякіх дакументаў не спыталі. Намесніца дырэктара сустрэла ледзьве не абдымкамі: «Я даўно чакаю, калі да мяне прыйдуць беларусы!» У архіве захоўваюцца дакументы 1939—1991 гадоў, і там зусім няма сакрэтных спраў. Даюць нават асабістыя справы на любога супрацоўніка КДБ. Мы павінны рухацца да таго ж.

Для спробы ў віленскім архіве Зміцер замовіў справы Міхала Вітушкі і Клаўдзія Дуж-Душэўскага:

– Там часопісы, лісты — усё, што канфіскавалі. Тысячы аркушаў! Я ўяўляю, што ў нас ляжаць на кожнага падследнага такія ж тоўстыя справы... Гэта ж і рукапісы, і чарнавікі! Колькі нам адкрыецца пра пісьменнікаў 30-х гадоў!..

Таксама Зміцер Дрозд з калегамі з «Беларускага дакументацыйнага цэнтра» стварае базу дадзеных па рэпрэсіях: яны збіраюць, адлічбоўваюць і захоўваюць дакументы.

— Глабальная наша мэта — змяніць сістэму, паспрабаваць дамагчыся, каб нашы архівы адкрылі. Мы хочам зрабіць сістэму больш чалавечнай: каб архівы спецслужбаў былі перададзеныя ў агульнадаступныя архівы, а агульнадаступныя архівы дазволілі людзям як мінімум фатаграфаваць, працаваць больш па-еўрапейску. Бо Беларусь застаецца апошняй краінай, дзе не дазваляюць фатаграфаваць у архівах. Ва ўсіх суседзяў ужо дазваляюць, нават у Расіі! Гэта проста неймаверна! — кажа Дрозд. — Гэта, здаецца, дробязь, якая настолькі тым не менш тармозіць гістарычную навуку ў Беларусі! Людзі сядзяць, і многія проста ад рукі перапісваюць гэтыя дакументы. Вечна чарга ў архіве... А наколькі гэта палепшыць якасць нашых даследаванняў! Замест таго, каб пладзіць памылкі: я няправільна прачытаў і даў у сваёй кнізе няправільную цытату — проста сфатаграфаваў, размясціў прыгожа ў кнізе арыгінальны фотаздымак.

Архівы, — тлумачыць Дрозд, — павінны цалкам працаваць за дзяржаўныя датацыі, бо гэта — здабытак народа! Яны не мусяць зарабляць грошы.

**Паўліна Купрысь**

### Дзе шукаць, куды пісаць. Як шукаць інфармацыю пра рэпрэсаваных: парады Змітра Дразда

**1. Інтэрнэт:** з гэтага варта пачынаць. Дрозд раіць найперш сайт «Мемарыял» (memo.ru/memory/spiski.htm), які дапамог яму самому.

**2. Кніга «Память»** па сваім горадзе або раёне. У некаторых выпусках змешчана інфармацыя пра рэпрэсаваных, прычым часам тая, якой не валодае і сям'я пацярпелага. Людміла, удзельніца Школы пошуку інфармацыі пра рэпрэсаваных, расказала, што год нараджэння рэпрэсаванага дзеда выпадкова даведалася з кнігі «Память» па Жыткавіцкім раёне.

**3. Архівы.** Звесткі пра раскулачаных на тэрыторыі Беларусі можна знайсці ў Нацыянальным архіве РБ і ў абласных архівах. У многіх з іх ёсць базы дадзеных па рэпрэсаваных, раскулачаных, вывезеных у Германію... Таму звяртайцеся да спецыялістаў у чытальнай зале, яны дапамогуць знайсці патрэбную інфармацыю.

Напрыклад, у Нацыянальным архіве (ён знаходзіцца ў будынку Нацыянальнай бібліятэкі) ёсць электронная база дадзеных «Неабгрунтавана рэпрэсаваныя грамадзяне Беларусі». Можна напісаць запыт, і супрацоўнікі архіва пашукаюць, ці ёсць гэты чалавек у базе. Пры станоўчым выніку вы атрымаеце інфармацыю пра месца пражывання, узрост, адукацыю і іншыя звесткі пра сваіх родных.

Імя ў базе могуць і не знайсці, але гэта не значыць, што чалавек не быў рэпрэсаваны ці пра яго не засталося звестак — а проста КДБ перадаў архіву толькі частку дадзеных. Магчыма, звесткі пра вашага сваяка не былі перададзеныя.

Калі прозвішча ў базе рэпрэсаваных не знайшлі, пашукайце фонды, датычныя да вашай мясцовасці: сельсавета, райвыканкама і г.д. Часта ў іх захоўваюцца якраз патрэбныя дакументы: спісы людзей, абкладзеных індывідуальным падаткам, пазбаўленых выбарчых правоў, раскулачаных. Таксама можна знайсці скаргі на несправядлівае абыходжанне.

Больш падрабязна даведацца пра лёс раскулачаных, а таксама атрымаць звесткі пра арыштаваных і асуджаных магчыма праз запыты ў МУС і КДБ.

**4. Дзяржорганы.** Калі вы шукаеце інфармацыю пра раскулачаных, трэба пісаць звароты ў інфармацыйныя цэнтры Міністэрства ўнутраных спраў. Калі вашых сваякоў асудзілі па артыкуле, то інфармацыяй пра іх валодае КДБ. Калі ў сям'і не памятаюць абвінавачанне, адпраўляйце звароты (электронныя ці папяровыя) ва ўсе органы. І аднекуль урэшце атрымаеце адказ.

Пачынаць можна з беларускіх КДБ і інфармацыйнага цэнтра МУС. Калі там не знойдзецца матэрыялаў пра вашых сваякоў, можна напісаць у органы краіны, куды сваякі маглі быць высланыя. Найперш у Расію: у ФСБ і інфармацыйны цэнтр МУС. Увогуле, калі вы шукаеце высланых (няважна, раскулачаных ці асуджаных), лепш адпраўляць адразу два звароты: адзін туды, адкуль быў высланы чалавек, другі туды, куды ён трапіў у высылку.

«Не трэба баяцца азадачыць чыноўнікаў, знайсці неабходныя звесткі — іхняя праца», — папярэджвае Зміцер Дрозд. Не ведаючы, куды выслалі яго сваякоў, ён адправіў запыты ў беларускія МУС і КДБ, а атрымаўшы адмоўныя адказы, вырашыў пісаць па месцы высылкі. Але месца было невядомае, і даследчык адправіў аднатыпныя запыты ў інфармацыйныя цэнтры МУС 20 усходніх і паўночных абласцей Расіі. І пасля 19 адмоўных адказаў нарэшце атрымаў станоўчы: справа сваякоў была знойдзеная ў Архангельску. Адтуль Дразду даслалі падрабязную даведку пра высланых.

Калі рэгіён высылкі стане ясны, можна напісаць таксама ў тамтэйшы абласны архіў і архіў ЗАГС, дзе маглі захавацца запісы пра смерць вашых родных. «Савецкая сістэма была вельмі бюракратычнай: без паперкі чалавек не мог памерці», — кажа Дрозд.

У кожным запыце ў дзяржорган вам неабходна: 1) выкласці ўсю наяўную інфармацыю пра чалавека, якога вы шукаеце; 2) патлумачыць, якія роднасныя сувязі звязваюць вас з рэпрэсаваным — даведка надаецца толькі сваяку; 3) папрасіць копіі наяўных дакументаў — лепш прасіць пра гэта адразу ж, у першым лісце.

Адрасы і кантакты ўсіх падраздзяленняў МУС, КДБ, ФСБ ёсць у інтэрнэце.

**Зміцер Дрозд прапануе сваю дапамогу** і кансультацыі ў фэйсбуку, па электроннай пошце prodki@narod.ru і па тэлефоне + 37529-670-29-23.

Брыдота

## У Расіі раён піў ваду з рэзервуара з трупамі

Жыхары пасёлка Прадгорны Стаўрапольскага края Расіі знаходзяцца ў шоку: з самага Вадохрышча, з 19 студзеня, яны, а таксама жыхары яшчэ некалькіх населеных пунктаў рэгіёна, спажывалі пітную ваду, што паступала з рэзервуара, у якім плавалі два трупы.

Аказалася, што двое работнікаў прадпрыемства «Стаўрапальводаканал» напярэдні вырашылі выканаць праваслаўную традыцыю і выкупацца ў рэзервуары з пітной вадой, паведамляюць мясцовыя выданні.

Цікава, што ні адной скаргі ад насельніцтва на незвычайны смак або пах пітной вады пры гэтым не паступіла. Тапельцаў знайшлі толькі тады, калі цела аднаго з іх апусцілася на дно рэзервуара і перакрыла сабой заборнік, праз які пітная вада паступала ў магістраль мясцовай водаправоднай сеткі. Рабочых, якія вырашылі разабрацца з прычынай непаладкі, чакала страшная знаходка. У папярэднія тры дні яны нават не спрабавалі шукаць сваіх бясследна зніклых калегаў, мяркуючы, што тыя банальна сышлі ў запой.

«Паводле папярэдняй версіі, у ноч на Вадохрышча двое работнікаў мясцовай філіі прадпрыемства вырашылі выкупацца ў рэзервуары з чыстай вадой, — распавялі журналістам у прэс-службе стаўрапольскай паліцыі. — Скокнуўшы ў ледзяную ваду першым, адзін з мужчын пачаў тануць. Яго таварыш кінуўся яму на дапамогу, але ў выніку абодвум не ўдалося выбрацца, і яны загінулі».

Ужо вядома, што пітной вадой з рэзервуара з трупамі аматараў праваслаўных абрадаў сілкавалася водаправодная сетка не толькі пасёлка Прадгорны, але і некалькі вёсак Прадгорнага раёна, чыгуначная станцыя Есентукская і горад Ясная Паляна. Пакуль ніхто з жыхароў па дапамогу да медыкаў не звяртаўся. Спецыялісты лічаць, што пашанцавала людзям выключна дзякуючы халоднаму надвор'ю: тэмпература вады ў рэзервуары была толькі крыху вышэйшая за нуль, з-за чаго целы за тры дні не паспелі дастаткова згнісці, каб выдзеліць значную колькасць трупнай атруты.

nn.by

# Разгадка смерці Янкі Купалы?

Паважаная рэдакцыя! Хачу падзяліцца думкамі пра артыкул Настассі Зелянковай «Мне бацька яшчэ казаў: «Купала? Дык яго нашы хлопцы забілі! Быў загад ліквідаваць», надрукаваны на сайце nn.by.

З павагай,
Віктар Патапенка — сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.

**Ад Рэдакцыі.** З некаторымі высновамі Віктара Патапенкі можна спрачацца. Віталь Скалабан, скажам, ці Янка Брыль трымаліся іншых меркаванняў. Але лічым патрэбным даць яму слова, бо ён супаставіў шмат наяўных матэрыялаў пра здарэнне, вакол якога застаецца заслона таямнічасці.



### Таемнае забойства ці выпадковае забойства па неасцярожнасці

Вядома, што Янка Купала прыехаў у Маскву 18 чэрвеня 1942 года. Дзесяць дзён ён сустракаўся з сябрамі-пісьменнікамі ў гасцініцы «Масква», хадзіў па справах у выдавецтвы, да доктара, а ў дзень трагічнай смерці, за некалькі гадзін, размаўляў у нумары з выдаўцом Яўгенам Мазальковым.

Падчас размовы Мазалькоў частаваўся цукеркамі, расказаў Купалу, што ў дзіцячым выдавецтве толькі што выйшла ў свет яго кніга і што заўтра ён можа атрымаць аўтарскія экзэмпляры і ганарар. Іван Дамінікавіч падзякаваў складальніку кнігі, расказаў пра жыццё ў Печышчах пад Казанню.

Далей Яўген Мазалькоў зазначае: «Зазваніў тэлефон. На дзясятым паверсе Янку Купалу чакалі сябры. Ён угаворваў мяне пайсці разам з ім, але я спяшаўся дадому».

Іван Дамінікавіч пагадзіўся з Мазальковым і выказаў спадзеў на хуткую сустрэчу падчас юбілею (60-годдзе з дня нараджэння паэта).

Яўген Мазалькоў правёў Янку Купалу да ліфта (ён жыў на чацвёртым паверсе), развітаўся з ім. Ці вярнуўся паэт да сябе ў нумар пасля расстання з Мазальковым, нам невядома. Як і невядома, з якой прычыны Янка Купала быў запрошаны на дзясяты паверх у нумар, дзе жыў старшыня Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі Міхась Лынькоў. У той позні вечар, а гэта была нядзеля, дваццаць першая гадзіна вечара, яго чакалі Кандрат Крапіва, двое работнікаў рэдакцыі газеты «Красноармейская правда» — рэдактар, ураджэнец Гомельскай вобласці палкоўнік Цімафей Міронаў і карэспандэнт Карханаў, загадчыца аддзела мастацтва рэдакцыі газеты «Известия» Вольга Вайцінская.

Некаторыя даследчыкі трагічнай смерці Янкі Купалы ўспамінаюць яшчэ і Пятра Глебку, які прыйшоў да Лынькова незадоўга да таго, як нехта па тэлефонным званку выклікаў Янку Купалу з нумара гасцініцы. Але Глебка не ўзгадваецца ў афіцыйным спецпаведамленні НКВД, таму мы мусім спыніцца на вышэйзгаданых асобах. Хто з іх ініцыяваў сустрэчу і па якой прычыне, мы таксама нічога не ведаем. Па архіўных інфармацыйных крыніцах можна толькі меркаваць, што работнікаў рэдакцыі газеты «Красноармейская правда» лучыла з Лыньковым і Крапівой супраца ў газеце. Пра гэта ўзгадваецца ў артыкуле «Первые военные вёрсты «Красноармейки» Сяргея Клімковіча.

Вядома, што гэтыя сведчанні не могуць запэўніць нас, што па ініцыятыве армейскіх журналістаў у нумар да Міхася Лынькова быў запрошаны і Янка Купала.

Падставай для запрашэння Янкі Купалы ў нумар гасцініцы да Міхася Лынькова магло быць яшчэ і знаходжанне там загадчыцы аддзела культуры рэдакцыі газеты «Известия» Вольгі Вайцінскай — аўтара артыкула «Письмо из Минска», надрукаванага на старонках «Литературной газеты» ў 1938 годзе. У ім Вайцінская рэзка раскрытыкавала работу Саюза беларускіх пісьменнікаў і выконваючага абавязкі старшыні Міхася Лынькова, прапанавала ўжыць радыкальныя меры: «сменить бюрократический канцелярский метод руководства на демократический, соответствующий стилю работы советских общественных организаций».

Можна дапусціць, што Лынькоў збаяўся сустрэчы з адыёзнай журналісткай, захацеў прыкрыцца падтрымкай прысутнасцю народнага паэта. З іншага боку, навошта было Вайцінскай ехаць да Лынькова ў нумар гасцініцы ў нядзелю позна вечарам, калі яна магла запрасіць яго і іншых у рэдакцыю днём у будзень.

Увогуле, з візітам Вольгі Вайцінскай у нумар гасцініцы да Міхася Лынькова шмат загадак. Хто яе запрашаў ці, наадварот, яна арганізавала сустрэчу ваенных карэспандэнтаў з беларускімі пісьменнікамі — невядома, аднак Янка Купала, калі запрашаў Мазалькова ісці разам з ім да Лынькова, напэўна, здагадваўся, з кім давядзецца сядзець за адным сталом, не рабіў ніякіх захадаў, каб сысці раней з нумара ці ўвогуле адмовіцца ад сустрэчы. У яго памяці, мабыць, захаваліся радкі з яе артыкула «Письмо з Мінска», у якіх яна зазначыла: «...между литераторами есть некий «пакт о ненападении» и «попытка критиковать стихотворения Янки Купалы и Якуба Коласа рассматривается как событие необычайное. Создалось неписаное правило, что Якуба Коласа и Янку Купалу критиковать нельзя, даже когда они порой пишут явно плохие стихи».

Калі прагледзець газету «Известия» таго часу, можна прыйсці да думкі, што Вольгу Вайцінскую запрасіў у гасцініцу Алесь Кучар, артыкул якога і быў надрукаваны ў нумары за 28 чэрвеня. Ён, да прыкладу, выпрашыў аддзячыць ёй за публікацыю, сустрэўся, а пасля яна выпадкова зайшла да Лынькова, у нумары якога ўжо былі работнікі ваеннай газеты і Крапіва. Па яе просьбе, а можа, ад зацікаўленасці, Лынькоў выпрасіў далучыць да гурту і Янку Купалу. Такі варыянт таксама можна было разглядаць, каб на сённяшні дзень не было дакументаў, якія звязаны з лёсам Вольгі Вайцінскай.

Я маю на ўвазе пакаянны ліст Сталіну ад гэтай асобы, які прыйшоў у ЦК ВКП(б) 30 студзеня 1939 г.

У ім Вайцінская адстойвае сябе як шчырага камуніста, апраўдвае высокае званне члена партыі, якое нібыта было сплачена пісьменнікам Аляксандрам Фадзеевым. Далей Вольга Вайцінская прызнаецца Іосіфу Сталіну, што «в ноябре месяце я была назначена заместителем редактора «Литературной газеты», редактора назначено не было, и я все это время и.о. редактора. Мне было трудно потому, что одновременно я вела разведывательную работу по заданию органов НКВД».

Далей у пісьме Вольга Вайцінская просіць апраўдання ў Сталіна, паколькі ў многіх выпадках яна не магла сябе паводзіць з «ворагамі» народа прынцыпова, бо яна, «як работнік НКВД», не мела на гэта права.

Вядома, што пра пісьмо Сталіну ніхто ў кампаніі беларускіх пісьменнікаў не здагадваўся, напэўна, успрымалі яе як пасадовую асобу рэдакцыі газеты, а яна, «разведчыца» Вольга Вайцінская, на самай справе агент-інфарматар, седзячы за сталом з бакалам шампанскага, спакойна назірала за прысутнымі, у прыватнасці за Янкам Купалам. У 22 гадзіны яна разам з Кандратам Крапівой выйшла з гасцінічнага нумара. Каму і якім сакрэтным метадам яна паведаміла пра абстаноўку сярод пісьменнікаў, мы можам толькі здагадвацца. Але алібі сабе стварыла адмыслова — яе праводзіў у горад Кандрат Крапіва. Праз дзесяць хвілін, калі яны выйшлі з нумара гасцініцы, Міхасю Лынькову пазванілі і папрасілі да тэлефона Янку Купалу. Хто ведаў на тую хвіліну, дзе знаходзіўся народны паэт? Апрача Яўгена Мазалькова, які праводзіў яго да ліфта, Вольгі Вайцінскай ды Кандрата Крапівы, маглі яшчэ ведаць месцазнаходжанне Янкі Купалы работнікі НКВД. Яны кантралявалі кожны тэлефонны званок, яны праз сетку агентурных работнікаў, да якіх адносіўся абслугоўваючы персанал гасцініцы, маглі ведаць пра кожны крок народнага паэта.

Такім чынам, пачынаючы штохвілінны адлік часу, які падаецца ў спецпаведамленні трэцяга сакрэтна-палітычнага ўпраўлення НКВД, начальнікам якога з'яўляўся Мікалай Гарлінскім, мы ведаем, што Янка Купала выйшаў з нумара гасцініцы, у якім жыў Міхась Лынькоў, прыкладна ў 22 гадзіны 10 хвілін. Праз 20 хвілін, у 22.30, цела народнага паэта апынулася на лесвічнай пляцоўцы першага паверха гасцініцы. Ніякіх звестак пра тое, па якой прычыне Янка Купала выйшаў з нумара і з кім знаходзіўся ўвесь гэты час, у нас няма. Ёсць толькі інфармацыя НКУС, якая інфармуе Лаўрэнція Берыю пра няшчасны выпадак.

Што сабой уяўляе спецпаведамленне, падпісанае начальнікам сакрэтна-палітычнага ўпраўлення НКВД СССР старшым маёрам дзяржаўнай бяспекі Мікалаем Гарлінскім (сапраўднае прозвішча — Дрышчаў)?

«28 июня в 22 часа 30 минут в гостинице «Москва» упал в лестничную клетку и разбился на смерть народный поэт Белоруссии Луцкевич Иван Доминикович, 1882 года рождения, литературный псевдоним Янка Купала.

Предварительным выяснением обстоновки падения никаких данных, свидетельствующих о насильственной смерти или самоубийстве, не установлено...

Примерно в 21 час Луцкевич был приглашен в комнату 1034 (десятый этаж той же гостиницы) к председателю Союза советских писателей Белоруссии Лынькову... где присутствовали там же писатель Крапива, редактор газеты «Красноармейская правда» Миронов... зав. отделом редакции «Известия» Войтинская...

Примерно в 22 часа Войтинская и Крапива из номера ушли, и минут через 10 после них вышел Луцкевич.

Момент и обстоятельства падения Луцкевича никто не видел. Можно предполагать, что упал он с 9-го этажа, так как начиная с 7-го этажа в лестничной клетке обнаружены капли крови...

Следствие ведет военный прокурор гор. Москвы».

Дакумент унутрыведамасны, не сакрэтны, надрукаваны ў чатырох экзэмплярах. Першы — застаўся ў сакратарыяце сакрэтна-палітычнага ўпраўлення, астатнія — наркаму. Калі б мы мелі экзэмпляр, на якім ёсць рэзалюцыя Берыі, мы дакладна б ведалі, ці інфармаваў наркам Сталіна і Молатава. Таму сцвярджаць, як гэта зрабілі некаторыя даследчыкі трагічнай смерці Янкі Купалы, што копіі былі высланы вышэйпамянёным кіраўнікам, нельга. Надпіс у дакуменце пра «разослать: т. Сталину, т. Молотову» зроблены сакратарыятам упраўлення дзеля зручнасці наркаму па інфармаванні кіраўнікоў краіны.

Змест спецпаведамлення, магчыма, складзены адвольна, высілкамі аператыўнікаў НКУС, якія дзяжурылі ў той вечар у гасцініцы, ці, наадварот, ён быў запазычаны з заключэння дзяжурнай следчай групы ваеннай пракуратуры. Пакуль што гэта невядома. Аднак, калі пагадзіцца з тым, што смерць Янкі Купалы, як, дарэчы, і любога іншага чалавека, расследуецца толькі органамі пракуратуры, бо гэта іх паўнамоцтвы, можна меркаваць, што папярэдняе высвятленне абставінаў падзення паэта ў лесвічны пралёт праводзілася ваеннай тэрытарыяльнай пракуратурай і што менавіта першапачатковая версія дзяжурнай групы, якая аглядала месца здарэння, і была ўзята за аснову аператыўнікамі НКУС, у якой значылася, што «ніякіх дадзеных, якія б сведчылі пра гвалтоўную смерць ці самазабойства, не выяўлена». Па сутнасці, Лаўрэнцію Берыю было паведамлена, што з Янкам Купалам здарыўся няшчасны выпадак.

Аналізуючы шэраг фактаў, у якіх расказваецца пра няшчасныя выпадкі з людзьмі ў лесвічных пралётах, я адзначыў тыповыя сітуацыі, падчас якіх здаралася няшчасце. Першая і найбольш распаўсюджаная з іх звязана з людзьмі, якія знаходзіліся ў нецвярозым стане, другая — калі людзі, часцей падлеткі, гарэзнічалі паміж сабой ці імкнуліся выкарыстоўваць лесвіцы для слізгання па парэнчах, і трэцяя — калі чалавеку раптоўна рабілася млосна.

Якія з гэтых варыянтаў можна «прымерыць» да трагічнай смерці Янкі Купалы? У той дзень, як гэта сцвярджаецца ў спецпаведамленні НКВД, паэт выпіў шмат шампанскага, быў абсалютна п'яны, таму, напэўна, і мог зваліцца ў лесвічны праём.

Другая сітуацыя са слізганнем народнага паэта па парэнчах лесвіцы вельмі сумніўная. Застаецца трэцяя: Янка Купала адчуў сябе дрэнна, страціў раўнавагу, і яго павяло ўбок, на парэнчы.

Але ўсе гэтыя версіі недапушчальныя, паколькі ў спецпаведамленні гаворыцца пра кроплі крыві «ў лесвічнай клетцы сёмага паверха гасцініцы». Заўважце, кроплі крыві не на лесвічнай пляцоўцы ці на прыступках, а менавіта ўнутры: «у лесвічнай клетцы». З гэтага факта і трэба зыходзіць, шукаючы сапраўдную прычыну смерці класіка. Не ведаю, з якой нагоды сцвярджаецца ў спецпаведамленні НКВД, што паэт «упал с 9-го этажа, так как начиная с седьмого этажа в лестничной клетке обнаружены отдельные капли крови», але, выслухаўшы многіх экспертаў-крыміналістаў, я больш схіляюся да таго, што Янка Купала ўпаў у лесвічны праём менавіта з пляцоўкі паміж восьмым і сёмым паверхам. Чаму? Па-першае, па законах фізікі кроплі крыві не могуць падаць два пралёты па



**Як выглядаў пралёт у гасцініцы «Масква».**

ўскоснай лініі, яны ляцяць уніз на гарызантальную плоскасць вертыкальна. У выпадку са смерцю паэта яны павінны былі дасягнуць пляцоўкі першага паверха, якраз каля стойкі адміністратара. Таму, зыходзячы з гэтай высновы, відавочна адна версія трагічнай смерці класіка: на пляцоўцы паміж восьмым і сёмым паверхам яго нехта моцна ўдарыў у твар. Толькі ў такім выпадку кроплі крыві маглі распырскацца і дасягнуць унутраных сценак лесвічнай клеткі, а сам Янка Купала, калі ён стаяў непадалёк ад парэнчаў ці абапіраўся на іх, мог зваліцца, альбо яму дапамаглі зляцець уніз.

Хто мог гэткім чынам абысціся з паэтам, застаецца загадкай. Ёсць некалькі варыянтаў, аднак, штораз перачытваючы артыкул Настассі Зелянковай «Мне бацька яшчэ казаў: «Купала? Дык яго нашы хлопцы забілі! Быў загад ліквідаваць», у якім аўтар бярэ інтэрв’ю ў гісторыка Анатоля Тараса, я пачынаю верыць, што і гэта версія забойства Янкі Купалы мае права на расследаванне.

«Яшчэ калі я быў 13-гадовым падлеткам, — прызнаецца Анатоль Тарас, — мой бацька Яўхім, які ў 1942—1944 гадах служыў спачатку ў Цэнтральным, а потым у Беларускім штабе партызанскага руху, калі неяк зайшла гаворка пра Купалу, раптам сказаў: «Купала? А, паэт. Я знаў яго асабіста. Яго нашы хлопцы забілі!» — «Як забілі?» — «Ну, быў загад ліквідаваць».

Словы «дык яго нашы хлопцы забілі», мне падаецца, адносяцца да падраздзялення НКВД Васіля Сергіенкі, якое было прыкамандзіравана ў Цэнтральны штаб партызанскага руху, дзейнасцю якога кіраваў Панцеляймон Панамарэнка. Ці не рэалізавалася тут даўняя мара першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі, якую ён выказваў Сталіну наконт «варожай» дзейнасці Янкі Купалы? Ці не здзейснена тут планавая арганізацыя забойства паэта шляхам імітацыі «няшчаснага выпадку»? Мо таму і ў спецпаведамленні катэгарычна заяўляецца пра выключэнне забойства і самазабойства, а «няшчасны выпадак» падмацоўваецца шчодрым распіццём шампанскага ў нумары Купалы і Лынькова?

Гэта версія вынікае і са сведчання жонкі Міхася Лынькова пра тэлефонны званок, які быў ад літоўскай разведчыцы Ірэны. Спецрадыстка, якая была на службе ў НКВД Цэнтральнага штаба партызанскага руху, мабыць, і была той жанчынай, якая хутка збягала са сходаў, калі ў калідорах гасцініцы пачуўся ажыўлены гоман.

На жанчыну, якая у той вечар размаўляла з Янкам Купалам, стоячы на сходах, спасылаецца і Пятро Глебка, які гутарыў з дзяжурнай па паверсе адразу пасля здарэння. Аднак момант, падчас якога Янка Купала зляцеў у лесвічную клець, застаўся не заўважаным.

Загадкай застаецца і яшчэ адзін дакумент. Маю на ўвазе афіцыйны зварот сакратара ЦК КП(б) Гарбунова да начальніка першага аддзела трэцяга сакрэтна-палітычнага ўпраўлення НКВД СССР Максіма Бенянсона на другі дзень пасля смерці Янкі Купалы. Ён просіць «впустить членов правительственной комиссии по организации похорон в опечатанный 414-й номер гостиницы «Москва», где жил поэт, чтобы взять для покойника «белье, сорочку и галстук».

З першага погляду, гэта абсалютная бяссэнсіца. Справа ў тым, што працэсуальныя дзеянні, якія праводзіліся следчай групай ваеннай пракуратуры, не маглі ніякім чынам даваць дазвол іншаму ведамству, у нашым выпадку — НКВД, апячатваць пакой Янкі Купалы. Гэта прэрагатыва толькі следчага. У юрыдычнай практыцы такога не можа быць.

Звернем увагу яшчэ на адну дэталь. Асноўнай задачай першага аддзела трэцяга ўпраўлення, які ўзначальваў Максім Бенянсон, была барацьба з рэшткамі антысавецкіх палітычных партый і арганізацый. Аператыўнікі займаліся распрацоўкай праватрацкісцкага падполля і выключаных з ВКП(б) па палітычных матывах, сем’яў рэпрэсіраванага праватрацкісцкага актыву і асоб па адмысловым спісе.

Калі дапусціць, што Янка Купала быў у гэтым спісе па прычыне яго пераблытанага прозвішча — не Луцэвіча, а Луцкевіча, тады можна яго аднесці да асоб па адмысловым спісе.

Дарэчы, што тычыцца ўзгадкі Янкі Купалы ў службовых дакументах НКУС пад прозвішчам Луцкевіч.

Расціслаў Платонаў, беларускі навуковы супрацоўнік, піша: «В марте 1926 года ЦК КПБ принял постановление «О работе среди интеллигенции», в соответствии с которым вся интеллигенция республики по своим политическим взглядам была поделена на группы. Третьей группой была названа та, которая хотя и «лояльна», работает с советской властью, однако границы, отделяющей её от диктатуры пролетариата, не перешла — в силу «мелкобуржуазной природы». Чтобы не подвергаться «национал-демократическому перерождению», постановление требовало усиливать влияние особенно на эту группу, укреплять руководство учреждениями культуры, редакциями газет, литературными объединениями. На его основе специальная комиссия по интеллигенции начала проверку состава и очистку учреждений науки, культуры, образования от классово чуждых элементов. Предложения комиссии с характеристиками работников, составленными на основе сведений ГПУ, представлялись в бюро ЦК. В рассматривавшемся в декабре 1926 года таком списке только по Инбелкульту насчитывалось 14 фамилий с «компрометирующими» данными». Относительно Купалы было записано: «7. Луцкевич Иван (Янка Купала) — левонароднический уклон, член ИБК, член Прав. Терминолог. Комиссии...».

Далей чытаем характарыстыку складу дэлегацыі Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР у Маскве са спецпаведамлення сакрэтна-палітычнага аддзела Галоўнага ўпраўлення НКУС СССР «О ходе подготовки к I Всесоюзному съезду Союза советских писателей» 12.08.1934 года.

Пад другім нумарам — Янка Купала: «Луцкевич И.Д., белорусский народный поэт, беспартийный. Активный лидер национального демократизма. Его квартира была местом постоянных сборищ нацдемов. Находился в тесной связи с осужденными членами «Белорусского национального центра» Рак-Михайловским, Жиком и др. Группирует вокруг себя нацдемовски настроенных».

І нарэшце трэцюю згадку прозвішча паэта — Луцкевіч (аж шэсць разоў?) — мы знаходзім у спецпаведамленні НКВД пасля трагічнай смерці.

Мне падаецца, што разгадку памылковага напісання прозвішча Янкі Купалы патрэбна шукаць у агентурна-аператыўнай справе, заведзенай на паэта, магчыма, з часоў ГПУ ў Беларусі. Аргштатны работнік пазначыў заведзеную справу на паэта нумарным знакам на вокладцы, а ўнутры напісаў памылковае прозвішча — Луцкевіч. Матэрыялы, якія назапашваліся ў АГПУ-НКВД Беларусі, абавязкова капіяваліся для цэнтральнага ведамства ў Маскве. Таму, калі здарылася трагедыя з Янкам Купалам, спецпаведамленне НКВД пісалася не з дакументаў, якія былі пры ім ці сярод яго рэчаў у гатэльным нумары, а з сакрэтнай справы, якая захоўвалася ў другім аддзеле сакрэтна-палітычнага ўпраўлення НКВД СССР. У той час яго ўзначальваў маёр дзяржаўнай бяспекі Віктар Ільін, пазней ён стаў сябрам Саюза пісьменнікаў СССР і нават яго сакратаром аж да 1977 года. Работа гэтага падраздзялення была скіравана на аператыўную распрацоўку антысавецкіх фарміраванняў сярод акадэмікаў, членаў-карэспандэнтаў і навуковых супрацоўнікаў навукова-даследчых інстытутаў украінскай, беларускай Акадэміі навук, іншых філіялаў і базаў, падведамасных Акадэміі навук СССР, а таксама сярод пісьменнікаў, работнікаў выдавецтваў і мастацтва.

Зыходзячы з гэтых дакументаў, даводзіцца меркаваць, што Янку Купалу, магчыма, забілі таемна, шляхам арганізаванай імітацыі пад здарэнне з «няшчасным выпадкам». Аднак, калі быць справядлівым, сёння, не маючы іншых дакументаў, якія тычацца здарэння з паэтам, нельга адмаўляць яшчэ і выпадковага забойства па неасцярожнасці, не заўважаага сведкамі. Адна з гэткіх версій падаецца пісьменнікам Віктарам Арцем’евым з Магілёва, які спасылаецца на аповед памерлага Аляксея Пысіна пра канфлікт дзяўчыны-афіцыянткі з Купалам на лесвіцы ў той вечар. У гэткую гісторыю, а таксама ў іншыя можна верыць, пакуль не з’явяцца афіцыйныя дакументы расследавання трагічнай смерці паэта.

**Віктар Патапенка**

**І праўда што**

# Жыхар Віцебска дамогся зняцця рэкламы «шансанье» Віктара Каліны

Некалькі дзён таму жыхар Віцебска Сяргей Сясіцкі адправіў у Віцебскі аблвыканкам такі зварот.

«Паводле інфармацыі з сеткі Інтэрнэт на тэрыторыі Віцебскай вобласці плануецца правядзенне канцэртаў выканаўцы шансона Віктара Каліны.

Згодна з «Палажэннем аб правядзенні культурна-масавых мерапрыемстваў» зацверджаным Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 19.10.2010 N 542 «Аб правядзенні культурна-відовішчных мерапрыемстваў» забараняецца правядзенне мерапрыемстваў:

якія маюць на мэце ажыццяўленне прапаганды вайны або экстрэмісцкай дзейнасці;

якія ўяўляюць пагрозу нацыянальнай бяспецы, грамадскаму парадку, маральнасці і здароўю насельніцтва, правам і свабодам грамадзян...

Пакінуўшы за дужкамі калякрымінальную тэматыку «творчасці» і вобраз дадзенага выканаўцы, выклікаюць абурэнне яго адкрыта хамскія і зневажальныя каментары, пагрозы ў адрас нашых суграмадзян, гарадоў і ў цэлым Рэспублікі Беларусь, званай ім у сацыяльнай сетцы Фэйсбук «беларашкай», а таксама інфармацыя аб яго ўдзеле ў баявых дзеяннях ва Украіне на баку незаконных фарміраванняў.

Мяркуючы, што публічная гастрольная дзейнасць дадзенага грамадзяніна наўпрост супярэчыць нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь, пагражае грамадзянскаму міру ў нашай краіне, прашу разглядзець пытанне аб адмове ў выдачы яму гастрольных пасведчанняў і аб адкліканні ўжо выдадзеных».

Сёння Сяргею Сясіцкаму прыйшоў адказ з Віцебскага аблвыканкама, паведаміў ён у сваім фэйсбуку.

«Такім чынам.

1. Ідэолагі прымусілі яго прыбраць рэкламу, але толькі чамусьці ў Віцебскай вобласці. Трэба меркаваць, на канцэрты ў іншых абласцях дазволы ёсць, ці там законы Беларусі працуюць неяк па-іншаму.

2. Ад ацэнкі яго хамскіх выказванняў чакана ўхіліліся.

Што рабіць далей?

1. Накіраваць аналагічныя лісты ў астатнія аблвыканкамы.

2. Назіраць за сайтам «спевака».

Калі на ім з'явіцца выдаленая інфармацыя пра канцэрты, ці яны адбудуцца без рэкламы, то, значыць, дазволы атрыманыя, а дзяржаўная ідэалогія не супраць абразаў Рэспублікі Беларусь і яе грамадзян», — рэзюмуе Сясіцкі.



# Айчына нашых мараў: што хаваецца ў дэталях?

Піша **Алесь Белы**.

Новая кніга славутага літаратара, папулярызатара айчыннай гісторыі Уладзіміра Арлова і не меней славутага мастака Паўла Татарнікава «Айчына: ад Рагнеды да Касцюшкі» адразу ж атрымала гарачае прызнанне публікі і, несумненна, з'яўляецца важкім дасягненнем у жанры «маляўнічай гісторыі», як ён пазначаны на вокладцы гэтага шыкоўнага выдання.

Істотнай адрознасцю ад папярэдніх выданняў такога кшталту, перш за ўсё з серыі «Краіна Беларусь», з'яўляецца характар змешчаных тут ілюстрацый: усе яны аўтарскія, належаць менавіта пэндзлю Паўла Татарнікава, нават калі ў некаторых можна ўгадаць гістарычныя прататыпы мінулых эпох. Гэта сведчанне пэўнага сталення беларускай гістарычнай думкі, перш за ўсё ў яе папулярным вымярэнні, але не толькі. Гэта азначае, што беларуская нацыя, а дакладней, тая яе «пасіянарная» частка, што неабыякавая да айчыннай гісторыі, мае вялікую патрэбу ў візуалізацыі вобразаў мінулага і вучыцца рабіць гэта нанова, часта не маючы дакладнай іканаграфічнай «сыравіны» і нават часам надзейных тэкставых крыніц, мабілізуючы мастацкае ўяўленне і аналогіі з найбліжэйшых да нас краін. Улічваючы, як складана развівалася выяўленчае мастацтва ў нашым рэгіёне і якія страты былі панесеныя ў няспынных войнах і рэквізіцыях, да такіх прыёмаў прыбягаюць нават нашы больш развітыя заходнія суседзі. А ў нас жа пакуль кваліфікаваныя мастакі, якія працуюць у жанры гістарычнай рэканструкцыі, і ўвогуле «на вагу золата». У нейкім сэнсе мы знаходзімся зараз прыкладна на такім этапе візуальнага асэнсавання нашай гісторыі, на якім знаходзілася Польшча прыкладна 150 гадоў таму, у часы Яна Матэйкі і Юліуша Косака.



Прыемней і лагічней пачаць з пералічэння вартасцей кнігі. Тут, бадай, непазбежная суб'ектыўнасць, бо кніга ўспрымаецца ў значнай ступені як твор мастацтва, а значыцца, уступае ў дзеянне славутая прыказка пра густы. Асабіста мне вельмі спадабаліся панарамы Любчанскага замка (с.162—163), Магілёва (с.166—167), Міра (с.188—189), зробленыя ў фірмовым стылі Татарнікава. Трохі ў іншым, больш «кінематаграфічным» а ў нечым і алегарычным, стылі пададзены захоп Вільні 8 жніўня 1655 г. войскамі цара Аляксея Міхайлавіча. Хаця пералічаць такія прыгожыя панарамы гарадоў і замкаў можна доўга, але тады рэцэнзія будзе больш падобнай да інвентара.

А найбольш сімпатычнай, ізноў-такі, чыста суб'ектыўна, мне падалася **рэканструкцыя будаўніцтва Сынкавіцкай царквы-крэпасці (с.77) (выява зверху)**. Адразу чамусьці захацелася ўбачыць гэтую выяву на паштовай марцы, а яшчэ — папрасіць аўтара менавіта ў такім стылі намаляваць вядомы ў нашай Налібоцкай пушчы анекдатычны сюжэт пра мядзведзяў-будаўнікоў, што дапамагалі даўнейшым дойлідам будаваць мураваныя тутэйшыя храмы, цягаючы камень і цэглу па рыштаваннях у адмысловых мулярскіх кашах.

Безумоўна, моцны бок Татарнікава — і гістарычныя партрэты. На мой погляд, не ўсе яны аднолькава ўдалыя, але некаторыя вельмі ўражваюць майстэрствам, у тым ліку ўдалымі стылізацыямі пад пэўныя эпохі. Канечне, увойдзе ў залаты фонд гістарычнай ілюстрацыі на наступныя дзесяцігоддзі партрэт Францыска Скарыны (с.101), выстаўлены ў арыгінале ў рамцы на аўтограф-сесіі кнігі ў «Акадэмкнізе», якую мне пашчасціла наведаць.

Бліскучай мне падалася аўтарская інтэрпрэтацыя «сармацкага партрэта» на прыкладзе Канстанціна і Васіля Астрожскіх, с.115 і 116 адпаведна. Але вельмі сімпатычны і вонкава «просценькі» ўяўлены партрэт бацькоў Еўфрасінні Полацкай (с. 29), выкананы ў аўтэнтычнай візантыйскай іканапіснай манеры XI—XII ст. Магчыма, толькі пад канец гістарычнага абсягу кнігі, у XVIII ст., аўтарскі стыль робіцца трохі анахранічным для адлюстраванай эпохі, але гэта, ізноў, толькі суб'ектыўнае ўражанне рэцэнзента.

Што, аднак, на мой погляд, з'яўляецца недахопамі падыходу аўтараў кнігі «Айчына» да візуалізацыі гісторыі? Перш за ўсё адзначу відавочны крэн у «манументальнасць» і «мілітарызм». Велічныя панарамы гарадоў і замкаў, батальная тэматыка і парадныя партрэты надзвычай рэльефна дамінуюць над прыватным побытам, гісторыяй штодзённасці, мірнымі заняткамі. Нельга сказаць, што апошнія ў кнізе не прадстаўленыя зусім, але, бадай, даволі бессістэмна і ўрыўкава. Мне спадабалася простая, але вельмі сімвалічная выява прыладаў для пісьма (с.17) і стылёва падобная да яе выява шахматнай дошкі з мастацкімі аўтэнтычнымі выявамі фігураў, знойдзеных на раскопках Ваўкавыска і іншых беларускіх гарадоў (с.23). Але далей такія выявы, на жаль, амаль знікаюць, а тыя, што прысутнічаюць, — амаль заўжды звязаныя з ваеннай справай: арбалет (с.73), набор халоднай зброі (с.96), старонка з кнігі К.Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі» (с.156), катаўскі меч, які праславіў магілёўскага бурмістра Левановіча (с.168—169), або драгунскі палаш цара Пятра I (с.182—183). Зусім як выключэнне з гэтага правіла, у канцы кнігі ўзнікае выява калекцыі налібоцка-ўрэцкага шкла (с.202), але яна не падалася мне вельмі ўдалай.

**У беларускага грамадства ёсць рызыка паўтарыць тыя фатальныя пралікі ў развіцці, якія прывялі Рэч Паспалітую да катастрофы**

Зрэшты, вельмі дарэчы выявы, зробленыя вельмі акуратна і з замілаваннем, тытульных аркушаў скарынаўскай Бібліі (с.104) і Статуту ВКЛ 1588 г. (с.136). Бадай, кнігавыдавецтва і найлепшыя, пераважна «экспартныя», дасягненні айчыннай інтэлектуальнай культуры таксама прысутнічаюць на тле гісторый войнаў і войска як досыць заўважны кампанент сімвалічнай прасторы кнігі, але гэта толькі пацвярджае згаданы трэнд «манументальнасці». Сімвалічна, што няма выяў, якія б датычылі гастранамічнай культуры — ці не саромеюцца аўтары намякнуць на тое, што іх героі мелі і натуральныя фізіялагічныя патрэбы? Асабіста мне больш імпануе ідэя пра «прыхаваную веліч» мінулага, паказаную праз наўмысна сціплыя сімвалы, разуменне знакавасці якіх патрабуе пэўнай засяроджанасці і эрудыцыі. Таму вельмі вітаў бы ў гэтай кнізе фіксацыю позірку на асобных дэталях касцюму, інтэр'еру, прыладах працы і тэхналагічных працэсах, музычнай культуры і іншых аспектах культуры штодзённасці. Выходнага матэрыялу, як іканаграфічнага, так і тэкставага, для такіх рэканструкцый маем не так ужо і мала.

Нават на славутай гравюры з відам Гародні М.Цюндта бачым прадстаўнікоў некалькіх добра прамаляваных прафесійных заняткаў, а ў Хроніцы Рыхенталя — выяву двух тураў, цалкам засмажанага і засоленага ў бочках, якіх Ягайла ў 1415 г. адправіў у падарунак імператару Сігізмунду. Прыклады — амаль першыя, якія прыйшлі ў галаву, але насамрэч без знакавых праяў культуры штодзённасці многія праграмныя сцверджанні кнігі «падвісаюць у паветры».

Прадбачу, што многія запярэчаць мне, што праз такую «манументальнасць» і «мілітарызм» якраз найперш і выхоўваюцца патрыятычныя пачуцці, а некаторыя і пакажуць пальцам на выпрабаванні, што напаткалі нашых паўднёвых суседзяў. Але мне падаецца, што за ўвесь той час, што існуе ідэя беларускай суб'ектнасці, дзяржаўнасці, ніводнаму з пакаленняў за апошняе стагоддзе не ўдалося атрымаць ніякіх вайсковых перамог над усходнім суседам, падобных да тых, якія складаюць лейтматыў кнігі «Айчына». І прытым беларуская суб'ектнасць неяк жа стала ўзрастала. А вось сёння самымі галоўнымі праблемамі для нашай незалежнасці выглядаюць эканамічныя і тэхналагічныя.

І, можа быць, я трохі наіўны, але мне здаецца, што калі такія кнігі пакліканы перадусім уздымаць нацыянальную самаацэнку, дык варта было б пашукаць і яскравых візуальных прыкладаў нашых рамесніцкіх і іншых вырабаў,



Панарама Міра (левая частка).



**Алесь Белы**

нар. 1968, Мінск. Гісторык, публіцыст, культуролаг. Вядомы блогер.

Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1989), Кінгстанскую школу бізнэсу ў Вялікабрытаніі (1996). Доктар гуманітарных навук (навуковая ступень прысвоеная Інстытутам гісторыі Акадэміі навук Літвы).

як гістарычных прататыпаў нашай сучаснай канкурэнтаздольнасці. Прыкладаў удала арганізаванага, утульнага прыватнага побыту. «Унутранай кухні» мастацкіх і іншых творцаў. Хаця ў прадмове абяцаецца, што кніга «прывядзе... у палац магната і ў хату простага беларуса-ліцвіна», але асабіста я вось гэтага эфекту блізкай прысутнасці не адчуў. Абазнаныя ў папулярнай гістарыяграфіі чытачы зразумеюць мяне, калі я згадаю як прыклад ілюстратыўны шэраг славутага 3-томніка Фернана Брадэля «Матэрыяльная цывілізацыя, эканоміка і капіталізм», які, канечне, прызначаны для больш дарослай і падрыхтаванай аўдыторыі і вырашае зусім іншыя задачы.

Наша праблема ў тым, што ў нас уся наяўная зацікаўленая аўдыторыя мае прыкладна аднолькавы ўзровень успрыняцця гісторыі — на жаль, досыць інфантыльны, «фэнтэзійны». І для яе ўвесь часовы абсяг дзеяння кнігі выглядае як суцэльнае «Беларускае Сярэднявечча», нягледзячы на тое, што ў XVII—XVIII ст. ва ўсёй Еўропе надыходзяць зусім іншыя часы. І тут ва ўсяго беларускага грамадства, як у аўтараў кнігі, так і ў аўдыторыі, на якую яны разлічваюць, ёсць рызыка паўтарыць тыя самыя фатальныя памылкі ў развіцці, якія прывялі Рэч Паспалітую да катастрофы. У кнізе ёсць багата інфармацыі пра геройчныя чыны Тадэвуша Рэйтана і Тадэвуша Касцюшкі, але не згадваюцца дзейнасць Адукацыйнай камісіі, рэфарматарскія «абеды па чацвяргах» і нават знакавыя для ўласна беларускай гісторыі тызенгаўзаўскія мануфактуры. Ёсць небяспека, што «Беларускае Сярэднявечча» працягнецца ў XIX ст., а нават і ў наша XXI, як у некаторых сацыяльных аспектах, асабліва на вёсцы, яно і назіраецца на яве.

Тое, што амаль адзіным героем кнігі выступае нават не шляхціч-«сармат», а амаль анахранічны сярэднявечны рыцар-«ліцвін», ускладняе і для сучаснага беларускага грамадства пабудову ўсесаслоўнай нацыянальнай інфармацыйнай прасторы. Бо, на жаль, як у «Беларускім Сярэднявеччы» досыць вузкая сацыяльная праслойка «палітычнага народу» манапалізавала правы на любыя больш-менш важныя палітычныя рашэнні і найбольш прыбытковыя галіны эканамічнай дзейнасці, так і сёння досыць падобнае ўпрывілеяванае становішча мае досыць вузкая праслойка «вертыкалі». І вобразны шэраг кнігі, нягледзячы на ўсю ягоную маляўнічасць і манументальнасць, не выводзіць нас з тупіка «Беларускага Сярэднявечча», прымушаючы згадаць сітуацыю, апісаную ў «Дні Сурка». Каб вырвацца з яго, трэба адпрацоўваць больш складаныя шаблоны ўспрыняцця сімвалічнай прасторы. Здзіўляе, што, нягледзячы на тую ўтрыравана вялікую вагу, якую ў нашай інфармацыйнай прасторы займаюць этнаграфічныя рэаліі, сяляне амаль не прысутнічаюць як тыповыя героі кнігі — хаця было б лагічна даць некалькі рэканструкцый найбольш тыповых сцэн іх жыцця. Але тое самае, з некаторымі агаворкамі, можна сказаць і пра гараджанаў!

Таксама не маюць сваіх «сімвалічных прадстаўнікоў» у мастацкай прасторы кнігі нацыянальныя меншасці, такія як яўрэі, татары і літоўцы. Мне, дарэчы, не раз даводзілася пісаць, што ў сучаснай Беларусі ніяк сімвалічна не абыгрываецца татарскі характар Іўя, літоўскі — Гервятаў або польская спецыфіка Івянца, хаця ў іншых краінах частковая іншаэтнічнасць гэтых анклаваў абавязкова зрабілася б турыстычнай цікавосткай, а школьнікаў вазілі б у іх менавіта, каб адчуць блізкую і легальную «іншасць». Канечне, аўтарскі калектыў кнігі не мусіць за гэта адказваць, але я кажу пра агульную тэндэнцыю ігнараваць тую нашу гістарычную мультыкультурнасць, у якой мы доўгі час апераджалі Захад і якую з цягам часу амаль цалкам страцілі — прынамсі звычайны «абывацель» пра яе часта і не здагадваецца.

Гэтая наша мультыкультурнасць закладалася менавіта ў разглежданы ў кнізе перыяд часу, гэта потым савецкі і нацысцкі рэжымы істотна яе спляжылі.

Некаторыя заўвагі, пераважна ў рэчышчы тых самых адзначаных вышэй «трэндаў», хочацца зрабіць і па тэксце кнігі. Вельмі шмат крытычнага можна напісаць пра спрэчнасць аўтарскай трактоўкі паняцця «Літва» і вытворных ад яго і іх суадносін з гістарычнай Белай Руссю і сучаснай Беларуссю. Але пастараюся быць максімальна кароткім у гэтым пытанні, якое можа выклікаць шматгадзінныя і прытым малазмястоўныя дыскусіі. На с.58 чытаем: «Гаворачы пра тагачасную Літву, трэба памятаць, што яна ўзнікла не там, дзе жывуць літоўцы (летувісы), а на абшары цяперашняй Беларусі». Аднак як жа быць з тым фактам, што на той частцы абшару цяперашняй Беларусі, дзе ўзнікла ранняя Літва, і дагэтуль пераважаюць балцкія тапонімы? Як трэба ставіцца да жыхароў сучасных літоўскіх анклаваў на тэрыторыі Беларусі — Гервятаў і Пелясы, а да 1970-х гг. і да носьбітаў літоўскіх дыялектаў на тэрыторыі Дзятлаўскага раёна, размешчанага досыць глыбока на поўдзень ад тэрыторыі сучаснай Літвы? Як ставіцца да продкаў прафесара Мальдзіса або мытнікакраязнаўцы Юркойця, тоесных паводле мовы і культуры продкам сучасных «летувісаў»?

## Стэрэатып «у нас было ўсё, як у Еўропе, а ў маскоўцаў не было нічога» набіў аскоміну

Настойлівае жаданне навязаць чытачу ўяўленне пра быццам бы сінанімічнасць паняццяў «беларус» і «ліцвін», якія амаль усюды ў кнізе пішуцца праз дэфіс, неўсвядомлена самавыкрываецца аўтарам тэксту ў раздзеле пра Казіміра Семяновіча, с.154—157. Уласна кажучы, дакладна невядома, дзе нарадзіўся аўтар «Вялікага мастацтва артылерыі». Літоўцы, якіх сёй-той з адценнем грэблівасці называе «жмудзінамі», лічаць, што якраз на іх тэрыторыі, ці не ў той самай Жмудзі. Відаць, з прычыны гэтай фонавай спрэчкі Семяновіч называецца ў кнізе выключна і аднязначна беларусам, без усялякіх ліцвінаў-праз-дэфіс. Значыцца, у выключных выпадках беларускасць усё-ткі выглядае «надзейнейшай»?«Ліцвінам» можна спакойна называць ураджэнца сучаснай Беларусі, асабліва праваслаўнага русіна, але калі ўзнікае момант няпэўнасці, няўстойлівасці, спрэчкі, гэтая быццам бы ўтульна засвоеная «ліцвінскасць» адкідаецца, і стаўка робіцца на больш надзейную Беларусь. У межах гэтай логікі «беларусам» назавуць католіка-балта з Віленшчыны, а праваслаўнага русіна з Мсціслаўшчыны або Панізоўя — «ліцвінам», хаця акуратнаму гісторыку, які стала працуе з аўтэнтычнымі дакументамі, такое размежаванне аднязначна «коле вока».

Іншы падобны прыклад: імя караля Стэфана Баторыя штучна рутэнізуецца як «Сцяпан». Але ж даўнія гістарычныя дакументы зусім не баяцца выходнай лацінскай формы «Стэфан», ды і прозвішча «Стэфановіч» не з'яўляецца ў Беларусі чымсьці ўнікальным нават для праваслаўных.

Дзіўна тое, што, хаця Уладзімір Арлоў увесь час падкрэслівае культурную адсталасць Масковіі у параўнанні з ВКЛ, асабліва ў сферы адукацыі і асветы, найбольш паспяховыя прыклады навуковай кар'еры — гэта прыклады эмігрантаў у тую самую Масковію, Сімяона Полацкага і Гальяша Капіевіча. Здаецца, прыкладаў, каб асоба нязнатнага паходжання зрабіла яскравую кар'еру дзякуючы здольнасцям і адукацыі ўласна ў самім ВКЛ, у кнізе няма. Магчыма, уласна такой і была рэальная сітуацыя ў нашай гісторыі: жорсткай аўтарытарнай уладзе маскоўскага цара, асабліва пачынаючы з другой паловы XVII ст., усё ж былі патрэбныя адукаваныя прафесіяналы.Хай сабе ім «не свяціў» уласна палітычны ўплыў, але матэрыяльнае ўзнагароджанне было адносна шчодрым, і таму некаторыя з іх рабілі выбар на карысць Масковіі, прыязджаючы туды не толькі з Беларусі і Украіны, але і з Германіі, скандынаўскіх краін і г.д. Біяграфіі Скарыны, Гусоўскага і інш., прыведзеныя ў кнізе «Айчына», таксама не дадаюць, здаецца, у гэтым сэнсе гонару Айчыне, моцна скаванай феадальнымі прывілеямі. А тая ці не адзіная ніша, у якой было сканцэнтравана найбольш выключэнняў з гэтага сумнага правіла — Віленская акадэмія, пазней Галоўная Школа і, нарэшце, універсітэт, — у кнізе фактычна не разглядаецца. Сціплая згадка пра яго ёсць, але графічна ён ніяк не прадстаўлены. Хаця гэта якраз той аспект нашай гісторыі, у якім выхадцы з тэрыторыі сучаснай РБ праявілі сябе надзвычай яскрава, і нават заснавальнік будучага ўніверсітэта, віленскі біскуп Валерыян Пратасевіч, з паходжання быў «шляхцічам з Русі Белай». Гісторыя ўніверсітэта, дарэчы, таксама цяжка ўпісваецца ў мадэль бясконца доўгага «Беларускага Сярэднявечча».

Стэрэатып «у нас было ўсё, як у Еўропе, а ў маскоўцаў не было нічога» многім у нашай айчыне падаецца настолькі відавочным і неабвержным, што да яго можна звяртацца як да дзяжурнага, не расшыфроўваючы і не падмацоўваючы канкрэтнымі доказамі. Напрыклад, калі ў аповедзе пра палонных беларусаў, майстроў больш як 50 спецыяльнасцяў, вывезеных падчас вайны 1654—1667 г. у Маскву (с.165), сцвярджаецца: «Шмат якія рамёствы, добра асвоеныя ў Беларусі, расейцам былі зусім невядомыя» — дык было б добра прывесці хоць 2—3 найбольш яскравыя прыклады і ў тым ліку праілюстраваць іх красамоўнымі выявамі адпаведных вырабаў-шэдэўраў нашых продкаў. Падобны прыём шматзначнага замоўчвання, які адразу бачны спрактыкаванаму воку, выкарыстаны і ў біяграфіі Гальяша Капіевіча. З аднаго боку, аўтару аднекуль вядома, што ўлюбёнага ката героя, пакінутага на далёкай радзіме, звалі Базыль. Але калі далей паведамляецца, што Капіевіч «сам прыдумаў дзясяткі тэрмінаў, якімі дагэтуль карыстаюцца расейцы» — дык чамусьці не прыводзіцца ніводнага канкрэтнага прыкладу. А мне асабіста было б вельмі цікава даведацца, што канкрэтна з тэрміналагічных наватвораў нашага земляка дагэтуль засталося ў рускай мове. Гэтаксама і пра тое, якія канкрэтна беларусізмы часта трапляюцца ў выданнях Капіевіча. Недагаворанасць жа пакідае глебу для пэўных падазрэнняў і, канечне, размывае абяцаны ў прадмове эфект прысутнасці.

Завяршаючы гэтую сціплую і недасканалую спробу рэцэнзіі, хочацца падкрэсліць, што большасць з адзначаных недахопаў — не індывідуальная віна аўтараў, а толькі індыкатар псіхалагічнага стану нашага грамадства ў цэлым, паказальнік узроўню распрацаванасці канкрэтных тэмаў і сюжэтаў айчыннай гісторыі, і асабліва — узроўню і маштабу інфармацыйнай і адукацыйнай палітыкі дзяржавы ў гэтай сферы на працягу чвэрці стагоддзя, што мінулі ад абвяшчэння незалежнасці. Безумоўна, многія створаныя кнігай вобразы, як візуальныя, так і вербальныя, застануцца ў свядомасці яе чытачоў на дзесяцігоддзі. А выпраўляць і ўдасканальваць тыя з гэтых вобразаў-стэрэатыпаў, што падаюцца прафесійным гісторыкам найбольш памылковымі, магчыма найперш праз тэматычныя праекты. Надзвычай патрэбныя шматлікія кнігі ў жанры «маляўнічай гісторыі», прысвечаныя асобным перыядам і тэматычным аспектам.

# Patria aeterna

Грунтоўная рэцэнзія выдатнага знаўца айчыннай гісторыі Алеся Белага на нашу кнігу, якая трапіла да чытачоў толькі два тыдні таму, сталася для нас прыемнай неспадзяванкай. Тут нам убачылася нават штосьці ад вядомага захаплення спадара Белага кулінарыяй: справу трэба мець абавязкова са свежым прадуктам.

Выказваючы рэцэнзенту ўдзячнасць як за высокую ацэнку нашай працы, так і за шматлікія слушныя заўвагі і прапановы, мы тым не менш хацелі б адзначыць, што «Айчына» — не навуковая манаграфія і не падручнік, якія вымагаюць дакладнай перыядызацыі, сістэмнага выкладу матэрыялу etc.

Нашая кніга апавяданняў з беларускай гісторыі адрасаваная — пра што сказана ўжо ў анатацыі і прадмове — найперш дзецям і падлеткам. Мы ўяўлялі перад сабой менавіта гэтую аўдыторыю. Адсюль і кот Базыль, па якім сумаваў на чужыне Гальляш Капіевіч, і пытанне з гістарычнай віктарыны (ёю сканчваецца кожнае апавяданне) пра колькасць чатырохногіх ахоўнікаў, якія ў вялікакняскай канцылярыі бароняць дзяржаўныя дакументы ад мышэй і пацукоў.

Вядома, нам і самім хацелася б, напрыклад, уключыць у кнігу аповеды пра рэформы Тызенгаўза або Адукацыйную камісію, але памеры выдання патрабавалі ад некаторых важных тэмаў адмовіцца. (Дарэчы, тым, каго цікавіць дзейнасць падскарбія Антона Тызензаўза і Адукацыйнай камісіі, мы параілі б звярнуцца да «дарослага» выдання — «Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя».)

Нагадаем, што пабачыла свет толькі першая частка «Айчыны». У другой ідзе гаворка, у прыватнасці, і пра Віленскі ўніверсітэт, і пра гараджанаў і сялянства, і пра беларускіх татараў і габрэяў.

Будзем удзячныя за новыя рэцэнзіі. А за першую яшчэ раз шчыры дзякуй Алесю Беламу.

Patria aeterna.

**Уладзімір Арлоў, Павел Татарнікаў**



Панарама Міра (правая частка).

# Здраднікі і «кантактныя асобы»

Штрыхі да пяці гістарычных партрэтаў з XIV стагоддзя. Піша **Піліп Падбярозкін**.

Нямецкі гісторык Вернэр Паравічыні выкарыстаў тэрмін «кантактныя асобы» ў дачыненні да тых людзей, якія дапамагалі літоўскім князям падчас перамоў з Нямецкім (Тэўтонскім) ордэнам. Дакладней сказаць цяжка: назва аб'ядноўвае і братоў Ордэна, і літоўскіх арыстакратаў, якія перайшлі на бок тэўтонаў падчас памежных канфліктаў ВКЛ з крыжакамі XIV ст.

Адначасова тэрмін адлюстроўвае штодзённую рэчаіснасць рэлігійнай вайны паміж літоўскімі паганцамі і прускімі хрысціянамі на працягу амаль усяго XIV ст. Рэчаіснасць, якую можна характарызаваць не толькі (і не столькі) як «вайну за існаванне» («Existenzkrieg»), але таксама як устойлівыя кантакты братоў Нямецкага ордэна, ягоных«гасцей» з Заходняй Еўропы, прускіх арыстакратаў з прадстаўнікамі кіруючага роду Гедымінавічаў.

Мы спынімся на пяці асобах, якія згадваюцца ў прускіх і лакальных нямецкіх хроніках XIV—XV ст. Паспрабуем вызначыць, якую ролю адыгрывалі асобы «другога плана» (звычайныя рыцары) ва ўзаемаадносінах Нямецкага ордэна і сярэднявечнай Літвы ў XIV ст.



Троцкі замак, вотчына вялікага князя Вітаўта.

**Некалькі стагоддзяў літоўцы і тэўтоны не толькі нападалі адзін на аднаго, але і разам палявалі і балявалі**

### Браты Сурвілы — Ганс і Томас

Адзін з братоў Зурвілле — у арыгінале іх прозвішча, відаць, гучала як «Сурвілы» — згадваецца ўпершыню ў хроніцы Віганда з Марбурга ў 1365 г. у сувязі з хрышчэннем Бутаўта, сына князя Кейстута:«Адзін з сыноў караля, якога звалі Бутаўт, застаўся падчас паходу Кейстута дома. Разам са сваімі баярамі і сваім братам Зурвілам яны ўвайшлі ў пушчу».

Пэўна, пад «сваім братам» Віганд мае на ўвазе канкрэтна Томаса Зурвілле. Храніст выкарыстоўвае тэрмін «брат» (*frater*) у дачыненні да Томаса, найхутчэй, у пераносным сэнсе. Але гэта падкрэслівае значнасць персоны.Такім чынам, з гэтага моманту (1365) у землях Ордэна знаходзіўся паважаны літоўскі баярын, з нараджэння паганец, які са сваім братам Гансам доўгія гады выкарыстоўваўся тэўтонамі для самых розных мэт.

Братоў заахвоцілі наданнем рыцарскага статуса, конямі і землямі (каля 1370). Падрабязней пра функцыі братоў паведамляе наступны тэкст з хронікі Віганда (1377 г.): «У тым жа годзе кароль Альгерд... і яго сын Ягайла... пасылалі паслоў да магістра Вінрыка... і, параіўшыся, паслаў магістр да іх комтура Брандэнбурга фон Гогенштайна... перакладаў іх пан Томас Зурвілле, паганец з паходжання».

Віганд не забываецца падкрэсліваць паходжанне братоў («*paganus origine*»), уважліва адсочваючы на старонках сваёй хронікі дзейнасць братоў Зурвілле. Не выключае сумневаў, што і Ганс неадноўчы быў перакладчыкам падчас перамоваў літоўскіх князёў з Ордэнам.

У верасні 1385 хроніка Іагана фон Позільге паведамляе, што браты Зурвілле дапамаглі ордэнскаму войску падчас пераходу праз раку Віллю:«Пайшлі таксама браты пан Томас Зурвілле і пан Ганс... якія добра ведалі мясцовасць і вялі магістра... да адной добрай пераправы, так што перайшоў з усімі сваімі... дзякуючы тым літоўцам... і затым зноў пайшлі паходам на (тую) зямлю».

Імаверна, веды мясцовасці браты атрымалі яшчэ падчас службы Альгердавічам і цяпер выкарыстоўвалі іх, каб дагадзіць працінікам. Аб братах Зурвілле могуць таксама сведчыць «Літоўскія пуцявыя паведамленні»(«*Litauische Wegeberichte*»). У іх згадваецца вёска «*Surwillendorf*», якая суадносіцца з сучаснымі Сурвілішкамі ў Трабскім сельсавеце Іўеўскага раёна. Цалкам магчыма, што браты Сурвілы да хрышчэння валодалі імі — многія месцы ў тагачаснай Літве называліся па імені ўласнікаў.

Браты Сурвілы — прыклад таго, як былы паганец-літовец мог зрабіць хуткую кар'еру ў Нямецкім ордэне, дзякуючы веданню мовы і мясцовасці, блізкаму знаёмству з літоўскімі князямі. Вядома, што ў 1397 Томас Зурвілле атрымаў дадатковыя землі ад Ордэна.

Паводле сведчанняў Марыенбургскай кнігі казначэя, ужо ў студзені 1399 г. Томаса Зурвілле не было ў Прусіі — зімой 1399 г. браты выправіліся да Вітаўта, які задумаў вялікі паход супраць татараў. Паход завяршыўся 12 жніўня 1399 г. разгромам шматэтнічнага хрысціянскага войска на Ворскле. Храніст фон Позільге не забыўся згадаць: «Таксама былі забітыя два пабожныя рыцары, паны Ганс і Томас Зурвілле, браты, верныя і шаноўныя».

Няўдалы крыжовы паход Вітаўта, удзел у якім брала рыцарства з польскіх земляў, Прусіі, Літвы і Русі, стаў апошнім таксама для двух братоў, якія адыгрывалі важную ролю медыятараў паміж Літвой і Ордэнам.

Нашчадкі братоў таксама займалі ў Прусіі заўважнае становішча. Пад 1401 і 1406 гг. у Марыенбургскай кнізе казначэя ўзгадваецца Лукас Зурвілле. Наўрад ці ў Ордэне ў гэты час маглі быць аднафамільцы Томаса і Ганса. Застаецца меркаваць, што Лукас — нашчадак аднаго з братоў, які ўспадкаваў іх маёмасць. Таксама з вялікай імавернасцю можна казаць, што ў Ганса Зурвілле быў сын, якога таксама звалі Ганс. Пра гэтага Ганса ў жніўні 1411 г. Вітаўт пісаў ліст да магістра Генрыха фон Плаўэна. Апошні падазраваў Ганса ў шпіянажы на карысць літоўскага князя. Дарэчы, магістр не паверыў Вітаўту і адабраў частку валоданняў Ганса.

Трэба адзначыць, што пераход братоў Зурвілле не ўспрымаўся літоўскай элітай як факт здрады. Пра гэта кажа іх удзел як у перамовах паміж тэўтонамі і літоўцамі, так і ў паходзе Вітаўта 1399 г.

Але бывала і інакш: браты Ордэна Фрыдрых Майсэн і Іаган Лансберг (пра іх — ніжэй), якія перайшлі на бок літоўцаў, называюцца ханістам Германам Вартбергам «*apostati*» (здраднікі). Нідзе ў пісьмовых крыніцах як пасярэднікі яны не фігуруюць.

У атмасферы ўзаемных паходаў, паляванняў, сяброўства і варожасці па абодва бакі Нёмана ў XIV ст. паміж Літвой і Ордэнам нельга казаць пра нейкі «геапалітычны выбар» для палітычных гульцоў той эпохі. Усе актары як высокага (князі), так і малога (рыцары і баяры) кшталту дзейнічалі зыходзячы з пазіцый асабістай карысці і рэлігійных матываў. Важна, што ў кожным асобным выпадку іх выбар мог успрымацца па-рознаму.

### Кейстутаў кум Гюнтэр фон Гогенштайн

У хроніцы Віганда з Марбурга і ў хроніцы фон Позільге некалькі разоў згадваецца Гюнтэр фон Гогенштайн, комтур замка Брандэнбург. Найчасцей яго імя стаіць побач з імёнамі вялікага князя Кейстута і ягонай дачкі Дануты (у хрышчэнні — Ганны).

Род фон Гогенштайнаў прасочваецца ад XII ст. Прыкладна да сярэдзіны XIV ст. уладанні рода належалі ўжо дзвюм самастойным лініям сям'і. Цікава, што ў сямейнай хроніцы ёсць згадка пра графа Эільгера фон Гогенштайна, які «загінуў у 1190 г. пад Вільняй». Відавочна, аўтар «Поўнай гісторыі» графства Гогенштайн зблытаў графа Эільгера з якім-небудзь пазнейшым прадстаўніком сямейства, што, як многія іншыя рыцары Саксоніі і Цюрынгіі, сапраўды мог удзельнічаць у паходах на Літву.

Гюнтэр, як, імаверна, і яго браты Альгард, Бернард, Мікалай (*Algard, Bernardus, Nicolaus*) былі братамі Нямецкага ордэна. Да часу ягонага знаёмства з братамі Гедымінавічамі ў 1370-я ён ужо быў дасведчаным адміністратарам у Ордэне.

Імаверна, што ў пачатку 1370-х Гюнтэр хрысціў дачку Кейстута Дануту (Ганну), якая выйшла замуж за мазавецкага князя. Мы не ведаем, што значыла ў тыя часы быць хросным бацькам для Гедымінавіча. Аднак з таго моманту комтур Брандэнбурга стаў кантактнай персонай літоўскага князя. Віганд з Марбурга згадвае, калі ў пачатку 1377, падчас паходу, вялікі князь Альгерд запрасіў вялікага комтура Ордэна і іншых кіраўнікоў тэўтонаў да сябе, князь Кейстут папрасіў сустрэчы і супольнай вячэры з комтурам Гюнтэрам. Цікава, што Кейстут запрасіў толькі Гюнтэра, тым самым ушанаваўшы комтура. Вядома таксама, што ў 1381 г., калі Гюнтэр быў комтурам Астэродэ, ён папярэдзіў Кейстута пра змову паміж ягоным пляменнікам Ягайлам і Ордэнам у Давідзішках.

Мы не можам сцвярджаць, што Гюнтэр фон Гогенштайн быў адзіным у Ордэне, каго Кейстут ведаў асабіста і выкарыстоўваў як пасярэдніка. Аднак, паколькі Гюнтэр хрысціў дачку Кейстута, знаёмства з ім магло мець для літоўскага князя асаблівае сакральнае значэнне.

У кантэксце ўзаемных паходаў Ордэна і літоўцаў Гюнтэр мог лічыць Кейстута сваім ворагам (як паганцтва). Аднак, калі разглядаць «рэйзы» (ад ням. Reise, як называліся паходы ў Літву і Прусію) з перспектывы іх непасрэдных удзельнікаў — еўрапейскай арыстакратыі, — «супольны» вораг мог быць адначасова асабістым сябрам.

То быў выпадак не ўнікальны для ўдзельнікаў рэлігійных войнаў у Сярэднявеччы. Напрыклад, крыжакі ў Палесціне мелі сталыя кантакты з сарацынамі. Можна ўспомніць сяброўства імператара Свяшчэннай Рымскай Імперыі Фрыдрыха II Штаўфена і егіпецкага султана Аль-Каміла (1227), што прывяло да мірнай здачы Ерусаліма хрысціянам.

Некалькі стагоддзяў літоўцы і тэўтоны не толькі нападалі адзін на аднаго, але і мелі сумесныя паляванні, святочныя вячэры. Магчыма, гэта і дазволіла Вітаўту Кейстутавічу абаперціся на нямецкую дапамогу ў дынастычнай вайне з Ягайлам.

### Рыцары, якія ўцяклі да паганцаў

У хроніцы Германа Вартберга (верасень 1374) мы знаходзім такі сюжэт:

«...лівонскі магістр з войскам быў пяць дзён і начэй у землях літоўцаў, моцна спусташаючы іх, таксама забіў некалькі чалавек, а іншых павёў з сабой. У той час у Лівоніі па-здрадніцку збеглі да літоўцаў два браты, а менавіта Іаган Лансберг і Фрыдрых Майсэн (*Joannes Lanzebergac Fridericus de Missen*), адважныя воіны з праваднікам па імені Білене, а таксама з усёй зброяй і рэчамі, з якіх нічога не пакінулі дома, з многімі коньмі, не толькі сваімі, але і крадзенымі».

Гэтая згадка цікавая з некалькіх прычынаў. Па-першае, у хроніках, якія нам вядомыя, мы практычна не знаходзім выпадкаў пераходу братоў Нямецкага ордэна на бок паганцаў, ды яшчэ са зброяй і крадзенымі коньмі. Па-другое, «здраднікі» («*apostati*») відавочна выклікалі цікавасць самаго храніста — гэта вынікае з таго, што нам вядомыя імёны адступнікаў, а таксама працяг гісторыі другога рыцара, Іагана Лансберга, сюжэтам пра якога сканчаецца хроніка Германа Вартберга (1378): «У тым жа годзе вярнуўся Іаган Лансберг, нядаўні здраднік».

Пра лёс Майсэна храніст нічога не паведамляе, як і пра матывы абодвух. Па ўсёй імавернасці, Фрыдрых перайшоў на службу да князя Кейстута, пра якога Герман Вартберг распавядае да сюжэта са здрадніцтвам. У любым выпадку пераход быў сплянаваны Фрыдрыхам і Іаганам загадзя — рыцары здрадзілі падчас паходу магістра, узяўшы пры гэтым коней і ўсю зброю. Як бачна, са сваім рыштункам яны хацелі працягваць служыць паганскім кіраўнікам — Кейстуту ці ягонаму брату, Альгерду. Дарэчы, менавіта пасля смерці Альгерда (1377) Іаган Лансберг вырашыў вярнуцца ў Прусію.

### Ці была «вайна на выжыванне»?

Феномен літоўскай язычніцкай дзяржавы ў цэнтры Еўропы XIVст. немагчыма патлумачыць, не выявіўшы сістэму персанальных сувязяў, якія існавалі паміж Гедымінавічамі і братамі Ордэна. Пачынаючы з часоў Альгерда і Кейстута вялікія князі літоўскія стала мелі кантактных асоб у Прусіі, дзякуючы якім вяліся перамовы, ажыццяўляліся сумесныя паходы, былі магчымыя кантакты паміж паганцамі і хрысціянамі. Як правіла, адносіны паміж літоўскімі правадырамі і братамі Ордэна завязваліся падчас «рэйзаў», радзей — падчас хросту паганскіх князёў.

Параўноўваючы сведчанні прускіх хронік, лісты Вітаўта, дадзеныя Марыенбургскай кнігі казначэя, нямецкія мясцовыя хронікі можна з пэўнай доляй імавернасці рэканструяваць біяграфіі асобных братоў Нямецкага ордэна, якія «служылі» літоўскім князям. Такім чынам, асобныя жыццёвыя прыклады могуць скарэктаваць устойлівы міф пра «вайну на выжыванне» паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Ордэнам у XIV ст.



**Піліп Падбярозкін**

нар. у 1991 у Мінску. Выпускнік гістфака БДУ. Стажыраваўся ў Лейпцыгскім універсітэце. Займаецца кантактамі германцаў і ўсходніх славянаў у познім Сярэднявеччы (XIV—XVI ст).

# Пясчаны бераг

Піша **Алесь Кіркевіч**.

Я ачомаўся толькі на халоднай падлозе, неахайна выкладзенай бруднай карычневай пліткай, да якой на імгненне дакрануўся тварам, калі падаў. Машынальна паспеў абярнуцца, але постаць у чорным ды ў балаклаве ўжо сыходзіла, прычыняючы за сабой моцныя жалезныя дзверы. Звонку бразнула засаўка. Убачыць паспеў толькі неймаверна касматую, зарослую поўсцю руку, бо рукавы кіцеля былі закатаная па локаць. Шаўрон, ясна, не разгледзеў. Чачнец? Зрэшты, чаму б не… лагічна.

Троху прыўзняўшыся, я прысеў на кукішкі, азіраючыся навокал. Гэта нейкі падвал ці каземат невядомай мне вязніцы. Амерыканка? Не. Валадарка? Магчыма. Калі стары корпус. Толькі вось масіўныя дзверы тут чамусьці без звыклай «кармушкі» для падачы ежы арыштантам, але з «ваўчком» — каб прыглядаць з калідора. Ды і талчка няма. Значыць, нешта іншае.



**Алесь Кіркевіч**

Нар. 1989 у Гродне, у сям'і гісторыкаў. Быў адным з лідараў Маладога фронту. Пасля Плошчы-2010 асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны ў верасні 2011. Працуе журналістам-фрылансерам.

З-над дзвярэй ледзьве ззяла лямпачка, схаваная пад тоўстым рыфлёным шклом ды прыпячатаная некалькімі металічнымі пасамі, тыпу супрацьударная. Таленавіты архітэктар, незразумела навошта, засунуў яе ў адтуліну ў сцяне — панаваў паўзмрок. Усё памяшканне памерам метры чатыры на чатыры. Недзе ў вышыні — акенца, закладзенае матавымі шклаблокамі, звонку, стопудняк, закратаванае. На сценах — бетонная «шуба».

Па кутах, нібы мяхі, ляжаць дзве постаці — чорная ды камуфляваная. Камуфляж-брытанка, цяжка не пазнаць. Калі засаўка перастала бразгаць, а звонку пачуліся аддаленыя цяжкія крокі, «брытанка» спачатку заварушылася, а пасля пачала набываць чалавечыя рысы. Вось узнялася кароткапагаленая галава, твар… Віця! Так, Віцька, дакладна!

Цёмна-зялёныя вочы хлопца заблішчалі, ён прыўстаў ды зрабіў крок у мой бок, каб прысесці побач. Я здзівіўся, што кіцель быў дужа брудны, парваны ў некалькіх месцах, а здаравезная чорна-чырвоная пляма красавала ў раёне грудзей — заўважыць было няцяжка нават пры такім святле.

— Ты як? — спытаў стары знаёмы ды ўсміхнуўся няголеным скуластым тварам.

— Нармальна, жывы нібыта…

— Тады як сюды? — Віцька неяк сумна ўсміхнуўся, убок.

— Я… зараз скажу… — гэтым разам ужо я адвярнуўся ўбок, спрабуючы ўсё прыгадаць.

— Ну, глядзі. Прыйдзі ў сябе трохі, пасля раскажаш, — Віця паказаў на пластыкавую бутэльку з абрыўкам этыкеткі, якая стаяла раўнютка пад акном, — калі піць схочаш, то там возьмеш.

— А гэта наогул...?

— Пасля-пасля. Усё раскажам.

Сілуэт у брытанцы развярнуўся ды зрабіў крок на сваё ранейшае месца, дзе два састаўленыя драўляныя паддоны былі прыкрытыя нейкім рыззём. Віцька... Ты ніколі не прызнаваў бундэсаўскага камуфляжу, я памятаю. Хоць знешне бундэс — значна больш эстэтычны, але практычнасць для цябе перадусім: адзежа Бундэсверу хутка працiраецца і рвецца на каленях і локцях, таму без шансаў. А як жа выгляд?.. Годзе, гэта наша старая амаль тэалагічная спрэчка.

Чакай, дык як... Я памятаю разбіты вакзал, памятаю, як нырнуў у нейкую варонку за перонамі. Памятаю, як лавіў у прыцэл постаць у камуфляжы-горцы. Памятаю, як яна ўпала. Не памятаю, як і адкуль вакол маёй схованкі выраслі людзі — трое ці пяцёра? Яны смяяліся, бо я ўжо не меў боекамплекту. Стаялі і смяяліся, а я глядзеў на іх знізу. Памятаю, як падскочыў ды кінуўся ўцякаць у бок брамкі ў бетонным паркане, да якой вяла лесвіца. А далей... Святло, усё нібы ў золаце, сосны, пясчаны бераг, возера. Нейкія хлапчукі даюць нырца і ...дастаюць з-пад вады вогненныя шары, якія самі сабой падымаюцца ў неба. Нене, гэта ўжо трызненне.

Я правёў далонню па твары, патыліцы, абмацаў шыю, паварушыў пальцамі на нагах. Усё нібы цэлае. Касцяшкі толькі разбітыя. Далонь троху расшпіліла маланку на куртцы ды схавалася за каўняром кашулі. Крыжыка няма! С..кі я...ныя!.. Але, дзіўна, медальён застаўся. Я трымаў у руцэ расплюшчаны кавалачак срэбра, падобны да манеты, з дзіўным арнаментам ды выявай зоркі. Старадаўні язычніцкі амулет. Яна яго падарыла, калі мы вярталіся з Будапешта. А ёй — падарыў бацька, калі яна мела ўсяго 16, калі яны сям'ёй адпачывалі ў Кактэбелі, калі Крым яшчэ быў... Дзе яна цяпер? Што з ёй?

Пальцы мулялі медальён, а галава не разумела простай рэчы: чаму забралі крыжык, а медальён пакінулі? Крыжык, зрэшты, таксама быў срэбраны, мацерын абярэг... Чаму?

Я яшчэ раз агледзеўся. Гэта ўсё ж такі нейкі ізалятар, інакш «ваўчок» у дзвярах выглядаў бы недарэчна. Адстойнік, магчыма... Тым часам другі «мех» пад сцяной пачаў варушыцца ды кашляць, пасля прыўзняўся ды сеў на сваім паддоне. Грузная постаць у скуранай куртцы, з-пад якой быў бачны акрайчык пінжака ды каўнер светлай кашулі, пачала корпацца ў кішэнях, дастала цыгарэты з запальнічкай. Цырк-цвырк — агеньчык больш яскрава асвяціў заплылы вусаты твар... Ён паглядзеў на мяне ды выпусціў струмень дыму. Крыжакевіч!

— Вітаю, — коратка адазваўся вусаты, пазіраючы ўжо ў іншы бок.

— Добры дзе-ень... вечар.

Я анямеў. Божа, ён жа памёр гады са два таму. Яшчэ да пачатку ўсяго. Да пачатку канца. Няўжо ўвесь гэты час... няўжо тут? Не можа быць.

— А вы...

— Я-я, так. Даўно ўжо тут. Гэта вас апошнім часам пачалі закідваць, змяняць, — вусаты закашляўся ды сплюнуў у бок дзвярэй, — а я — увесь час тут.

Немагчыма. Анатоль Пятровіч памёр два гады таму ад сардэчнага прыступу. Пра гэта пісалі ўсе сайты. «Айцец адраджэння, без якога не абыходзілася ніводная вулічная акцыя...» — гэта пра яго. Вясёлы дзядзька быў, я яго бачыў разы з два. Аднаго разу пасля 2010-га, калі падпісваў нешта ад імя арганізацыі яшчэ на старой управе партыі, калі выйшаў з Акрэсціна.

— Дзе... Што гэта? — я паспрабаваў абвесці рукой наш каземат.

— Гэта — чысцец.

— Я разумею, але...

— Ніх...я ты не разумееш, — Анатоль Пятровіч зноў сплюнуў. — Ты ў Бога верыш?

— Так.

— А ў рай і пекла?

— Ну, так.

— Ну! Дык гэта — чысцец.

— ...

— Ты ж не думаў, што цябе па той бок святы Пётра сустрэне з экскурсіяй. Альбо што ў казан са смалой кінуць. Гэта чысцец для нас. Такі, якім яго можа ўспрыняць наша свядомасць. Бо мы пра гэта думалі ўвесь час, чакалі, папярэджвалі... Нас не слухалі. Я не дачакаўся там. Вы з ім, — Крыжакевіч паказаў на спячага Віцьку, — дачакаліся...

— То бок для «сепараў» — іншы чысцец?

— Не ведаю, мо іх там геі брусэльскія будуць тр...ць, — дзядзька ўсміхнуўся ды зноў закашляўся.

Я таксама паспрабаваў усміхнуцца. Рука аўтаматычна пацягнулася ў кішэнь па цыгарэту, але там апынуўся толькі пусты пачак. Картон і тонкі слой палімеру захрустаў у кулаку. На імгненне запанавала ціша.

— Дык, а што... далей?

— Ты яшчэ не дома, сынок. Не бойся, бо вас — маладых і ў камуфляжы — часта кудысьці пераводзяць. Уверх, — Крыжакевіч прыўзняў цыгарэту, — ці ўніз, я не ведаю. Паглядзіш. Але ты яшчэ не дома, таму...

Засовы на дзвярах зноў загрымелі. Палітык таропка затушыў аб сцяну ды схаваў цыгарэту, прытуліўшыся да свайго кута. «Тармазы» павольна адчыніліся ўнутр, з калідора ўдарыла неймавернае святло, такое ж, як там, дзе пясчаны бераг, сосны і вогненныя шары, у тым трызненні. Кантрастна да святла стаяла чорная фігура, дэталі якой разгледзець было немагчыма.

— Несцяровіч ёсць?

— Я, — ці тое вымавіў, ці тое прашаптаў пасля кароткай паўзы.

На выхад.

*22.01.2017*



НАСТАССЯ РОЎДА



Казачная спявачка Ваданосава: у беларускай музыцы ўзыходзіць новая зорка. Кацярына валодае ўнікальным голасам, грае больш чым на пяці музычных інструментах, піша вершы ды музыку, шые ды рэканструе сярэднявечныя строі. Яна можа зрабіць дакладную копію пераплёту кнігі XIII стагоддзя ці напісаць кельцкім шрыфтам VI стагоддзя так, што не адрозніце ад арыгіналу. Акрамя ўсяго гэтага, Кацярына паспявае быць жонкай і мамай для сваіх двух дзетак. Цалкам гутарку чытайце на nn.by.




Вядомая беларуская плыўчыха Аляксандра Герасіменя размясціла ў сваім фэйсбуку вясёлае фота з падарункамі з горада Бяроза. Прызёрка Алімпійскіх гульняў у Рыа ладзіць майстар-класы для дзяцей у розных Беларускіх гарадах. І ў кожным рэгіёне беларускай спартоўцы дзячаць, як умеюць. У Бярозе гэта атрымалася вось так.



Павел Севярынец выпадкова знайшоў дзве карціны Пятра Сергіевіча. Адбылося гэта ў Смаргонскім раёне ў былой хаце ксяндза Адама Шутовіча. Дом выкупіў прадпрымальнік Станіслаў (размаўляе па-беларуску). «Пакуль аглядалі дом — знайшлі дзве невядомыя карціны Пётры Сергіевіча. Алесь Марачкін гатовы палотны рэстаўраваць. Музеі Купалы і Луцкевіча гатовыя прыняць новага Сергіевіча на баланс. А ў самім доме варта адкрыць музей Шутовічаў — спадар Станіслаў пагадзіўся дапамагчы», — кажа Севярынец.



Улады Парыжа запусцілі ў горадзе два беспілотныя мініаўтобусы з электрычнымі рухавікамі. Пакуль гэты праект лічыцца эксперыментальным, але ў выпадку яго поспеху гарадскія ўлады гатовыя і далей развіваць такі транспарт.




У крамах з'явіліся шпалеры з беларускім арнаментам. Фота: Сяргей Маліноўскі.



## Анекдоты і жарты

* * *

Аднойчы будзільнік адмовіўся мірыцца са сваім лёсам і пачаў ухіляцца і наносіць удары ў адказ.

* * *

— Вам сумна і самотна? Няма чым сябе заняць?

Прыходзьце да мяне. Будзем разам рабіць рамонт.

* * *

– Усе непрыемнасці калі-небудзь заканчваюцца, ужо паверце мне.

– А вы аптыміст, аднак.

– Не, я вартаўнік на могілках.

* * *

– Дарагая, я хачу крыху пажыць для сябе.

– Ну пажыві... пакуль я фарбуюся.

* * *

Адэская мама выгаворвае сыну:

– Ідзі, ажаніся, ідзі!.. Рабі маму сіратой!

* * *

Тое, што вам не адмовіла жанчына, нічога не значыць. Можа быць, яна не адмовіла не вам, а сабе.

* * *

— Добры дзень, хачу запісацца на фітнэс.

— Абяцанне з прычыны Новага года?

— Так.

— У нас ёсць аднадзённы курс з чатырма сэлфі.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Як відна з тэлеграм аб выбарах**, у Расеі праходзяць у Думу болей людзі, што стаяць за народную свабоду, і сацыялісты. У нашай Беларусі, Валыні, Заходняй Украіне і Польшчы прайшлі найбольш людзі, што не стаяць за свабоду і лепшую долю працуючага народа: павыбіралі ў Думу памешчыкаў, чарнасоценцаў, духоўных.

**«НН». №6. 1907.**

**А вы падалі б руку Аляксандру Лукашэнку?** «Лукашэнка за час свайго кіравання шмат куды заходзіў і шмат адкуль сыходзіў. Мала, каб ён прыйшоў адзначыць Дзень Волі, важна, каб ён увайшоў з намі ў тую самую Волю, у нашу Беларусь. Толькі ў такім выпадку яму можна пацiснуць абедзве рукі, бо калі ты паціскаеш толькі адну руку, то ніколі не ведаеш, што робіць другая», — адказаў паэт Алесь Разанаў.

**«НН». №5. 2007.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 12 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 31.01.2017.

Замова №491.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 17002